АЛЬМАНАХ СУЧАСНАЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

# pARTisan

**Заснавальнік Артур Клінаў**



**Ідэя праекту:** Артур Клінаў, Павел Лаўфэр
**Галоўны рэдактар:** Артур Клінаў
**Рэдактар:** Лія Кісялёва

**Дызайн і вёрстка:** Маск & Feddenka Ryazanov's Fake Vintage Studio

**Адрас:**
вул. Чарвякова 18-63
220068 Мінск, Беларусь
**e-mail:** arturklinov@yahoo.de



**На вокладцы:** Аляксей Жданаў. «Мутант Сямёнаў». 1990 / Aliaksej Zhdanau. «Mutant Siamyonau». 1990
У нумары выкарыстаныя фрагмэнты з раману Артура Клінава «Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца»

ISSN 1689-7439
enter kultura
miesięcznik wymiany idei

# 17
# ГОРАД СОН







А.Р.Ч. «Рабіна». 2008–2009
A.R.Ch. «Wild Ashes». 2008–2009

Артур Клінаў. «Вартавыя Гораду Сонца». 2004
Artur Klinau. «Lookouts of the Sun City of Dreams». 2004

Калі ехаць у Менск цягніком з Эўропы, то перш чым вас сустрэне Плошча Брамаў Гораду Сонца, вы мусіце прайсьці праз чысьцец — першую Браму, што стаіць на мяжы Краіны Шчасьця. Усе цягнікі пры ўезьдзе на яе ўжо былую тэрыторыю павінны зьмяніць колы. Па-свойму гэта вельмі запамінальнае, дзіўнае відовішча. Уначы, калі вы прыбываеце на мяжу (а большасьць цягнікоў з Эўропы праходзіць мяжу чамусьці менавіта ўначы), пасьля пашпартнага ды мытнага дагляду ваш вагон уедзе ў вялізарны, даўжэзны цэх.

Эстэтыка гэтага цэху засталася бязь зьменаў такой самай, як некалькі дзесяцігодзьдзяў таму. Высокія, закураныя вокны, сьцены шэра-бруднага колеру, шурпатыя, перафарбаваныя дзясяткі разоў, зялёныя мэталічныя сталы для прыладаў. Вежа крана, якая час ад часу з шумам пралятае ў вас над галавой. Вялікая колькасьць маленькіх цёмна-рудых дзьвярэй, што вядуць кудысьці ўбок.

З мноства гэтых дзьвярэй, раскіданых паўсім пэрымэтры цэху, пачынаюць выходзіць нейкія маленькія людзі, апранутыя ў цёмныя зашмальцаваныя робы. Яны ня надта прыязна пазіраюць на вас, калі вы з чарговай начной папяросай выходзіце ў тамбур ды пачынаеце прыглядацца да іх. Аднак насамрэч яны зусім не зласьлівыя. Магчыма, іх крыху раздражняе, што ў такі позні час, у гэтым паўцёмным брудным цэху ім даводзіцца грукацець па мэталe цяжкімі кувалдамі, цягаць пудовыя гакі ды рухаць калесьнікі восяў з-пад вагонаў. А вы, такі чысьцюткі ды вальяжны, едзеце ў Краіну Шчасьця альбо наадварот — такі шчасьлівы вяртаецеся зноў у Эўропу. Зрэшты, калі б вы праяжджалі мяжу гадоў дваццаць таму, у часы сухога закону, гэтыя ж людзі ахвотна дапамаглі б вам здабыць бутэльку гарэлкі за падвойную цану, пачак цыгарэтаў, а можа, і што-небудзь яшчэ.

З гучнымі крыкамі й мацюкамі маленькія чорныя чалавечкі пачынаюць працу. Шматтоннымі дамкратамі яны ўздымаюць ваш вагон на вышыню паўтара-два мэтры ды выкочваюць з-пад яго колавыя восі. У гэты час ува ўсім навакольлі стаяць дзікі ляскат жалезьзя ды расьпеўны опэрны рогат дамкратаў, што вядуць сваю нескладаную, але натхнёную тэму. Над галовамі ўсіх прысутных, з канца ў канец, па цэху гойсае кансольны кран, на якім вось ужо шмат гадоў вісіць тая самая графічная карціна, дзе намаляваны чалавек у касцы, на якога падае нешта цяжкое. Вэрбальны сэнс гэтага плякату зразумелы, яго ведае кожны падлетак: «Ня стой пад стралой — заб'е».

Аднак мне заўсёды здавалася, што гэтая выява не адпавядае ўрачыстасьці моманту ўезду ў Краіну Шчасьця. Лепш было б замяніць яе нечым больш патасным. Самым вясёлым варыянтам, мабыць, стаўся б плякат: «Сардэчна запрашаем у Пекла!» А калі сур'ёзна, то, вядома ж, на гэтым месцы павінен вісець транспарант чырвонага кумачу, на якім вялікімі белымі літарамі было б напісана: «Сардэчна запрашаем у Краіну Шчасьця!»

Тым часам чорныя чалавечкі заканчваюць сваю працу. Яны апускаюць вагон на замененыя колы, і вы, задаволены ўбачаным, працягваеце вашае падарожжа далей. Наперад — у Краіну Шчасьця. Насустрач Гораду Сонца.

Фрагмэнты з раману Артура Клінава
«Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца»

Artur Klinau, Fragmenty z powieści
«Przewodnik po Mieście Słońca»
Przełożyła Małgorzata Buchalik
WYDAWNICTWO CZARNE. Wołowiec 2008





Jeśli przyjeżdżacie do Mińska pociągiem z Europy, zanim powita was plac Wrot Miasta Słońca, musicie przejść przez czyściec – przekroczyć pierwsze Wrota strzegące granic Krainy Szczęścia. Wszystkie pociągi, wjeżdżając na teraz już byłe jej terytorium, muszą zmienić koła. Jest to na swoj sposob niezapomniane i dziwne widowisko. Nocą, kiedy docieracie na granicę (a większość pociągow z Europy przekracza granicę właśnie nocą), po kontroli paszportowej i celnej wasz pociąg wjeżdża do wysokiej i długiej hali. Wystroj hali nie zmienia się od dziesiątkow lat. Wysokie zakopcone okna, brudnoszare ściany, kulawe, niezliczoną już ilość razy przemalowywane zielone stalowe stoły na narzędzia, dźwig, ktory co chwila z łoskotem przesuwa się nad waszą głową, i mnostwo malutkich ciemnobrązowych drzwi, wiodących nie wiedzieć dokąd.

Z tego mnostwa drzwi, rozrzuconych po całej długości hali, zaczynają wychodzić maleńcy ludzie, ubrani w ciemne, brudne fartuchy. Rzucają wam nieprzyjazne spojrzenia, kiedy obserwujecie ich, paląc papierosa w drzwiach wagonu. Ale są nieszkodliwi. Pewnie nieco irytuje ich to, że o tak poźnej porze, w tej ciemnej hali muszą walić młotami w stal, przeciągać ciężkie haki i taszczyć osie z kołami. A wy, czyściutcy i dumni, jedziecie sobie do Krainy Szczęścia, albo odwrotnie – całkiem już uszczęśliwieni wracacie do Europy. Nawiasem mowiąc, gdybyście przekraczali granice dwadzieścia lat temu, w czasach prohibicji, robotnicy chętnie pomogliby wam zdobyć za podwojną cenę flaszkę wodki, paczkę papierosow czy cokolwiek innego.

Maleńcy czarni ludzie, pokrzykując i klnąc, biorą się do roboty. Wielotonowe dźwigi unoszą wasz wagon połtora czy dwa metry nad ziemię i wytaczają spod niego osie. Robotnicy pracują w piekielnym zgrzycie i pisku maszynerii. Nad ich głowami przez całą długość hali sunie dźwig konsolowy, na ktorym od niepamiętnych lat wisi wciąż ten sam obrazek: coś ciężkiego spada na człowieka w kasku. Przekaz jest jasny, zna go każde dziecko: „Nie stoj na linii strzału, bo zginiesz". Zawsze jednak miałem wrażenie, że sam znak nie odpowiada graficznie podniosłości chwili. Dobrze byłoby go zastąpić czymś poważniejszym. Na przykład radosnym plakatem: „Witamy w Piekle!". Albo, mowiąc już serio, czerwonym transparentem z wielkimi białymi literami, układającymi się w napis: „Witamy w Krainie Szczęścia!".

Tymczasem czarne ludziki kończą pracę. Opuszczają wasz wagon na nowe osie i teraz możecie sobie – szczęśliwi i pełni nowych wrażeń – spokojnie podrożować dalej, na spotkanie Miastu Słońca.

Тацяна Арцімовіч

# Са-га пра мастака й паэта Аляксея Жданава

**Расказаная чалавекам, якія ніколі ня ведаў Жданава, і таму выдуманая ўся цалкам**



Аляксей Жданаў. З сэрыі «Мутанты». Канец 1980-х
Aliaksej Zhdanau. From the series «Mutants». End of 1980s

Я пазнаёмілася зь ім пасьля таго, як яго ня стала. Спачатку ўбачыла яго нуду, затым пачула ягонае імя, што стала гучаць вакол мяне ўсё часьцей, потым даведалася, што ён паэт, і, нарэшце, у маё жыцьцё ўвайшоў ягоны міт.

***

Я мыслю, потому что «эрго сум».
Мудрец напутал. Я не верю фразам.
А у тебя веснушки на носу.
Лиловый у тебя фонарь под глазом.
Ты просто так. Ты вышла погулять.
Я мыслю. Мне неважно остальное.
Вот краткий список: праведница, блядь,
Невесты, жены, окна; все иное.
Вот это — двор, вот это — белый свет.
Мне грустно. Я живу. Я срок ломаю.
Я плачу. Я бездельник. Я поэт.
Я водку пью. Я денег занимаю.
Как сердце бьется! Как душа болит!
Я мыслю. Я живу, по крайней мере.
Ведь тридцать лет с тех пор, как я убит.
Как нет меня в живых. Но я не верю.
Ты угодила в гости к мертвецу.
Тебе покойник раскрывал объятья.
А у тебя веснушки по лицу
Текут и струйкой падают на платье.
Вот это — руки, ноги, голова.
Вот это — мы, а это — Смерть-старуха.
Я не забуду страшные слова,
которые услышу краем уха.
1973–79

***

Менскае арт-падпольле 1970–90-х для майго пакаленьня доўгі час існавала як легенда. Акружаныя культурнай пустэчай пачатку — сярэдзіны нулявых, мы былі змушаныя шукаць натхненьне ў заходняй культуры: першая хваля беларускага Адраджэньня ўжо даўно сыйшла, у Менску амаль нічога не адбывалася, ува ўсякім разе, так нам здавалася, а тое, што заслугоўвала ўвагі, здаралася недзе за мяжой (ды й пра гэта мы даведаліся нашмат пазьней). Складалася поўнае адчуваньне таго, што беларуская жывая культура — гэта… нічога няма?

Далёкім рэхам даляталі да нас гісторыі пра пэрформансы Людмілы Русавай і Ігара Кашкурэвіча, пра «партызанскія» праекты Ігара Цішына, выставы ў галерэі «Шостая лінія» й на Калектарнай (само слова «Калектарная» здавалася нейкім загадкавым і містычным: дзе тая Калектарная?), узьнікалі прозьвішчы тых, хто ўжо сыйшоў з жыцьця, ці зьехаў, ці застаўся. Але дзе? Крыўдна было тое, што ў той момант, калі адбываўся бум менскага арт-падпольля, я ўжо была, проста дзесьці спала на ўскраіне Менску, забаўлялася плястылінавымі гарадамі й катаньнямі на санках з горкі.

Калі, нарэшце, прачнулася й паставіла пад сумнеў *нічога няма* (а адказаць на гэтае пытаньне было неабходна для таго, каб выявіць, у першую чаргу, сябе на мапе гэтага халоднага гораду), спробы прарваць інфармацыйную блякаду посьпеху не прыносілі. Тыя, хто ведаў, не разумелі, навошта камусьці гэта патрэбна (у сэнсе — хіба гэта цікава?). І наогул, пра гэта ведаюць усе (менскае падпольле славілася сваім эскапізмам і было падобнае да катла, для якога сьвет за ягонымі сьценамі ня тое каб не выклікаў цікавасьці — ён проста не існаваў!).

Летась у Музэі сучаснага мастацтва ў Менску адкрылася выстава «Беларускі авангард. 1980–90-я», якая прайшла амаль не заўважанай — ні крытыкай, ні прэсай, ні гледачамі. Было кінута некалькі камянёў, маўляў, які ж гэта авангард, калі яшчэ 50 гадоў таму ў Эўропе… ну й далей па шаблёне пра другаснасьць беларускага мастацтва ў прынцыпе й пра бездапаможнасьць нашых мастакоў. Але я ішла да гэтых карцін з адмысловым адчуваньнем, разумеючы, што, магчыма, цяпер адбудзецца нешта для мяне вельмі важнае. Справа была ня толькі ў мітах, якія зачаравалі юную галаву. Я ішла, каб убачыць час, які я праспала, зразумець месца, якое стала маёю калыскай. Бо аднойчы я прачнулася й раптам убачыла, што сон, пра які чытала ў падручніках гісторыі — жудасны, абсурдны, змрочны, — працягваецца. «Чаму?» — пыталася я ў сваіх бацькоў. Яны, не разумеючы пытаньня, пацiскалі плячыма. Заставалася адно — знайсьці адказ самой.

***

СА-ГА О МУТАНТЕ СЕМЕНОВЕ,
которая рассказана самим Семеновым
и является вымыслом вся целиком

Как мутант Семенов взял мутантку Клаву,
полюбивши, в жены и прижил с ней дочь,
Черную, как сажа, синюю, как небо,
желтую, как мыло, серую, как моль.
Взял мутант Семенов у мутантки Клавы
Рубель тридцать восемь и пошел в кино,
а в кино он видит на большом экране,
как мутантка Клава спит давно с другим.
Взял мутант Семенов бритву-нержавейку,
выпил рюмку водки, и пришел домой,
и зарезал Клаву, и малютку-дочку,
и старушку-тещу, тестя-старичка.
Как четыре года быстро пролетели,
и мутант Семенов вышел из тюрьмы,
и мутантку Раю взял мутант Семенов,
Уломав насилу, в жены для любви.
А мутантка Клава встала из могилы,
оборотнем стала и пошла гулять.
И мутант Кириллов с этой самой Клавкой
По любви горячей прижил дочку вновь.
Трансмутантка-дочка выросла большая,
вскоре вышла в люди, кончила нархоз.
Звать ее Светлана. Черная, как сажа.
Синяя, как небо. Серая, как моль.
Знать она не знает, кто она такая.
И торгует пивом в лавке на углу.
И имеет за день сто рублей навару.
И не пьет ни грамму. И со всеми спит.
Милые мутанты, люди дорогие!
С этой самой Светкой спал и я не раз.
С черною, как сажа, господи Иисусе!
А на самом деле — серою, как моль.
Вот какие страхи с нами происходят.
Ну а мы не знаем ровно ничего.
А во всем, конечно, лишь мутант Семенов,
подлый многоженец, только виноват.

***

…З карціны на тле нейкага дзіўнага, цёмнага, злавеснага гораду на мяне глядзелі істоты з круглымі шэра-сінімі тварамі й вылупленымі — ці то ад жаху, ці то ад безнадзейнасьці — вачыма. Гэта была «Хмурная раніца» Аляксея Жданава. Горад за сьпінамі гэтых істотаў як быццам нельга было апазнаць — фантазія ці страшны сон мастака? Але я пазнала гэты горад. Гэта быў Менск, на ўскраіне якога (карціна датавалася 1989 годам) у гэты момант спала я. Горад, які я памятала са свайго сну, быў сонечны й радасны, напоўнены адчуваньнем сьветлага будучага й бясконцага шэрагу адкрытых дзьвярэй. Ён быў зусім не падобны да гораду Жданава. Але ў той момант, калі я паглядзела на палатно мастака, мой горад, фасады будынкаў якога ўжо былі пакрытыя кракелюрамі, растварыўся, як фантом, агаліўшы сваю рэальную пустэчу. Мастак сваёю працай распавёў мне больш, чым вялізныя маналёгі маіх агорнутых сном бацькоў, інтэлектуальныя перадачы па ТБ і школьныя падручнікі, што ўвесь час перапісваліся пад правільную ідэалёгію.

Я глядзела на нуду Жданава: змрок над горадам, дзіўныя істоты гэтага гораду не палохалі. Я засяроджвалася на стуленых вуснах жыхароў-мутантаў і раптам пачынала чуць іхны ціхі шэпт, іх песьню — пра тое, што, здаецца, няма канца гэтай «резине», і за дзьвярмі апынаюцца дзьверы зноў, і нібыта горад вось-вось прачнецца, а ён яшчэ глыбей апускаецца ў сон, што чалавек чалавеку воўк у гэтым горадзе, а таго, хто не жадае надзяваць парцалянавую маску абыякавасьці, гэты горад выплёўвае. Як ён гэта зрабіў з самім мастаком.

Мир долго собирался стать иным,
Но стал таким же — все наоборот.
Я притворялся тяжелобольным
За гаснущий в агонии народ,
За гибель рода в море выпивох,
За полное лишение примет.
Но в свете параллельности эпох
Моей болезни, оказалось, — нет.
И, пустомеля из числа притвор,
Я буду с неизбежностью изъят
Из нынешних, учетных, этих пор,
Перемещен в «ничто» — и буду рад.
1979

***

Было два гарады. У адным, змрочным і цёмным, жыў мастак і паэт Аляксей Жданаў. Бэтонныя й шкляныя дамы гэтага гораду абступаюць з усіх бакоў, не даюць дыхаць, накіроўваюцца ўверх, прабіваючы нябёсы наскрозь. А адтуль — холад і забыцьцё. Гэты горад жыве на тварах ягоных жыхароў, у вачах якіх адлюстроўваецца яго полымя. Бо гэты горад гарыць у вечным агні.

Жыхары-здані гэтага гораду маўчаць. Са шчыльна сьціснутымі вуснамі й запалёнымі ад бяссонных начэй вачыма блукаюць яны па камянях гэтага гораду. Яны ніколі ня сьпяць. Яны плачуць сухімі сьлязьмі. Вера засталася за іхнымі сьпінамі. Перад імі глухая, непераадольная сьцяна — паміж карцінай, у якую яны зьмешчаны, і іншай, жывой рэальнасьцю. Але ці жывой? Можа, мастак піша люстэрка, у якім я бачу сябе?

Быў яшчэ адзін горад — вечны. Горад, які бачыў мастак, калі заплюшчваў вочы ці забываўся. Гэты горад заліты сонечным сьвятлом, за ягонымі каменнымі сьценамі таксама ня сьпяць. Але там весяляцца, цешацца і, седзячы за сьвяточным сталом, чакаюць падарожніка, які праз горы й пустэльні, зьмярканьне й ноч сьпяшаецца пасьпець на бяседу ў Кане Галілейскай.

У гэты вечны горад мастак марыў вярнуцца. Калі-небудзь, калі атрымаецца прабіць глухія абыякавыя жоўтыя сьцены, прадраць палатно й выйсьці за межы рамы, у якую яго зьмясьцілі, — каб нарэшце выбрацца з фантомнага сьвету, населенага зданямі, у якім бэтонныя дамы шэрым пылам адлюстроўваюцца на тварах жыхароў, і ўбачыць сонца, горад, заліты сонцам, людзей з сонечнымі абліччамі, нябёсы, што даюць сьвятло.

У горадзе, дзе жыў мастак і паэт Аляксей Жданаў, не відаць неба, у ім не бывае сонца, бо *сам гэты горад ёсьць Сонцам*. Я нарадзілася ў гэтым горадзе. Я купалася ў ягоных прамянях, што, як я думала, належалі сонцу, а гэта быў сам горад. Горад, камяні якога жоўтыя не таму, што залітыя сьвятлом, а таму што самі натуральна ёсьць жоўтымі.

***

На небе — желтый развод.
Желтые наши дома.
Кто-то не ест и не пьет,
весело сходит с ума.
Кто-то над книгой сидит,
песню мурлычет под нос.
А за окошком дождит —
долго, солидно, всерьез.
Желтый удушливый дым —
кроткая совесть моя.
Мир за окном объясним
в терминах небытия.
Смешаны запах и цвет
и опрокинуты в сон:
заполучили букет,
образ грядущих времен.
Желтые, как анаша.
Чувственный самообман.
…катится разум, как шар —
маленький мой кегельбан.
1979

***

*«І тут я зноў чамусьці ўспомніў пахаваньне, цяпер ужо Жданава. Народу тады ў ягонай кватэры сабралося шмат: сябры, яго сяброўкі, прыхільнікі. Усе былі шакаваныя нават не самой ягонай сьмерцю: ён шмат піў, маючы слабое сэрца, таму яна была чаканай. Шакавала іншае — ейная недарэчнасьць. Аляксей піў з раніцы ў нейкім шалмане ў тым жа бараку, дзе жыў Кім. Потым ён заснуў за сталом. Побач стаяла выварка з кіслай капустай. Ён прыхінуўся да яе галавой, прыціснуў краем шыю й задыхнуўся ў сьне.*

*Я памятаю, як у ягоную кватэру прыходзілі ўсё новыя людзі. Яны падыходзілі да труны, ля якой, не адрываючы вачэй, сядзела ў чорным яго раздушаная горам маці, потым выходзілі на кухню, выпівалі гарэлкі й ішлі моўчкі паліць у пад'езд. На наступны дзень пасьля пахаваньня ўсе зноў сабраліся ў ягонай кватэры на памінкі. Спачатку ціха сядзелі й пілі. Але раптам, пасьля нейкай чаркі, усіх апанавала вар'яцкая весялосьць: разам загаманілі, пачуўся сьмех, яго станавілася ўсё болей. Праз гадзіну-паўтары ўсе разьехаліся весяліцца ў іншыя месцы, нібы нічога не было, а калі й было, то лепш хутчэй забыцца».*

*(З раману Артура Клінава «Шклатара»)*

Я заплачу мокрымі сьлязьмі, каб тушыць пажар вакол сябе. Я буду прабівацца скрозь палатно, угрызацца ў яго, рэзаць, каб ня стаць зданьню гэтага гораду. Я пабудую свой вечны горад, каб даць сабе шанец аднойчы ў яго вярнуцца.

***

…Луна для всех. Для психа. Для микроба.
Для быта, пропитавшегося серой.
«От скуки бытия», от слов, от злобы
я становлюсь на время мышкой серой.
Под койкой схоронюсь в укромной щелке,
бессмертный со своим конечным счетом.
И выметут с утра мой трупик щеткой
и к прочим сопричислят нечистотам.
1979


Аляксей Жданаў. «Гаспадары Месяцу». 1988
Aliaksej Zhdanau. «Landlords of the Moon». 1988

OPOWIEDZIANA PRZEZ OSOBĘ, KTÓRA NIGDY NIE ZNAŁA ŻHDANOVA, I DLATEGO CAŁKIEM ZMYŚLONA

TACIANA ARCIMOWICZ

# SA-GA O ARTYŚCIE I POECIE ALEKSEYU ZHDANOVIE

Poznałam go już po tym, gdy odszedł. Na początku zobaczyłam jego przygnębienie, potem usłyszałam jego imię, które coraz częściej zaczęło pojawiać się w moim otoczeniu, następnie dowiedziałam się, że jest poetą i, nareszcie, do mojego życia wkroczył jego mit.

***

Mińskie podziemie artystyczne z lat 1970–1990 przez długi czas było legendą mojego pokolenia. Pogrążeni w kulturalną pustkę początku–środka lat dwutysięcznych byliśmy zmuszeni szukać natchnienia w kulturze zachodniej, ponieważ pierwsza fala białoruskiego odrodzenia już minęła. W Mińsku prawie nic się nie działo, więc mieliśmy takie wrażenie, że to, co zasługiwało na uwagę, miało miejsce za granicą (dowiadywaliśmy się o tym i tak bardzo późno). Panowało przekonanie, że białoruska żywa kultura to... nic?

Dobiegały nas historie o performance'ach Ludmiły Rusavaj i Igora Kashkurevicha, o „konspiracyjnych" projektach Igora Tishyna wystawach w galerii „Szósta linia" oraz przy Kalektornej (sam wyraz „Kalektornaya" wydawał się tajemniczy i mistyczny: gdzie jest ta Kalektornaya?). Ujawniały się nazwiska tych, którzy już odeszli do innego życia albo wyjechali, albo zostali. Lecz gdzie? Przykro mi było, że w momencie, kiedy trwał bum mińskiego podziemia artystycznego, już byłam, ale po prostu spałam gdzieś na obrzeżach Mińska, bawiąc się plasteliną oraz zjeżdżając na sankach z pobliskiej górki.

Gdy wreszcie mnie oświeciło, zwątpiłam w to nic (rozwianie tych wątpliwości było konieczne dla mnie po to przede wszystkim, żeby określić swoje miejsce w krajobrazie tego zimnego miasta). Podjęte próby pokonania blokady informacyjnej nie odnosiły sukcesów. Ci, którzy wiedzieli, nie potrafili zrozumieć, w jakim celu komuś jest to potrzebne, w tym sensie, czy to jest interesujące? W ogóle to był powszechnie znany fakt. (Miński underground słynął ze swojego eskapizmu i przypominał kocioł. Świat poza ścianami tego kotła nie tylko nie wzbudzał zainteresowania, wręcz jakby po prostu nie istniał!)

W zeszłym roku w Muzeum Sztuki Współczesnej w Mińsku została zorganizowana wystawa pod tytułem „Białoruska awangarda. Lata 1980–1990". Przeszła prawie niezauważona ani przez krytyków, ani przez prasę, ani przez publiczność. Rzucono parę przysłowiowych kamieni, a mianowicie twierdzono, jaka to awangarda, skoro w Europie jeszcze pięćdziesiąt lat temu..., i tym podobne rzeczy – według utartego szablonu – na temat drugorzędności sztuki białoruskiej oraz na temat bezradności naszych artystów. Pomimo to podążałam do tych obrazów z irracjonalnym przeczuciem, myśląc, że być może teraz wydarzy się dla mnie coś bardzo ważnego. Rzecz była nie tylko w mitach, które oczarowały młodą głowę. Zdążałam, żeby zobaczyć czas, który przespałam, poczuć miejsce, które było moją kołyską. Albowiem pewnego dnia obudziłam się i nagle spostrzegłam, że ten sen, o którym czytałam w podręcznikach historii, fatalny, absurdalny, ponury, trwa. Dlaczego? Pytałam swoich rodziców. Nie rozumiejąc pytania, tylko wzruszyli ramionami. Zostało mi jedno wyjście – poszukać odpowiedzi.\

***

Z obrazu w tle dziwnego, ponurego, złowrogiego miasta przyglądały mi się pewne stworzenia o okrągłych szaroniebieskich twarzach i wytrzeszczonych oczach czy to z powodu strachu, czy z powodu beznadziei. Był to Pochmurny poranek Alekseya Zhdanova. Miasto z tyłu tych stworzeń było jakby trudne do rozpoznania, czy jest to wyobraźnia, czy okropny sen malarza? Ale poznałam to miasto. To był Mińsk, na obrzeżach którego (obraz był datowany na rok 1989) w tamtym momencie spałam. Miasto, które pamiętam ze swoich snów, było słoneczne, radosne, wypełnione przeczuciem świetlanej przyszłości i nieskończonej ilości otwartych drzwi. Nie było to wcale podobne do miasta Zhdanova. W tym momencie jednak, gdy spojrzałam na płótno artysty, moje miasto, którego budynki już były pokryte krakelurą, rozpłynęło się jak widmo, ukazując realną pustkę. Artysta swoją pracą przekazał mi więcej niż długie monologi moich „śpiących" rodziców, intelektualne programy w telewizji białoruskiej i podręczniki szkolne, które przez cały czas były zmieniane zgodnie z przyjętą ideologią.

Przypatrywałam się przygnębieniu Zhdanova: zmrok nad miastem, dziwne stworzenia w tym mieście, nie czułam strachu. Nasłuchiwałam zaciśniętych ust mieszkańców-mutantów i nagle zaczęłam słyszeć ich cichy szept, ich śpiew, o tym że, wydaje się, nie ma końca ten „ciąg", a za drzwiami są następne drzwi, i, wydaje się, że miasto tuż-tuż się budzi, a ono jeszcze bardziej zapada się w sen. O tym, że człowiek w tym mieście jest niczym wilk dla człowieka, a tego, kto nie włoży porcelanowej maski obojętności, to miasto wypluwa. Czyli to właśnie, co uczyniło z artystą malarzem.

Były to dwa miasta. W jednym ponurym i mrocznym mieszkał artysta i poeta Aleksey Zhdanov. Betonowe i szklane zabudowania tego miasta są wszędzie, nie dają oddychać, pną się do góry, przebijając niebo na wylot. A stamtąd już tylko chłód i zapomnienie. Życie tego miasta odbija się na twarzach jego mieszkańców. W ich oczach widać jego ogień. Ponieważ to miasto pali się w ogniu wiecznym.

Duchy mieszkańców tego miasta milczą. Z mocno zaciśniętymi ustami i zaczerwienionymi oczami z powodu bezsennych nocy błądzą w ruinach tego miasta. Nigdy nie śpią. Płaczą suchymi łzami. Wiara została z tyłu. Przed nimi jest głuchy mur nie do przejścia między obrazem, w którym są oni, a inną rzeczywistością – żywą. Ale czy żywą? Może artysta maluje lustro, w którym widzę siebie?

Było jeszcze jedno miasto – wieczne. Miasto, które artysta oglądał, gdy zamykał oczy albo zapadał się w zapomnienie. Miasto to było zalane słonecznym światłem, za jego kamiennym murem też nikt nie spał. Jednak tam było wesoło, cieszono się, siedząc przy świątecznym stole, czekając na podróżnika, który przez góry i pustynie spieszy dniem i nocą na rozmowę do Kany Galilejskiej.

Do tego wiecznego miasta artysta pragnął wrócić. Kiedyś, gdy uda się przebić przez głuche obojętne żółte ściany, rozedrzeć płótno oraz wyjść poza ramy, w które został umieszczony, żeby wreszcie z urojonego świata, zamieszkanego przez duchy, w którym betonowe bloki szarym kurzem opadają na twarze mieszkańców, wyjść i zobaczyć słońce, miasto zalane słońcem, ludzi mających promienne twarze, niebo zsyłające światło.

W mieście, gdzie mieszkał artysta i poeta Aleksey Zhdanov, nie widać było nieba, nie było w nim też słońca, bo „to samo miasto było Słońce". Urodziłam się w tym mieście. Grzałam się w jego promieniach, uważałam, że należały do słońca, a to było samo miasto. Miasto, którego kamienie byłe żółte nie z powodu tego, że były zalane słońcem, a to dlatego że ze swej istoty były żółte.

***

*„I tu znowu, nie wiem z jakiego powodu, przypomniałam sobie pogrzeb, teraz już Zhdanova. Dużo ludzi zgromadziło się wtedy w jego mieszkaniu – koledzy, koleżanki, wielbiciele. Wszyscy byli zaszokowani, nie z powodu śmierci, ponieważ dużo pił, mając słabe serce, więc można się było tego spodziewać. Szokowało coś innego – jej absurdalność. Aleksey pił z samego rana w pewnym barze, w tym samym baraku, gdzie mieszkał Kim. Potem zasnął przy stole. W pobliżu stała duża kadź z kiszoną kapustą. Oparł się o nią głową, przycisnął krawędzią szyję i udusił się we śnie.*

*Pamiętam, jak do jego mieszkania przychodzili coraz to nowi ludzie. Podchodzili do trumny, przy której, nie spuszczając oczu, siedziała ubrana na czarno jego ścięta żalem matka. Później wchodzili do kuchni, wypijali kieliszek wódki i, milcząc, wychodzili na zewnątrz zapalić. Następnego dnia po pogrzebie wszyscy znów zebrali się w jego mieszkaniu na stypę. Na początku siedzieli cicho i pili. Ale nagle, po którymś kieliszku, przyszła wariacka wesołość – zrobiło się głośno, słychać było coraz więcej śmiechu. Za godzinę, półtorej wszyscy się rozeszli, żeby się bawić w innych miejscach, jakby nic się nie stało, a nawet jeśli – to lepiej szybciej o tym zapomnieć".*

*Z powieści Artura Klinava «Skup Butelek»*

Zapłaczę mokrymi łzami, żeby ugasić pożar wokół siebie. Będę przebijać się przez płótno, wdzierać się przez niego, ciąć, żeby nie być duchem z tego miasta. Zbuduję swoje wieczne miasto, żeby mieć szansę pewnego razu tam wrócić.



Артур Клінаў. «Хлопчык, які едзе на роліках па Горадзе Сонца». 2002
Artur Klinau. «A Boy Roller-skating along the Sun City of Dreams». 2002

Калі вы прыедзеце ў Менск з Эўропы цягніком, Горад Сонца сустрэне вялізарнаю Плошчаю Брамаў. Да гэтага хвілінаў дваццаць ваш вагон будзе прабірацца праз заводзкія прадмесьці. Аднак заводаў вы амаль ня ўбачыце. Яны павернутыя да гледача даўгімі калідорамі высокіх цагляных агароджаў, пакгаўзаў ды нейкіх дзіўных пабудоваў. На Плошчы Брамаў стаіць галоўны вакзал Гораду. Калісьці іх было два, але пазьней напрамак з поўначы на поўдзень згас, затое з захаду на ўсход узмацніўся настолькі, што Плошча Брамаў з Вакзалам, што месьціцца на ёй, сталася месцам усядзённа-начнага віраваньня ўсялякага жыцьця Гораду Сонца.

Паўз Плошчу бесьперапынна ідуць цягнікі з захаду на ўсход, якія накіроўваюцца з Бэрліну, Парыжу, Брусэлю, Прагі ў сталіцу былой Імпэрыі, у Маскву. Раней тут стаяў іншы будынак вакзалу, які збудавалі ў пяцідзясятыя гады. Але, калі ён ужо не спраўляўся з маштабамі тутэйшага жыцьця, яго зьнесьлі ды пабудавалі новую вялікую Залю, што нагадвае гіганцкага краба, на шматлікіх паверхах якога зьмясьціліся дзясяткі кругласуткавых кавярняў, рэстарацыяў, заляў чаканьня ды крамаў.

Плошча прывітае вас Брамаю зь дзьвюх пірамідальных вежаў, па рагох сярэдняга ярусу якіх стаяць восем статуяў вартавых Гораду Сонца. Захавальнікі Гораду вярнуліся на свае месцы зусім нядаўна. У маім дзяцінстве іх ужо не было на вежах. Але я памятаю, калі сьпякотнымі летнімі днямі мы бязмэтна бадзяліся па пыльных закутках Гораду Сонца, яны ўсё адно палохалі нас сваёй прысутнасьцю. Некаторыя зь іх ляжалі, паваленыя набок, у вялізарных арках, што злучалі Плошчу з прыпалацавым паркам, які раскінуўся зь іншага боку вежаў.

Над аркамі віселі чорныя, усе ў сопусе, чыгунныя мэдальёны, у якіх месьціліся барэльефы цягнікоў зь вялікімі пяціканцовымі зоркамі ў цэнтры. Цягнік заўсёды быў сымбалем Краіны Шчасьця. Ува многіх фільмах майго дзяцінства ён ляціць, вялізарны, на ўвесь экран, да сьветлае будучыні, а сьпераду яго зеўрае чырвоная зорка. Раней у адным з паркаў за вежай нават стаяў вялікі дзіцячы цягнік з вагонамі, зроблены з мэталу. Але мы ў ім гулялі рэдка. Звычайна там сядзелі нейкія дзядзькі ды нешта пілі зь вялікіх пляшак. Ён увесь быў усеяны недапалкамі ды коркамі з-пад бутэлек, якія дываном ляжалі вакол ягоных вагонаў.

У маім дзяцінстве над аркамі яшчэ не віселі мэталічныя сеткі, якія зьявіліся над імі ды па ўсёй даўжыні палацавых фасадаў, што выходзілі на Плошчу, пазьней, калі іх шыкоўнае аздабленьне пачало патроху асыпацца. Часам яно прызямлялася на галовы выпадковых падарожных. Магчыма, менавіта пра гэтае папярэджваў знак зь першай Брамы Краіны Шчасьця.

Ад Плошчы Брамаў у глыбіню Гораду зыходзяць пяць вуліцаў. Першая вядзе да Плошчы Леніна, дакладней, да яе пачатку — заходняга краю. Другая — да вуліцы Маркса, прарока, які стварыў *Das Kapital*, сьвятую кнігу Краіны Шчасьця. Трэцяя — у бок вуліцы Кірава, героя, які хацеў стаць Мэтафізыкам, але быў забіты Мэтафізыкам Сталіным у Ленінградзе, другім сьвятым Горадзе Краіны Шчасьця.

Чацьвертая вуліца вядзе да гіганцкага Амфітэатру Палацу Фізычнай Культуры. Трыбуны Палацу сыходзяць пад зямлю, таму ягоныя аркады магутныя, але ня гэткія высокія, як сьцены рымскага Калізэю. Затое над кожнай другой аркай Амфітэатру зьмешчаны круглы мэдальён з барэльефам атлета. У прыгожы сонечны дзень іх антычныя целы танчаць у аблоках, што плывуць над Горадам Сонца.

Пятая вуліца сыходзіць з Гораду. Яна вядзе ў заводзкія прадмесьці, дзе пачынаецца іншы Горад, той, якога не павінен быў бачыць глядач, што ўяжджаў у Краіну Шчасьця.

Фрагменты з раману Артура Клінава
«Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца»

Artur Klinau, Fragmenty z powieści
«Przewodnik po Mieście Słońca»
Przełożyła Małgorzata Buchalik
WYDAWNICTWO CZARNE. Wołowiec 2008



Артур Клінаў. «Вуліца Кастрычніцкая». 2003
Artur Klinau. «Kastrychnickaja Street». 2003

Jeżeli przyjedziecie do Mińska z Europy pociągiem, Miasto Słońca powita was na potężnym placu Wrót. Wcześniej przez jakieś dwadzieścia minut wasz wagon przedzierał się będzie przez fabryczne przedmieścia. Samych fabryk prawie nie zauważycie. Odwracają się do podróżnego długimi korytarzami wysokich płotów, magazynów i jakichś tajemniczych oficyn. Na placu Wrót stoi główny dworzec Miasta. Kiedyś mieliśmy dwa dworce, ale ruch z północy na południe zamarł, za to z zachodu na wschód wzrósł tak bardzo, że plac Wrót stał się całodobowym centrum wszelkiego życia w Mieście Słońca. Obok nieustannie przejeżdżają pociągi podążające z zachodu na wschód, z Berlina, Paryża, Brukseli i Pragi do stolicy niegdysiejszego Imperium, do Moskwy. Wcześniej stał tutaj inny dworzec, zbudowany w latach pięćdziesiątych. Kiedy jednak przestał wystarczać na potrzeby tak intensywnej eksploatacji, zburzono go i postawiono nowy, przypominający gigantycznego kraba, na którego licznych piętrach działają dziesiątki sklepów całodobowych, kawiarni, poczekalni i restauracji.

Plac Wrót powita was dwiema bliźniaczymi stożkowatymi wieżami, na rogach których, w dwu trzecich wysokości, stoi osiem posągów strażników Miasta Słońca. Posągi powróciły na swoje miejsca całkiem niedawno. Nie pamiętam, żeby stały tam, kiedy byłem dzieckiem. Pamiętam natomiast, że kiedy w upalne letnie dni szwendaliśmy się bez celu po zakurzonych zakamarkach Miasta Słońca, i tak baliśmy się strażników. Niektórzy leżeli przewróceni na bok w ogromnych bramach łączących plac z dworcowym parkiem, rozciągającym się tuż za wieżami.

Nad bramami wisiały czarne, pokryte sadzą żeliwne medaliony z wizerunkami lokomotyw z wielkimi gwiazdami pośrodku. Lokomotywa zawsze była symbolem Krainy Szczęścia. W wielu filmach, które oglądałem w dzieciństwie, pędziła potężna, wypełniająca cały ekran, ku świetlanej przyszłości, z dumnie wypiętą naprzód czerwoną pięcioramienną gwiazdą. Dawno temu w jednym z parków za wieżami stała duża ciuchcia dla dzieci. Rzadko jednak bawiliśmy się w jej metalowych wagonach. Zazwyczaj siedzieli tam jacyś panowie i pociągali z flaszek. Ciuchcia tonęła w petach i kapslach zalegających wokół niej jak twardy, blaszany dywan. Nad bramami nie było jeszcze wówczas stalowych siatek, które później rozwieszono na całej długości pałacowych fasad od strony placu, kiedy wymyślna sztukateria zaczęła się sypać – czasem wprost na głowy przechodniów. Może właśnie przed tym ostrzegał plakat na dźwigu u pierwszych Wrót Krainy Szczęścia.

Od placu Wrót biegnie w głąb Miasta pięć ulic. Pierwsza z nich prowadzi na plac Lenina, do jego zachodniej części. Druga na ulicę Marksa, proroka i autora „Das Kapital”, biblii wyznawców Szczęścia. Trzecia na ulicę Kirowa, bohatera, który chciał zostać Metafizykiem, ale został zabity przez Metafizyka Stalina w Leningradzie, innym świętym Mieście Krainy Szczęścia. Czwarta do gigantycznego Amfiteatru Pałacu Kultury Fizycznej. Trybuny Pałacu znajdują się częściowo pod poziomem gruntu, więc arkady budowli wyglądają mniej okazale niż mury rzymskiego Koloseum. Za to nad drugą bramą Amfiteatru wisi okrągły medalion z wizerunkiem atlety. W pogodny, słoneczny dzień antyczne ciała figlują w obłokach płynących nad Miastem Słońca.

Piąta ulica prowadzi poza Miasto, na fabryczne przedmieścia, gdzie zaczyna się już inne miasto, to, którego nie powinien oglądać podróżny przybywający do Krainy Szczęścia.

# Bism













Віталь Калгін / Бісмарк. З цыклю праектаў «Прапаганда»
Vitaly Kalgin / Bismark . From the series of projects «Propaganda»

Гутарыла Т. А.

# Бісмарк: «Зараз я пастаўлены ва ўмовы татальнай блякады»

**Ён ня проста зьдзяйсьняе творчую канцэпцыю накшталт таго, што робіць расейская арт-групоўка «Вайна». Ён сам ёсьць *Вайна*, але вайна па-беларуску. Сэнс якой — не ваяваць, але мэтадам барацьбы й супраціву выжыць сярод гэтых рэаліяў, якія яму як мастаку-іншадумцу не пакідаюць аніякіх шанцаў. У ягонай асобе цалкам жыцьця явілася канцэпцыя «партызана» — ня толькі як мэтад творчасьці ці спосаб зьдзяйсьненьня нейкага творчага акту. «Партызан» — увесь ягоны жыцьцёвы шлях. У 1980-х яго ведалі як Віталя Ражкова. Потым, напрыканцы дзесяцігодзьдзя, у менскім арт-падпольлі зьявілася новая постаць — Бісмарк, дэклярацыя якога сталася для Ражкова ягонай зброяй. Так пачалася вайна: мастак з шаломам на галаве кінуў выклік спакусам цывілізацыі, «дэманы» якой яшчэ ў савецкія часы за ягоны «няправільны» жывапіс адправілі яго ў лякарню (вядомы іхны спосаб барацьбы з іншадумцамі). Праз больш чым 20 гадоў, калі, здаецца, чорная імпэрыя згінула, «дэманы» зноў не пакідаюць яму шанцаў…**

***— Ці быў выпадковасьцю абраны вамі шлях мастака?***

— Я фаталіст, у спантаннасьць ня веру. Гэта ўсё было прадвызначана яшчэ лёсам майго бацькі, які прайшоў сталінградзкі кацёл. Потым — у будынку, дзе знаходзілася мая вучэльня, у часы вайны была казарма нямецкіх вайскоўцаў. Гэтыя моманты, мне падаецца, і вызначылі мой творчы кірунак, акопны характар майго мастацтва — *Schlachtmalerkunst*. Зразумела, канкрэтных яго формаў я ня ведаў. Але з самага пачатку разумеў, што мой шлях будзе цяжкі й не цывільны. Мой першы выкладчык быў кар'ерыст, я адчуваў гэты фіміям кар'еры: дарагія фарбы, жанчыны, майстэрня, прээнтацыі — так бы мовіць, усе атрыбуты багемнасьці. Але акопнае мастацтва палягае па-за межамі гэтага, яно не зьвязанае з сацыяльнымі атрыбутамі. Гэта андэргаўнд, ці *Untergrund*: асацыяльнасьць, альбо антаганізм да соцыюму.

***— У які канкрэтна момант вы гэта вызначылі для сябе?***

— Ужо паміж другім і трэцім курсамі вучэльні першы раз зьявіўся Бісмарк як канцэпцыя, але гэта было яшчэ прадчуваньне. Праз дзесяць гадоў, у 1987–88-м, Бісмарк канкрэтна аформіўся ў маніфэст Бісмарка. Гэта стала для мяне накшталт шлягбаўму, што адбіў «дэманаў» цывільнага мастацтва й квазыкультуры. Я пераадолеў усе спакусы багемнасьці. Тады й выбухнуў мой жывапіс. Да гэтага мае працы ўзьнікалі пэрыядычна, я больш езьдзіў — у Маскву, Піцер — глядзеў, шукаў.

***— Ці ўсьведамлялі вы, што гэта шлях ня проста сацыяльнага аўтсайдэра. Усё ж быў яшчэ Савецкі Саюз, і авангарднае, радыкальнае мастацтва ня толькі не ўспрымалася, але за яго маглі пакараць.***

— Насамрэч у мяне было звычайнае савецкае дзяцінства. Мае бацькі й школа добра выконвалі свой прапагандысцкі абавязак, таму я працяглы час прымаў усю савецкую ідэалёгію за чыстую манэту. Але аднойчы наступіў момант — гэта стала для мяне жыцьцёвым катарсысам, — калі



Мак Разанаў. «Бісмарк і Ота». 2011
Маск Ryazanov. «Bismark and Otto». 2011

я пачаў разумець, што ўсё навокал — бутафорыя. Ты падыходзіш да яе, дакранаесься да гэтых «небажыхароў», а тое аказваецца фантомам. Яно ўсё плоска намалёвана, апроч таго, гнюсна намалёвана. Я зразумеў гэтую пастку, і зь яе трэба было ўцякаць. Я вызначыў тую сытуацыю для сябе як «сталінградзкі кацёл». Ты жывеш, і табе падаецца, што вольны, а потым аказваецца: ты ў пастцы. У гэтай пастцы зьмяняюцца формы: спачатку яна лагодная, белая й пушыстая, потым ты бачыш больш жорсткія моманты й раптам разумееш, што гэта сталёвы кацёл, які награваецца, а цябе самога чакае лёс кураня табака для сэрвіроўкі стала. Так я й вызначыў сваю спэцыялізацыю: прарыў «сталінградзкіх катлоў», ці, дакладней, клонаў. Таму што, як я казаў раней, гэта мой бацька прайшоў рэальны Сталінград, а мне ўжо дасталіся ягоныя «клоны». Я ўспрымаю нашую культуру, увесь сучасны сьвет менавіта як такі кланаваны, гіпэртрафаваны «сталінградзкі кацёл», які мае некалькі колаў блякады.

***— Што адбывалася ў пэрыяд ад Віталя Ражкова да Бісмарка?***

— У гэты пэрыяд адбылося некалькі маіх «прарываў». Ужо ў вучэльні — здаецца, быў 1977 год — у мяне ўпершыню ўзьнікла адчуваньне прасторы, нейкай сваёй пэрспэктывы. Да гэтага было — што сказалі, тое й робіш. А тут я па-сапраўднаму адчуў, што трэба шукаць свой шлях. Потым — 1980 год таксама быў для мяне вызначальным: я кардынальна зьмяніў прафэсійную арыентацыю, перайшоў на авангардны, радыкальна экспэрымэнтальны шлях. Дагэтуль я яшчэ заставаўся ў межах акадэмічных формаў, ці, лепей сказаць, псэўдаакадэмічных, таму што, на мой погляд, акадэмія памерла пасьля таго, як вынайшлі фатаграфію. Яшчэ быў важны для мяне момант — маладзёвая выстава, што павінна была адбыцца ў Палацы мастацтваў. Да гэтага я сядзеў у сваім «берлагу», шукаў — тады якраз у мяне зьявіліся кантакты з альтэрнатыўнымі мастакамі, — стварыў сэрыю графічных малюнкаў і вырашыў, нарэшце, зрабіць «разьведку боем». Ужо ня памятаю, чаму тая выстава была прысьвечаная, але гэта дакладна была прыступка да кар'еры мастака. Сабралася камісія, я расклаў свае працы. Адна зь іх, дарэчы, выжыла — «Яблык і моль», астатнія спаліў. У зале наступіла цішыня, і Шаранговіч, які ўзначальваў камісію, вынес мне вэрдыкт: «Вы понимаете, что это не искусство?!» «Гэта не мастацтва?» — запытаўся я. — «Да, это». Я сабраў свае працы й пайшоў назад у «акопы». З 1983 году пэрыядычна ладзіў нейкія акцыі, якраз заварушыўся падпольны культурніцкі ляндшафт у Менску. Займаўся жывапісам, маляваў. А ў 1987-м адчуў, што Бісмарк зусім блізка. Раптам выбухнуў і мой жывапіс, канкрэтна аформілася мая дактрына, я дакладна ўбачыў лінію фронту сваёй вайны.

***— Чаму менавіта асоба Бісмарка?***

— На маю думку, гэта найвыбітнейшы гігант, фундамэнт нямецкай культуры, якая ёсьць фундамэнтам эўрапейскай. Гэта фігура, на мой погляд, якая апякаецца арміяй *Schlachtmaler'аў*. Жывапіс — адна з праяваў дэміургічнай сутнасьці. Бісмарк, такім чынам, дэміург, татэм.

***— Якую функцыю ў такім разе ўзялі на сябе вы, калі назваліся Бісмаркам?***

— Сам сябе я так не называю. Гэтае прозьвішча замацавалася за мною пасьля таго, як я напісаў маніфэст Бісмарка. Бісмарк — гэта, з аднаго боку, рэальная фігура, з другога — вобраз, у якім акумулююцца інтэлектуальныя, мэнтальныя, астральныя ідэі. Для мяне сьвет існуе ў двух вымярэньнях — унівэрсумах соцыюму й мастацтва. Зямны ўнівэрсум — гэта ўнівэрсум соцыюму, які выпрацаваў свае спакусы, прыярытэты: кар'ера, сям'я, дзеці. Яму супрацьстаіць унівэрсум мастацтва. Для мяне гэта антытэзы, якія знаходзяцца ў антаганізьме. Другая антаганістычная лінія — гэта іхныя дыскурсы. Дыскурс соцыюму — слова, дыскурс мастацтва — карціна ці малюнак. Соцыюм жыве паводле ўнівэрсальнага прынцыпу, што запісаны яшчэ ў Біблії: «Спачатку было слова, слова было Бог, і слова было з Богам». Насамрэч гэта фальшывая дактрына, якая абслугоўвае ўнівэрсум соцыюму й стварае ягоныя ілюзіі. Сапраўдная карціна мастака, авангардыста, вядома, заснаваная на іншай парадыгме, якая гучыць так: «Спачатку быў малюнак, малюнак быў з Богам, і малюнак быў Бог». Гэтыя дзьве парадыгмы — дыскурс слова й дыскурс малюнку — таксама ў вечным антаганізьме. Але сёньня сытуацыя так склалася, што ўнівэрсум соцыюму дамінуе, ён прадвызначае тыранію слова над карцінай. Дыскурс карціны, які знаходзіцца ў стадыі дыстрафіі, у адрозьненьне ад гіпэртрафічнай стадыі слова, якраз і ёсьць маім дыскурсам, які я абараняю, разьвіваю й за які змагаюся.

Дыскурс соцыюму адлучаны ад дыскурсу мастацтва «пустой пародай». Таму галоўнае маё пакліканьне, тое, на чым базуецца сёньняшняя мая творчасьць, — гэта будаўніцтва астральных, як я іх называю, шахтаў, праз якія можна зьвязацца з унівэрсумам мастацтва. Мая пазыцыя, маё месца існаваньня й культурнага змаганьня — гэта мастацкі забой, якім я раблю праходку гэтых шахтаў, і кожны мой твор — гэта крок да прасторы новага мастацтва. На маю думку, будучыня менавіта за сьветам мастацтва. Сьвет соцыюму — гэта такі прыдатак, ракавая пухліна на целе мастацтва. Маю на ўвазе сапраўднае мастацтва, што жыве ў андэрграўндзе. Таму што ўсё астатняе — гэта карупцыйнае мастацтва, рамесьніцкі прадукт, дзе таксама дамінуе слова: на сусьветным арт-кірмашы галоўную ролю адыгрывае ня вартасьць твору, а слова экспэрта й імя аўтара… Дарэчы, мае словы пра тое, што карціна мае перад словам прыярытэт, пацьвярджаюць навуковыя факты: 90 адсоткаў інфармацыі чалавек атрымлівае менавіта праз зрок. Але ў соцыюме чамусьці 99 адсоткаў прасторы займае слова, і карціна аказваецца падпарадкаванай слову.

***— Каго вы лічыце ворагам акопнага мастацтва?***

— Гэта ворагі новага мастацтва, *Schlachtmalerkunst'а*, альбо авангарднага ваеннага мастацтва. Гэта гегемоны *Übergrund'а*, якія захапілі ўсе галоўныя пазыцыі — культурныя й матэрыяльныя. Яны спрабуюць маніпуляваць соцыюмам. Дыскурс слова — гэта ключык, якім можна гэта рабіць, маю на ўвазе тых псэўдааракулаў, кланы дэмагогаў-палітыкаў, якім так пасьпяхова менавіта праз слова ўдаецца насоўваць асобу на асобу, грамаду на грамаду, соцыюм на мастацтва.

***— Што ўяўляў сабою Менск таго «падпольнага», перабудоўчага пэрыяду?***

— Гэта быў вельмі цікавы пэрыяд, зараз нават не параўнаць. Мяркую, прычына — ня толькі мая маладосьць. Камуністы тады трымаліся вельмі моцна, сёньня гэта таксама адбываецца, толькі ўжо ў іншай форме. Але раней было трохі інакш: не было пытаньня даляру, галоўная была ідэалёгія. Існавалі фантомы рознага кшталту, напрыклад, фантом лібэралізму. Зараз ужо відавочна, што гэта псэўдалібэралізм. Але — існаваў дэман Савецкага Саюзу. Была відавочная лінія фронту: гэтыя чорныя, тыя белыя, там — лахматыя, а тут — пушыстыя і г. д. Карацей, жыцьцё біла ключом. Іншадумцы, вядома, былі ў андэрграўндзе, але ў гэты час, як шарыкі ртуці, пачалі адзін да аднаго прыцягвацца. Першы раз, напрыклад, калі я, здаецца, у 1983-м паказаў на нейкай незалежнай выставе свой твор — той самы «Яблык і моль», — якраз пачалася пасьлябрэжнеўская эпоха, адбываліся трансфармацыі ў соцыюме. На гэтай выставе да мяне падыйшоў Ігар Кашкурэвіч, пайшлі кантакты зь іншымі мастакамі. Мы складалі пляны агульных выставаў, дыскутавалі пра мастацтва. Адным словам, сытуацыя была бадзёра-аптымістычная. Хтосьці нават спадзяваўся забрацца на высоткі мастацкага *Übergrund'а* й паскідваць мясцовых гегемоншчыкаў, каб заняць іхнае месца. Але мне падавалася, і так я думаю й зараз, што гэта хісткая пазыцыя. Таму што, па сутнасьці, заняць іхнае месца — значыць, стаць імі, нават калі ты мастак-авангардыст.

Увогуле, на маю думку, авангарду ў сэнсе рэвалюцыі, як было, калі вынайшлі фатаграфію, калі дзейнічалі радыкальныя мастацкія рухі пачатку XX стагодзьдзя, зараз няма. Сёньня ўсё адбываецца аўтаматычна, запушчаны мэханізм: постмадэрнізм, потым постпост-, анты- і г. д. Але няма той вартасьці, за якую можна было б змагацца. Увесь час нешта зьмяняецца, і гэта сталася ўжо руцінай. Увогуле, адметнасьць сучаснага мастацтва — абстрактнасьць, у тым сэнсе, што яно займаецца нейкімі фармальнымі трансфармацыямі, вынаходзтвамі. Яно не закранае істотных момантаў жыцьця. На маю думку, гэта ўсё маніпуляцыя *Übergrundhegemon'аў*. Таму лепей на падводнай лодцы залегчы на дно й будаваць «шахты» — паміж *Übergrund'ам* і *Untergrund'ам*, соцыюмам і мастацтвам. Але тады, у 1980-я, было інакш: пачыналі ўзьнікаць нейкія цікавыя калябарацыйныя асяродкі, адчуваліся паплечніцтва, пэўная блізкасьць і цеплыня. Але для мяне й гэта хутка скончылася, бо зразумеў, што соцыюм пачынае залазіць і на гэтую тэрыторыю, творчы асяродак паступова перараджаўся: авангардысты захацелі грошай, паехалі за мяжу, кінуліся прадаваць карціны. Гэта мне падалося ня тое што здрадай, але заняпадам. Нашыя шляхі разыйшліся.

***— Якую ролю ў вашай творчасьці адыграла карціна «Патрыярх»? Ці сталася яна маніфэстам?***

— Я б не назваў яе маніфэстам. Ёсьць такі панятак у ваеннай стратэгіі — ключавы посьпех, заняць ключавую пазыцыю, альбо зьдзейсьніць прарыў. Да «Патрыярха» ў мяне ўжо здараліся прарывы, але гэтая праца, можна сказаць, стала вырашальнай: нарэшце я адчуў устойлівасьць.

***— Як успрынялі гэтую працу паплечнікі й гледачы?***

— Нэрвова: адны весела-нэрвова, у асноўным быў гістэрычны рогат, іншыя — агрэсіўна. Пра «Патрыярха» нават у газэце напісалі. Быў такі спэцыяліст — мясцовы гэбэшнік, які займаўся мастакамі-авангардыстамі. Ён напісаў у «Вячэрнім Мінску», што «Патрыярх» ёсьць узорам сапраўднай парнаграфіі. Але гэтая карціна для майго лёсу сапраўды стала вырашальнай. Менавіта яна вызначыла ў 1988 годзе пастаноўку мне дыягназу «шызафрэнія». Сабраўся кансыліюм, які ўзначальваў прафэсар Волкаў. Перад тым як паставіць подпіс пад рэзалюцыяй, ён завагаўся: аргумэнты «за» й «супраць» клінчам сыйшліся ў ягонай галаве. Заўважыўшы гэта, доктар Ждановіч, які прадстаўляў мяне, сказаў: «Пацыент у 1987 годзе выставіў на публічны прагляд сваю карціну «Патрыярх, або Чырвоны Імпэратар», на якой у поўны рост быў намаляваны агалены чырвоны мужчына ў зялёным вянку на галаве з напятым сінім эрагаваным чэлесам. Паводле слоў мастака, агалены мужчына — сымбаль чырвонай імпэрыі, зялёны вянок — сымбаль ісламізацыі, а сіні пэніс — сымбаль крымінізацыі нашчадкаў імпэрыі». Прафэсар Волкаў выслухаў маналёг доктара Ждановіча, з палёгкай выдыхнуў і паставіў подпіс. Зноў, як вы бачыце, вырашальным аказалася слова.

Адам Глобус

# Ген
## Словы пра мастака Гену Хацкевіча-Менскага


Генадзь Хацкевіч. «Бяз назвы». Сярэдзіна 80-х
Hena Khatskevich. «No Title». Mid 80s

### Гена й бутэлька піва

У пачатковай школе хацелася расьці й вырасьці як хутчэй, ажно да трымценьня ў целе мне карцела зрабіцца дарослым. Рос, тады так падавалася, я ну зусім марудна. Другія расьлі хутчэй. І росту я быў зусім малога, сярод хлопчыкаў у клясе стаяў чацьвертым, калі адлічваць ад ніжэйшага. Ніжэйшымі за мяне былі Мацяш, Панасюга й Навуменка. Потым я стаў вышэйшы за Хвастовіча. Я вельмі сабою заганарыўся. Ганарыўся, што расту. Каб быць дарослымі, мы — я й Мацяш — курылі. А калі студыя выяўленчага мастацтва на вясновых вакацыях выправілася ў вандроўку на эцюды ў Лагойск, я зь Яўменавым дзеля даросласьці набыў у краме сваю першую бутэльку піва. Яўменаў быў за Ван Гога, а я быў за Гагена. Мы, як сапраўдныя дарослыя мастакі, вырашылі выпіць. Замест абсэнту ў нас была пляшка піва «Жыгулёўскага» з маленечкай жоўтай папяровай налепкаю ў выглядзе паўмесяцу. Толькі мы сабраліся тое піва піць, як да нас у гатэльны пакой прыйшоў дзевяцікласьнік Гена Хацкевіч-Менскі. Ён забраў «Жыгулёўскае», сказаўшы, што мы малыя й ня маем права піць піва й курыць. Яшчэ ён сказаў, каб мы не зачынялі гатэльны пакой, бо за намі ён цяпер будзе сачыць. Нашае піва Хацкевіч-Менскі выпіў са сваім сябруком — васьміклясьнікам Сьвінаровым.

### Намаляваныя сандалеты

Калі разьвярнуцца да будучыні сьпінаю, а да мінулага тварам, дык можна ўбачыць творы, якія паўплывалі на Гену Хацкевіча вельмі моцна. Зараз я схільны думаць, што прысланыя з Францыі малюнкі й гуашы ўразілі яго больш за ўсе скарбы з парыскага Люўру ды зь пецярбурскага Эрмітажу. Малюнкі прыслалі ў палац школьнікаў, куды мы зь ім хадзілі ў студыю выяўленчага мастацтва. Наш настаўнік, Сяргей Пятровіч Каткоў, паслаў нашыя малюнкі ў Францыю, а ўдзячныя французы даслалі нам свае творы. Мы апынуліся, як цяпер кажуць, у шоку. На паперы з выціснутымі ў кутку каронамі былі намаляваны скураныя сандалеты. Такія брунатныя, моцна паношаныя сандалеты проста ляжалі, як жывыя, на пяшчотна-жоўтым аркушы паперы. Яны былі нават больш жывыя, чым уласна жывыя. Былі яшчэ малюнкі з кветкамі й травою, але сандалеты скарылі ўсіх. Мы ўжо ведалі пра чаравікі Ван Гога. Але ягоныя чаравікі былі недасяжна далёка, за жалезнай, непераадольнай для большасьці з нас, заслонаю, а сандалеты былі тут, у нас, у нашай майстэрні, у нашых, можна сказаць, руках. Гена захапляўся сандалетамі больш за ўсіх: «Так і трэба маляваць! Так і трэба пісаць карціны! Каб кожная стужка, кожная дзюрка ў той скураной стужцы была як жывая. Каб празь дзюрку тую паветра магло прайсьці!»

### Сьляды на партрэце

У войску Гена служыў недалёка ад роднага Менску — у Гародні. Пра войска расказваць любіў, у яго быў альбом са здымкамі ды малюнкамі. З альбомам на каленях Ген проста песьні сьпяваў пра войска. Усе песьні, якія сьпяваў Хацкевіч, былі жартоўныя. Сум ён не шанаваў. Маркота — не ягоны стан. Так і пра войска ён расказваў са сьмехам, нават пра зьдзекі над сабою, казаў і сьмяяўся. Мастак і ў войску — мастак. Гену даручылі зрабіць вялікі — тады ўсё рабілася вялікім — партрэт Леніна. Ён тыдзень таго Леніна маляваў, а скончыўшы, вырашыў, што другі раз Ленін намалюецца значна хутчэй, а часу на яго маляваньне можна папрасіць і ўзяць столькі ж. Пачатак службы, Ген не высыпаўся, а тут мелася пэрспэктыва доўга й салодка паспаць. Ён паклаў Леніна на зямлю й пахадзіў па ім. Раніцай Ген сказаў прапаршчыку, што нейкі вандал сапсаваў партрэт правадыра пралетарыяў. Прапаршчык, ён жа й дырэктар клюбу, загадаў аглядаць боты ўсіх, хто мог зайсьці ноччу ў клюб. Фарба знайшлася на ботах самога прапаршчыка. Гэта ня толькі не ўратавала Гену, а, наадварот, дадало некалькі цяжкіх дзён у тэрмін зьняволеньня. Хацкевіч прасядзеў у камэры-адзіночцы цэлы тыдзень. Адслужыўшы тэрмін, едучы на чыгуначны вакзал, каб нарэшце вярнуцца ў Менск, Ген убачыў у тралейбусе помсьлівага садзюгу-прапаршчыка. Ён стаяў у цывільным, стаяў ціха й рабіў выгляд, што ня ведае радавога Хацкевіча. А Ген падыйшоў да яго ўшчыльную й стаў сваім дэмбэльскім ботам на цывільны чаравік зласьлівага прапара. Так і прастаялі яны моўчкі, да самага чыгуначнага вакзалу.

### Харакіры на сцэне

Ген любіў сцэну. Прыродная схільнасьць да эпатажу, натуральная эксцэнтрычнасьць дапамагалі яму трымаць на сабе ўвагу вялікай залі. У часы нашае вучобы ў тэатральна-мастацкім інстытуце было модна ладзіць капусьнікі… Не пэрформансы, ня акцыі, не інсталяцыі, не КВН, а капусьнік — вясёлы, задзірысты, запамінальны спэктакаль, складзены з кароткіх сцэнак. З усіх капусьнікаў, у якіх удзельнічаў і якія сам ладзіў Гена Хацкевіч, мне запомніліся два. Адзін быў з пачварным зьмеем-цмокам. Гэты зьмей харчаваўся студэнтамі-першакурсьнікамі, а гадзіў студэнтамі-дыплёмнікамі. Працэс

страўліваньня паказваўся праз тупатаньне й лопаньне паветраных шарыкаў, якіх у цмоку было поўна. Сама пачвара была пашытая з брудных ануч. Цмок выпаўз на сцэну, паеў, папукаў, пагадзіў і споўз са сцэны. Спаўзаць было цяжка, бо першакурсьнікам ні халеры не было відаць у той зьмяюцы. Сярод першакурсьнікаў на той час якраз быў я. Другі капусьнік, зроблены Хацкевічам, мог скончыцца для яго выгнаньнем з інстытуту, але ня скончыўся… Выкладчыкі вырашылі не факусаваць увагу грамадзкасьці на выхадцы Гены. А выхадка была выразная. Ген проста на сцэне вялікім нажом разрэзаў сабе жывот так, што кішкі пачалі вывальвацца. Ген з жудаснымі крыкамі пачаў кідаць вантробы ў залю. Выкладчыкі, што сядзелі ў першых радах, зьнямелі ад страху й агіды. Студэнты, што сядзелі за выкладчыкамі, таксама не адразу зразумелі, што Гена кідае ў іх не сваімі вантробамі, а сьвінымі кішкамі, загадзя купленымі ў гастраноме. Гену ўратавала ад выгнаньня з інстытуту тое, што яго палічылі за поўнага дурня. Шмат мастакоў у гэтым сьвеце ратавалася тым, што іх лічылі маргіналамі й неадэкватамі. Такое стаўленьне да мастакоў выратоўвала Гену шмат разоў.

### Сонечнасьць і Сьвінароў

Ёсьць адна рыса ў абліччы Гены Хацкевіча, якую інакш як сонечнасьць і не назавеш. Ён увесь зьзяе. Чырвоны, блакітны, жоўты колеры перамешваюцца ў ім, каб стварыць непаўторнае аптымістычнае калейдаскапічнае зьзяньне. Апранаецца Гена ярка: аранжавыя кашулі й зялёныя штаны, пурпуровыя кеды й малінавыя шкарпэткі, белыя курткі й сінія пальчаткі... Да яго вечнай усьмешкі, да вясёлых вачэй, да румяных шчок і цёмных кудзераў усё пасуе, але ён выбірае найярчэйшае, найстракацейшае, найарлекіністае, каб падкрэсьліць, каб дадаць да сваёй радаснай сонечнасьці яшчэ крышку сьвяточнасьці. Аднойчы Гена схібіў і пашыў сабе з чорнага аксаміту нагавіцы зь пінжаком. Такі быў той аксаміт чорны-чорны, такі глыбока-чорны, такі бяздонна-чорны, што нешта чарнейшае й уявіць цяжка. У гэтым навюткім гарнітурчыку ён і забег да сябра-жывапісца Валодзі Сьвінарова ў майстэрню. «Ну як табе? Праўда, цудоўны строй? Я пра такі марыў!» Сябра Сьвінароў прапанаваў гарбаты папіць. Ген не адмовіўся. Ён паразглядаў сябруковы карціны, пакуль той напой гатаваў, а потым бухнуўся на крэсла. «А-а-а!!!» — крык выбухнуў так, што Сьвінароў ледзь ня ўпісяўся. «Ка-а-асьцюм!!!» — Ген круціўся пасярод майстэрні, спрабуючы зірнуць на сваю дупу. На чорным аксаміце ільсьнілася й пералівалася алейная вясёлка. Ген сеў на палітру, дзе жывапісец Сьвінароў шчодрай рукою панавыціскаў яркіх фарбаў. Ідучы рабіць гарбату, ён кінуў палітру на крэсла, а Хацкевіч бухнуўся на яе. Нагавіцы прапалі, бо Генка спрабаваў іх адмыць шкіпінарам, цёр мылам, драў губкаю, а нарэшце, псыхануўшы, падраў на шматкі. А як падраў, так і супакаеньне да яго прыйшло. «Пінжак застаўся! Галоўнае — пінжак!» — разважаў Ген, ідучы ў краму па віно. Страту штаноў сябры адзначылі добрай выпіўкаю, падчас якой зрабілі выснову, што Хацкевічу ня трэба насіць радыкальна-чорную адзежу, яму трэба заставацца сонечным.

### Забаронены прыём

У мастацтве ёсьць забароненыя прыёмы. Напрыклад, на тэатральнай сцэне сабаку нельга паказваць сабакам. Артысты граюць на сцэне і сабак, і катоў, і коней, што цалкам натуральна. А зьяўленьне на сцэне жывога, нават добра выдрэсіраванага, цуцыка — антымастацтва, натуралізм і глупства, бо самы нікчэмны сабачка лёгка забярэ ўсю ўвагу гледачоў, забярэ нават у народнага-разнароднага артыста. Таму прафэсійныя мастакі й артысты не паказваюць сабаку сабакам. Нават на арэне ў цырку сабачка выконвае ролю артыста-акрабата, а ня ролю сабакі. Але Ген змог «паказаць сабаку сабакам» і застацца ў рэчышчы высокага й прафэсійнага мастацтва. Твор ягоны называўся «Пралескі». Гена заклеіў-заляпіў усё палатно сатлелым ды напалову спарахнелым леташнім лісьцем. А на гэтым шэра-брунатным тле намаляваў тэмпэрнай фарбаю бэзавыя кветкі пралесак. Палатно натуральна запахла вясною, ад яго сыходзіў водар сакавіка. Карціна «Пралескі» доўгі час вісела ў кабінэце колеразнаўства. Яна вісела, каб нагадваць простым мастакам, што сабаку нельга паказваць сабакам.

### Ракаўкі-пярловіцы

Ген марыў пра Парыж, пра чырвонае бурбонскае, пра белае й ружовае, пра смажаныя каштаны, пра вустрыц… Чаму ім — французам — можна высмоктваць мяса з ракавак, а нам ня можна? Чаму яны — французы — ужо навучыліся есьці жабак, а мы ўсё ніяк не навучымся? Ген задаваў гэтыя пытаньні сабе, калі блукаў з эцюднікам па берагах Браслаўскіх азёраў. Кулінарную рэвалюцыю ў Беларусі Ген вырашыў распачаць зь пярловіц, зь вялікіх азёрных ракавак. Ён вырашыў ракаўкі зварыць, а зьмесьціва звараных ракавак зьесьці. Каб рэвалюцыю ў тутэйшай кулінарыі было рабіць ня сумна, Ген запрасіў у рэвалюцыянэры й аднакурсьніка свайго Сяргея Малішэўскага. Яны доўга, больш за гадзіну, варылі ў кіпені ракаўкі-пярловіцы. Потым Ген узяў зьмесьціва адной ракаўкі ў рот і праглынуў. Усе думалі, што Хацкевіч праглынуў. Насамрэч ён не праглынуў, а праглынуў вараную пярловіцу якраз Малішэўскі, думаючы, што Ген праглынуў. Ён трымаў мяса пярловіцы за шчакою. А Малішэўскі яго заглынуў, але ягоны страўнік сьцісьнуўся ў ванітным спазьме, і пярловіца вярнулася ў талерку. Туды ж выплюнуў і Ген сваю пярловіцу, дастаную языком з-за шчакі. Кулінарная рэвалюцыя скончылася бясслаўна. Экспэрымэнтаваць зь беларускімі жабамі Ген не наважыўся.

### Песьні й навушнікі

Ген заўсёды сьпяваў. І яго маці сьпявала. Яна любіла сьпяваць за сталом разам з гасьцямі. Некалькі разоў я трапляў за стол разам з мамай Гены Хацкевіча, і кожны раз мы сьпявалі. Яна сьпявала самыя звычайныя песьні, а Гена сьпяваў адметныя. Ён сьпяваў:

***Трыпер-пер-тоцын. Нацын-тацын.***
***Вер-вер-сале. Херцын-мерцын.***
***Шышка зь перцам. Данцын-грыпцын. Гоп-цаца.***
***Цягнуць за нос мертвяца…***

А яшчэ Ген сьпяваў душэўную сагу пра калгасьніцу Дусю:

***І захацелася калгасьніцы Дусі***
***Абзавесьцісь хазяйствам в новам фкусе,***
***І што б на зажытачны манэр***
***Паявілась всё і напрымэр:***

***І креваць з раскрасівымі шышкамі,***
***Туалетнае мыла ТэЖэ,***
***Чайні-чачкі, ложа-чачкі, віла-чачкі***
***І прымус на скавараздзе.***
***А яшчэ паціфон са спласьцінкамі,***
***Лісапет на драўлянай хадзе,***
***Чорныя боты з пазбацінкамі…***
***Вось што была в Дусінай мячце.***

***І мчыцца поезд, у вагоне качка,***
***А у Дусі в чулке грошай пачка,***
***Тут падзапрапал яе чулок,***
***І пішы «Прашчай на долгі срок…»:***

***І креваць з раскрасівымі шышкамі,***
***Туалетнае мыла ТэЖэ,***
***Чайні-чачкі, ложа-чачкі, віла-чачкі***
***І прымус на скавараздзе.***
***А яшчэ паціфон са спласьцінкамі,***
***Лісапет на драўлянай хадзе,***
***Чорныя боты з пазбацінкамі…***
***Всё, што была в Дусінай мячце.***

***І тут падходзіт к Дусі праваднічы:***
***«Ці ж ня Вы згубілі той чулок?»***
***«Вой вы, даражэнькія, знайшліся!***
***Зраствуй, судзьбы шчасьлівай рок,***

***І креваць з раскрасівымі шышкамі,***
***Туалетнае мыла ТэЖэ,***
***Чайні-чачкі, ложа-чачкі, віла-чачкі***
***І прымус на скавараздзе.***
***А яшчэ паціфон са спласьцінкамі,***
***Лісапет на драўлянай хадзе,***
***Чорныя боты з пазбацінкамі…***
***Всё, што была в Дусінай мячце».***

Адкуль Ген браў такое? На якіх ускраінах Менску павывучваў? Але ж павывучваў!

Апошнім часам Гена пакутаваў ад пытаньняў: «Чаму людзі не сьпяваюць? Валодзя, яны ж слухаюць песьні, слухаюць паўсюль, куды ні зірні — паўсюль людзі ў навушніках… Слухаць слухаюць, а сьпяваць не сьпяваюць… Чаму?» — «Зьмянілася парадыгма, і парвалася сувязь часоў!»

### Натурморт у прыбіральні

Малаапэтытная гісторыя з кавалкам лайна! Толькі выкінуць яе з творчасьці Гены немагчыма. Здарылася тое на Браслаўскіх азёрах, куды першакурсьнікаў з акадэміі мастацтваў возяць пісаць эцюды. Там, у краі блакітных азёраў, маладзенькія мастакі павінны закахацца ў бацькаўшчыну, спазнаць яе непаўторнасьць, каб у сваёй творчасьці апяваць Радзіму дарагую. Ген прыехаў на Браслаўшчыну, у вёску Слабодку, і намаляваў кілбаску гаўна. Ён вельмі дэталёва й старанна выпісаў дзірку ў дашчанай вясковай прыбіральні. Нехта схадзіў па вялікаму й не пацэліў, лайно засталося ляжаць на блісkучых пазасіканых дошках, зьвісаючы над сьмярдзючай чарнатою. Сьмярданосны натурморт і натхніў Гену. А вось выкладчыка — Бараноўскага — натурморт з кілбаскай чалавечага гною абурыў: «Хацкевіч, ты ня проста намаляваў кавалак гаўна, ты абасраў Радзіму!» Выкладчык пачырванеў, як той браслаўскі кінуты ў кіпень рак, і паспрабаваў схапіць і парваць палатно свайго вучня. Ген ня даў. Бойка выкладчыка й вучня, дзякуй Богу, не разгарнулася й не зрабілася крывавай драмаю. Выкладчык вылаяўся й сыйшоў, а Ген пачаў сьвяткаваць перамогу маладосьці над старасьцю. Ген сьпяваў!

### Дзед Мароз

Ёсьць людзі, здатныя й найпросты занятак ператварыць у подзьвіг. Напрыклад, Ген, які малюваньне Дзеда Мароза ўспрымае як самаахвярны ўчынак дзеля росквіту ўсяго чалавецтва. Толькі ўсе ягоныя подзьвігі больш нагадвалі выхадкі — учынкі, якія парушалі агульныя нормы паводзінаў. Ён любіў выхадкі — перадражніваньні чужых вобразаў, жэстаў і словаў. Таму Дзед Мароз у Гены маляваўся безбародым з паголенай галавою, на якой чырванеў каптурык памерам з напарстак. Нос у таго Мароза быў ня сіні й не чырвоны, а зялёны, як малады агурок.

### Рэстарацыйныя афіцыянткі

Толькі Ген мог мяне падбіць на закручваньне адносінаў з рэстарацыйнымі афіцыянткамі. І дзе? У забытым Богам Мсьціславулі. Мы працавалі на рэстаўрацыі былога касьцёлу. Сьнедалі ў сталоўцы, а вячэралі ў рэстарацыі «Віхра». На пошукі жанчын часу не было, а таму й завязаліся размовы з афіцыянткамі. Ніякія размовы, пустыя словы ні пра што. А тут Ген мне кажа, што трэба накупіць віна й пайсьці ў госьці да афіцыянтак. Мы і накупілі, і прыйшлі, і сядзім у афіцыянтачак — выпіваем. Яны ўжо пачалі падавацца мне і прыгожымі, і разумнымі. Але раптам зьявіўся, як чорт з пограбу, брат адной афіцыянткі, а потым яшчэ ягоны сябра. Брат прапаноўваў нам кінуць касьцёл і паехаць на Сахалін. Сам ён адсядзеў даўжэзны тэрмін за бойку. У Мсьціслаўлі работы не знайшоў, але давedаўся, што на Сахаліне шмат мсьціслаўскіх хлопцаў грошы зарабляе. І паехаў, і зарабляе, і можа нас уладкаваць. Ехаць на Сахалін мы адмовіліся. Тут і афіцыянткі нам перасталі падабацца. А мы ну зусім перасталі падабацца брату самай гадкатварай афіцыянткі. Ён бы й бойку распачаў, каб не касьцёл. Ён сказаў, што паважае людзей, якія працуюць у касьцёле, калі ўсе навокал у Бога ня вераць. Мы з Генам сыйшлі цэлыя. Пашанцавала…

### Склад бутэлек

Ген — цікаўны. Сто чалавек пройдзе паўз вакно, што вядзе ў касьцёльныя сутарэньні, а толькі ён у тое вакно палезе. Ён і палез у вакно былога езуіцкага касьцёлу. Той касьцёл разам з кляштарам пасьля кастрычніцкай рэвалюцыі аддалі інтэрнату для дзяцей са слабым слыхам. У касьцёле быў зроблены клюб. Фінансавыя цяжкасьці інтэрнату вымусілі адміністрацыю адмовіцца ад клюбу. Пра склад, які быў у сутарэньнях, усе проста забыліся. Касьцёл-клюб доўга стаяў пусты. Ён быў у занядбаным стане. Рэстаўратары Верамейчык, Атас і Сьлюнчанка зрабілі агульныя абмеры, але на гэтым першая спроба рэстаўрацыі й скончылася. А Ген тады й знайшоў тысячы бутэлек са старой нягоднай мінэралкай пад іржавымі коркамі. «Давай мінэралку выльем, а бутэлькі здамо!» — прапанаваў мне цікаўны ды ініцыятыўны Ген. Рабаваць клюб-касьцёл я не захацеў. Мсьціслаўль — горад маленькі. Здасі дваццаць пляшак — і заўтра ўсе загавораць пра іх. Каб я быў якім школьнікам з малодшых клясаў, дык паквапіўся б і на бутэлькі. А для студэнта, супрацоўніка рэстаўрацыйных майстэрняў, нават тысяча пустых бутэлек — фігня. За падобную фігню з нашага інстытуту ўжо праганялі. Аднаго студэнта, таксама Гену, але іншага. Той Гена скраў у гастраноме пачак з сухім канцэнтратам супу харчо. Скраў, бо есьці хацеў. Скраў, бо ўсе грошы прапіў-прагуляў, а есьці хацелася. Скраў і папаўся. Я не хацеў пападацца з пустымі пляшкамі ад мінэралкі. Ген таксама перадумаў рабаваць сутарэньні пад былым касьцёлам, сказаў, што лянуецца й аднаму сумна нават красьці.

### Несьцярук і абразы

Ген — вандроўнік па сваёй прыродзе. Ён заўжды некуды едзе, а калі ня едзе, дык зьбіраецца ехаць. Гену гоніць, гнала й будзе гнаць нейкая сіла. І тая сіла гоніць яго на край сьвету, за край сьвятла й на край ночы. На Далёкі Ўсход, на Камчатку і ва Ўладзівасток сіла тая Гену загнала. Быў ён і на Мадагаскары, быў на Каўказе й у Сярэдняй Азіі быў… Паганяла яго па Лёнданах ды Парыжах. Аднойчы яго занесла на поўнач Расеі, некуды ў сьнягі паміж Архангельскам і Петразаводскам. Занесла так далёка, дзе й людзі не жывуць. Некалі жылі там праваслаўныя людзі, былі ў тых людзей вёскі й цэрквы. Людзі сыйшлі, а дамы й саборы пазаставаліся. Ген разам зь іншымі вандроўнікамі апынуўся там марознай зімою. Ішлі яны на лыжах праз вёскі пустыя. Справаздачу пра сваё вандраваньне на рускую поўнач Ген апісаў у самаробнай газэце, якую павесіў у фае нашага інстытуту. Да газэты былі прымацаваныя дзьве шкарпэткі, пра якія пісалася, што гэта не шкарпэткі, а рукавіцы вандроўніка Нясьцінога. Побач з надпісам быў здымак вандроўніка Несьцерука. Несьцярук за прыдуманага Нясьцінога пакрыўдзіўся. Тут і ўсплыла гісторыя пра паводзіны Гены ў паўночных цэрквах. Казалі, што ён панавыдзіраў у алтарах абразоў столькі, колькі змог павалачы. І валок. Яму раілі ня браць абразы! Даводзілі: ніхто несьці не дапаможа! Ген нікога ня слухаў, ішоў, адстаў, стаміўся, змогся й выкінуў усе пазабіраныя ў царкве абразы проста ў сьнег. Калі я перапытаў у Гены пра выкіданьне абразоў, ён распавёў наступнае… Вандалы пазапаскудзілі там усе цэрквы, не ў мэтафарычным сэнсе пазасіралі, а ў натуральным. Яны нават знарок залазілі на алтар, каб гадзіць лайном на абразы.

Уяўляеш, што гэта былі за дошкі, якія я павымаў з алтару ў безваконнай царкве? Абразы так і так загінулі б. А я паспрабаваў іх уратаваць. Не ўратаваў! Ня лёс. Павыкідаў абразы ў сьнег. Прасіў, каб несьці дапамаглі! Не дапамаглі. Ніводная свалата не дапамагла, ні той Раманко, ні той Нясьціног…

**Праца й катлета**

«Адамчык, ты працуеш з раніцы да самага вечару, а потым зноў з раніцы й да вечару! Гэта няправільна!» — «Ген, а што правільна?» — «Правільна працаваць зранку, а пасьля пяці вечару трэба сядзець каля тэлевізару зь вялікай гарачай катлетаю на відэльцы!» Тады мяне моцна ўразіла абмаляваная Генадзем гарачая катлета. Зьедзеная каля тэлеэкрану катлета — распуснасьць. Я так і не навучыўся гэтай катлетнай распуснасьці. Спрабаваць спрабаваў, але не атрымлівалася ў мяне есьці катлету й глядзець на экран.

**Пытаньне й адказ**

На чацьверты курс да мяне ў групу Ген прыйшоў давучвацца. Празь які тыдзень ён паклікаў мяне выйсьці з майстэрні на калідор, дзе шэптам спытаўся: «Адамчык, як ты змог з такімі мудакамі тры гады ў адной майстэрні прапрацаваць?» — «Цяжка! Асабліва невыносна было выслухоўваць парады туябняў наконт мастацтва. Біўся! Ты працуеш, а ён пішчом шчэміцца паміж табой і карцінаю. Я ў пысу! Толькі бойкі-сваркі ніякай карысьці не даюць. Хаця… Каб ня біўся, не агрызаўся, не пасылаў іх «на пярцовы хрэн» першыя паўгода, а пры першай магчымасьці не нагадваў пра іх сьвіначае месца ў загарадцы, было б значна цяжэй. Так што, Ген, калі хочаш заставацца чалавекам, заганяй жывёлу ў хлеў». Цяпер варта было б сказаць, што мой радыкалізм у маладосьці быў глупствам. Але што гэта зьменіць?

**Мянушка й будоўлі**

У нашай групе ўва ўсіх былі мянушкі. Усе яны мелі крыху абразьлівае й зьдзеклівае гучаньне. Слон — Грыша Шараеў, Крук — Мікола Крукаў, Блін — Толік Сакалоў, Нэгора — Саша Пятроў, Глобус — я… Карэлкіна з Гавазюком называліся Карэлкіна й Гавазюк. Лічылася, што ў іх прозьвішчах дастаткова немілагучнасьці, каб быць паганялам. Гавазюка спрабавалі перахрысьціць у Гавазу, але ён злаваўся, бо бракавала ў яго самаіроніі, быў засур'ёзны. Ён і ня ўдзельнічаў у прыдумляньні мянушкі для Гены. І Карэлкіна не прыдумляла мянушку. А ўсе астатнія вычвараліся. Дарэчы, сам Хацкевіч падпісваў свае карціны Хацкевічам-Менскім-Бамскім (гэта ад моднай тады ўсесавецкай будоўлі Байкала-Амурскай чыгуначнай магістралі!) -Ленінскім. Але гэта задоўга й малавымаўляльна. Мянушка мусіць быць кароткая, абразьлівая, лёгказапамінальная й лёгкавымаўляльная, бо мы рыхтаваліся да працы на новабудоўлях ды наогул на будоўлях. Калі ты высока на рыштаваньнях і табе трэба… Ці мала што табе спатрэбіцца на рыштаваньнях… Скажам у адно слова — дапамога! Ты ня будзеш крычаць: «Хацкевіч-Менскі-Бамскі-Ленінскі!» — ты гукнеш: «Ген!» ці… Крукаў прыдумаў называць яго Сайгакам. І прыжылося! Сайгак ды Сайгак. Нешта было ў ім ад гэтай гарбаноскай і легканогай жывёлы. Лёгкасьць была, палахлівасьць, спрыт і вялікавокасьць жывёльная, адкрытая сьвету. Два гады, пакуль вучыўся ў маёй групе, Ген прахадзіў Сайгакам, а потым зноўку стаў для ўсіх проста Генам.

**Танец і КДБ**

Ген пайшоў у заклад са сваімі аднагрупнікамі на дзесяць савецкіх рублёў, што выйдзе на праспэкт насупраць будынку КДБ, стане пасярод вуліцы на выспачцы бясьпекі, распранецца да поясу й станцуе ўпрысядкі. Пакуль гарэла чырвонае сьвятло, Ген танчыў пасярод галоўнага сталічнага праспэкту. Міліцыянт зрабіў выгляд, што ня бачыць непарадку, і схаваўся за помнікам Феліксу Дзяржынскаму. Хацкевіч за тры хвіліны зарабіў дзесяць рублёў, чвэрць стыпэндыі.

**Адэса й траўмы**

Ёсьць людзі, якія ня могуць жыць у пэўных гарадах. Ім хочацца жыць-быць менавіта ў гэтым горадзе, а горад іх не прымае. Ён зьдзекуецца з чалавека, ломіць яго, гне, гняце, трушчыць і выплёўвае. Так было ў Баброва зь Лёнданам. Сталіца Брытаніі й выплюнула Баброва, а Мартынчыка ня выплюнула. Адэса двойчы выкідала зь сябе Гену. Хто б мог падумаць, што ў вясёлага Гены не складуцца адносіны менавіта з горадам-гумарыстам. Але Ген менавіта ў Адэсе трапіў у халерны барак. Халера яго не ўзяла. Халеры ў Гены не знайшлі, але на ўсялякі выпадак загналі на сорак каранцінных дзён у барак. Ён ехаў у Адэсу цягнікім. Недзе паміж Кіевам і Чорным морам, на нейкай станцыі купіў Ген вядро алычы. Паеў. Не памыў, а паеў. Страўнік сказаў алычы мяккае «не-не-не-не-не». Да Адэсы Ген не вылазіў з вагоннай прыбіральні. Таму й пабег на адэскім вакзале ў мэдпункт, а адтуль яго завезьлі ў халерны барак. Другі раз Ген ляжаў не ў інфэкцыйным аддзяленьні, а ў траўматалёгіі са зламанай нагою. Нагу Ген зламаў сабе сам. Канешне, ён не зьбіраўся ў першы дзень свайго другога наведваньня Адэсы ламаць нагу. А зламаў… Ён зламаў нагу на пляжы. Зламаў з-за цяжкога заплечніка. На Гене было два заплечнікі. За плячыма свой, а на грудзях жончын. Ген зрабіў вынаходніцтва. Ён прыдумаў, як насіць два заплечнікі. Адно было кепска. Заплечнік на грудзях не даваў бачыць, куды нага ступае. Нага ступіла на нейкі камень, той пакаціў па пляжным пяску. Нага паехала за каменем, падкруцілася, падвярнулася; тут на яе й упаў гаспадар з двума заплечнікамі. З траўматалёгіі Ген прыслаў мне пісьмо, у якім распавядаў пра сябе й пра чалавека, які паспрачаўся з сабутэльнікамі, што скочыць з аглядальнага кола. Скакун выйграў бутэльку віна. Ген суцяшаў сябе й мяне, што ў адэскай траўматалёгіі яму ня горш, чым астатнім.

**Пакаленьне й рэвалюцыі**

Наша пакаленьне было й застаецца рэвалюцыйным і кансэрватыўным увадначасьсе. Зламаць бэрлінскую сьцяну й вярнуць храмы вернікам у былых атэістычных краінах, разваліць імпэрыю зла й распачаць глябалізацыю, зьдзейсьніць сэкс-рэвалюцыю й пашырыць іслам да мяжы з фанатычным тэрарызмам, наладзіць выбух камунікацыйных сыстэм і збудаваць лябірынтападобныя гіпэрмаркеты — наша дзейнасьць. Мы належым да генэрацыі рэвалюцыйных парадоксаў. Ген не выключэньне, ён — зорка майго парадаксальнага пакаленьня. Сваю рэвалюцыю ён распачаў на палатне. Намаляваў кастрычніцкі пераварот у Менску, што адбыўся ў 1917. Горад, убачаны з птушынага, ці, хутчэй, зь верталётнага палёту, кішэў узбударажанымі менчукамі. Пралетары, салдаты, мяшчане, сяляне, крамнікі, настаўнікі, сабакі, каты, вароны, галубы — усе жыхары й наведнікі гораду радаваліся. Рэвалюцыя адбылася, заўтра прыйдуць свабода, роўнасьць, братэрства. Заўтра зямля будзе ў сялянаў, заводы — у рабочых, улада — у народу. Гэта мы цяпер ведаем, што нічога такога й блізка ня зьдзейсьніцца, а яны ж верылі. Яны крычалі «ўра», яны кідалі ў неба пагляды зь верай, надзеяй і любоўю. Ген Хацкевіч-Менскі злавіў гэтыя пагляды ў 1982. Карціна атрымалася ўдалай. Больш за тое, яна атрымалася прарочай.

**P. S.**

Калі ў 1989 распачалася нацыянальна-вызваленчая рэвалюцыя ў Беларусі, я ня раз і ня два згадваў шэдэўр Хацкевіча-Менскага. Мастак толькі той, хто здатны зазірнуць наперад, чым далей сягае ягоны позірк, тым больш ён мастак.

**Тэрарызм і Растоў**

Ці ёсьць у Беларусі тэрарысты? Ці ёсьць у нас паветраныя тэрарысты? Так. Прынамсі, пра гэта пісаў таварыш Плужнікаў у газэце «Комсомольская правда» 9 сьнежня ў 1990 годзе, калі падаваў сьпіс паветраных тэрарыстаў СССР: «1987. При попытке угона «ТУ-134» из Минска в Париж задержали художника Хацкевича. Судебно-психиатрической экспертизой он признан невменяемым». Мастак зь Менску зрабіў спробу ўгнаць самалёт. Пакунак з двума кавалкамі гаспадарчага мыла ён назваў бомбаю й запатрабаваў ад пілотаў ляцець у Парыж. Камандзір карабля прыняў рашэньне не мяняць маршрут, паветраны карабель прызямліўся ў Растове, як і плянавалася. Група захопу хутка абясшкодзіла мастака.

**Вітражы ўвар'ятні**

Калі Гену за спробу ўгнаць самалёт закрылі ў растоўскай турме, менскія мастакі напружыліся й сабралі блізу паўтысячы подпісаў у ягоную абарону. Ліст да растоўскіх праваахоўнікаў падпісваў і я. У ім распавядалася, што Гена зь дзяцінства быў неадэкватным і неўраўнаважаным хлопчыкам, але эксцэнтрычнасьць і эпатажнасьць не перашкодзілі, а, наадварот, толькі дапамаглі яму стаць выдатным мастаком. Мастакі — карацей, мы ўсе — прасілі праваахоўнікаў прызнаць Гену хворым эксцэнтрыкам, а не радыкал-тэрарыстам. Здарылася дзіва! Гену з растоўскай турмы перавезьлі ў менскі дурдом, што ў раёне Навінкі. Ці ліст спрацаваў, ці зоры так сыйшліся, ці зьмены ў сусьветнай палітыцы так паўплывалі на растоўскіх турэмшчыкаў, што яны дазволілі дэпартаваць Гену на гістарычную радзіму. Доктар Круглянскі, зьбіральнік жывапісу душэўнахворых творцаў, моцна дапамог мастаку-тэрарысту. А той, каб аддзячыць доктару й бальніцы, арганізаваў рабленьне вітражоў у бальнічныя калідоры. Разам з братам Юрам Ген упрыгожыў клініку ў Навінках зыркаколернымі вітражамі, падобнымі да вітражоў у менскім касьцёле сьвятых Алены й Сымона, якія ён рабіў яшчэ да спробы ўгнаць растоўскі самалёт і такім чынам наведаць вялікі Парыж.

**Турма й памяць**

«Ген, раскажы, як табе сядзелася ў растоўскай турме?» — «Не. Ёсьць моманты ў маім жыцьці, пра якія згадваць не хачу. Такі жах, такі бруд, такая чарната гнілая, што лепей забыцца на яе. Вядома, не забудуся я, але й гаварыць не хачу. Было й праміднула. Прайшло — і хай не вяртаецца. Ніколі, ніколі, ніколі…»

**Лёндан і Люўр**

Зь Лёндану Ген не дасылаў мне паштовак. У Лёндане яму было зусім цяжка. Цяжка было ўсім: і Мартынчыку, і Баброву, і Хацкевічу-Менскаму. Яны зьехалі ў Лёндан, каб скарыць сваім жывапісам сьвет, але сьвет не скарыўся. Сьвет быў раўнадушны да Хацкевіча-Менскага, Баброва й Мартынчыка. Першым скарыўся Бабро́ў, ён перастаў мыцца. Узяў і перастаў мыцца, стрыгчыся й галіцца. Ген з Мартынчыкам мыліся, а Бабро́ў не. Вада ў іх была толькі халодная, але яны мыліся, і галіліся, і нават стрыгліся. Бабро́ў сказаў, што зьедзе з Англіі ў Ізраіль, што там яму нешта нейкае будуць плаціць, і там ён будзе жыць, мыцца й галіцца. Мартынчык разьлічваў прыжыцца ў Лёндане. Ён зьмяніў прынцып. Калі ня Лёндан для цябе, тады ты для Лёндану. Лёндан сказаў, а ты зрабіў! Просьценька, але выжыць можна. Ген расчараваўся ў Лёндане, але ён яшчэ верыў у Парыж. Ён верыў, што Парыж яго прыме ня так, як Лёндан. Ген меў рацыю. Ні Бабро́ў, ні Мартынчык ня верылі, што Парыж прыме мастака Хацкевіча-Менскага, бо мелі нават падставы ня верыць. Яны пасадзілі Гену на цягнік, яны з Генам разьвіталіся, яны нават адзначылі разьвітаньне. Моцна адзначылі, моцна напіліся. А калі падыходзілі да кватэры, якую здымалі ў Лёндане, Мартынчык сказаў Баброву: «Мы прыходзім, а Ген пад дзьвярмі сядзіць! Мы прыходзім, а Ген — сядзіць!!!» Мартынчык пачаў сьмяяцца, і Бабро́ў пачаў, яны, сьмеючыся, прыйшлі да кватэры, а тамака — Ген сядзіць. Яго ня выпусьцілі з Англіі, нешта ў яго з дакумэнтамі не зраслося, нейкіх папер не хапіла... Ген ня здаўся, ён знайшоў вандроўны заацырк і разам з ільвамі, тыграмі ды шакаламі перабраўся празь Ля-Манш. У Парыжы яго прынялі мастакі-эмігранты. Яго прынялі на былой шакаляднай фабрыцы ў мастакоўскую камуну. Тады ён і пачаў слаць мне лісты ды паштоўкі. Адна зь іх была зь Люўрам і надпісам: «Быў у Люўры! Багата!»

**Падман і выгнаньне**

Здавалася, што ў Гены атрымалася ўсё, што ён пажадаў у сваім жыцьці! Жыў у Парыжы, меў жонку-парыжанку, якая нарадзіла яму дачку-парыжанку (сына-менчука ён меў раней). Працаваў Ген у мастакоўскай камуне, і ў яго (о цуд!) пачалі купляць карціны. Па законах мастакоўскай камуны ты мусіў ледзь ня ўсё заробленае на продажы твораў здаваць у камуну. У гэтым ёсьць лёгіка, бо менавіта камуна прыняла Гену, яна яго карміла й апранала, пакуль ён адаптаваўся ў Парыжы. Але Гену ахапіла скваппнасьць, і ён ня здаў грошы камунарам, за што й быў выгнаны. З парыжанкаю ў Гены таксама жыцьцё ня зладзілася. Ён апынуўся ў трэйлеры бяз жонкі, без дачкі, без камуны й бяз франкаў… Чым бы скончылася такое жыцьцё ў трэйлеры з адключаным сьвятлом, адзін Бог ведае. Але ў Парыж прыехаў брат Гены — Юра й забраў небараку ў родны Менск.

**Сівізна й бабы**

Выпадкова сустрэўшы Гену на праспэкце Скарыны каля шапіку «Саюздрук», раблю прапанову: «Ген, пайшлі да баб!» — «Не, Адамчык, не магу! Я пасівеў. Ты паглядзі, якая сівая ў мяне галава, якія зусім сівыя зрабіліся скроні. Бачыш? Я стары, каб да баб хадзіць». Мне зрабілася нават шкада раптоўна пасівелага Гену. Ён яшчэ будзе зьбірацца ў свой вечны Парыж, будзе скандаліць у француcкай амбасадзе з нагоды ліквідаваньня візы, будзе зьбірацца на Мадагаскар, але я буду згадваць сваю прапанову пра баб і ягоны расповед пра сівізну зь ягоным сакрамэнтальным: «Я ўжо ўсё!»

**Віно й вакно**

«Такое віно даюць толькі прэзыдэнтам, ды й то на сьвяты. Будзеш?» — «Не!» — «Панюхай! Ты панюхай! У Францыі няма такога віна!» Ген падносіць да майго твару паўшклянкі мацаванай бурды. «Бннррррр! Ня буду я піць!» Усё адбываецца ў кавярні ўнівэрсаму «Цэнтральны». Таму не зьдзіўляе нікога зьяўленьне ахоўніка, які прапаноўвае Гене пакінуць краму. У мяне ў руцэ сподак з кубачкам кавы, я застаюся. Ген выходзіць, становіцца пад вакном, дастае бутэльку, чокаецца зь вітрынным шклом і п'е з рыльца віно, якое прэзыдэнтам даюць толькі на сьвяты.

**Мастакі й Мадагаскар**

«Вало-о-дзя, мастакі не паміраюць! Яны про-о-оста едуць у Парыж і там жывуць, інко-о-огніта. Я бачыў у Парыжы Сяргея Пятро-о-овіча Катко-о-ова. Вы тут думалі — ён памёр. Не! Жыве ў Парыжы. І Вало-о-одзя Сьвінаро-о-оў, і Вася Хмялеўскі — яны там». — «Ген, быў я ў Парыжы, няма там ні Каткова, ні Хмялеўскага са Сьвінаровым». — «А-а-а… Яны, значыцца, паехалі на Мадагаскар. З францускім пашпартам на Мадагаскар можна ехаць бязь візы. Вало-о-одзя, паехалі на Мадагаскар…»

**Мільёны й замак**

«Адамчык, стой! Куды ты сьпяшаесься? Ня трэба нікуды сьпяшацца! Хутка, зусім хутка я прадам свае карціны! Мае карціны каштуюць мільёны, яны каштуюць значна болей, але я іх прадам, каб купіць замак у Францыі. Я куплю замак, і мы ўсе паедзем туды… Ня верыш? Валодзя, ты куды пайшоў? А замак? Зама-а-а…» — пакідаю п'янога Гену пад гастраномам.

**Адсутнасьць і адказнасьць**

Ён яшчэ ёсьць, і яго ўжо няма. Ён стаіць пасярод вуліцы, а людзі абмінаюць яго. У Гены пабіты твар. Так разьбіваецца твар, калі раптам асфальт ускідваецца й б'е табе па лобе, ты адштурхоўваесься ад зямлі, а яна ўзьлятае й разьбівае табе нос. Гэта ты падаеш, а падаецца адваротнае — асфальт уздымаецца, узьбарваецца, нападае на цябе. Ген стаіць акрываўлены, пабіты асфальтам, пасярод праспэкту Незалежнасьці. Вочы ў разгубленасьці. Паратунку няма. Трэба сыходзіць. Куды? Ён сыходзіць у самаспальваньне алькаголем. Ён прыблудна заніштуе сябе… Калі мы разам заходзім у якую кавярню, афіцыянткі й ахоўнікі пытаюцца ў мяне: «Вы адказваеце за яго?» На што чуюць: «Так, я адказваю за яго». Усё яшчэ адказваю, як некалі ён адказваў за мяне, забіраючы бутэльку піва.

Adam Globus

# Słów parę o artyście Gienie Hackiewiczu-Minskim

### Giena i butelka piwa

Będąc w szkole podstawowej, chciałem urosnąć jak najszybciej, aż do mrowienia w ciele, chciałem stać się dorosłym. Rosłem, jak mi się wtedy wydawało, bardzo wolno. Inni rośli szybciej. Wzrostu byłem bardzo niskiego, wśród chłopaków w klasie byłem czwarty, licząc od najniższego. Niżsi ode mnie byli tylko Maciasz, Panasiuga oraz Nawumenka. Później wyprzedziłem wzrostem Chwastowicza. Byłem bardzo dumny z siebie oraz z tego, że rosnę. Żeby poczuć się dorosłymi, razem z Maciaszem paliliśmy. Gdy studio plastyczne podczas wiosennych wakacji zorganizowało wyjazd plenerowy do Łogojska, razem z Jaumenowym, żeby dodać sobie dorosłości, kupiliśmy w sklepie naszą pierwszą butelkę piwa. Jaumenau pełnił rolę van Gogha, a ja Gauguina. Jako prawdziwi dojrzali malarze postanowiliśmy się napić. Zamiast absyntu mieliśmy butelkę piwa „Żygulovskie" z maleńką żółtą nalepką w kształcie półksiężyca. Jak tylko zabraliśmy się do spożycia, do naszego pokoju hotelowego wszedł Giena Hackiewicz-Minski z dziewiątej klasy. Zabrał nam „Żygulovskie", zwracając uwagę, że jesteśmy za mali, więc nie mamy prawa do picia oraz palenia. A jeszcze dodał, żebyśmy nie zamykali pokoju hotelowego, bo od teraz będzie nas pilnował. Nasze piwo Hackiewicz-Minski wypił ze swoim kumplem Świnarowym z ósmej klasy.

### Namalowane sandały

Odwracając się tyłem do przyszłości i spoglądając w przeszłość, można wyłowić dzieła, które wywarły znaczący wpływ na Gienę Hackiewicza. Obecnie jestem skłonny sądzić, że otrzymane z Francji rysunki oraz farby wodne zachwyciły go bardziej niż wszystkie skarby paryskiego Luwru oraz petersburskiego Ermitażu. Rysunki te przysłane były do ośrodka kultury młodzieżowej, gdzie uczęszczaliśmy na zajęcia plastyczne. Nasz nauczyciel, pan Siarhey Katkov, wysłał nasze rysunki do Francji, a wdzięczni Francuzi przysłali do nas swoje prace. Byliśmy zaszokowani. Na kartce z wyciśniętymi w rogu koronami były namalowane skórzane sandały. Takie brązowe, mocno znoszone sandały leżały po prostu jak prawdziwe, na delikatnej żółtej kartce papieru. Były nawet bardziej prawdziwe niż w rzeczywistości. Były jeszcze inne rysunki, przedstawiające kwiaty i trawę, ale sandały pokonały wszystkie. Słyszeliśmy już o butach van Gogha. Lecz jego buty były nieosiągalnie daleko, za żelazną kurtyną, niedostępną dla większości z nas, a sandały były tu u nas, w naszej pracowni, w naszych, można by rzec, rękach. Giena najbardziej ze wszystkich był zafascynowany sandałami. „Właśnie tak należy malować! Właśnie tak należy malować obrazy! Żeby każdy paseczek, każda dziurka w tym skórzanym paseczku była prawdziwa. Żeby przez tę dziurkę mogło przejść powietrze!"

### Ślady na portrecie

Służbę wojskową Giena odbył niedaleko rodzimego Mińska – w Grodnie. O wojsku lubił opowiadać, miał też album ze zdjęciami oraz rysunkami. Trzymając album na kolanach, Giena śpiewał wojskowe piosenki. Wszystkie piosenki, które śpiewał Hackiewicz, były wesołe. Smutku w ogóle nie uznawał. Przygnębienie to nie żywioł. O wojsku również opowiadał ze śmiechem, opowiadał nawet o znęcaniu się nad nim i się śmiał. Malarz w wojsku też jest malarzem. Gienowi zlecono zatem namalowanie dużego, a w tym czasie wszystko wykonywało się w dużych formatach, portretu Lenina. Malował więc ten portret Lenina przez tydzień. Po skończeniu uznał, że następnym razem namaluje Lenina znacznie szybciej, ale poprosi o taki sam czas na jego malowanie. To był początek służby wojskowej, Giena nie wysypiał się, a tu pojawiła się perspektywa długiego i słodkiego snu. Położył zatem Lenina na ziemię i podeptał go. Rano Giena zameldował chorążemu, że jakiś wandal zdewastował portret wodza proletariuszy. Chorąży, będąc też dyrektorem ośrodka kultury, kazał sprawdzić buty wszystkich, kto miał możliwość w nocy wejść do klubu. Farba została wykryta na butach samego chorążego. To nie tylko nie uratowało Gieny, a odwrotnie – obciążyło jego okres służby w wojsku dodatkowymi dniami aresztu. Hackiewicz siedział w izolatce przez tydzień. Po skończeniu służby wojskowej Giena jechał na dworzec kolejowy, żeby w końcu wrócić do Mińska. W trolejbusie zauważył złośliwego chorążego sadystę. Był ubrany po cywilnemu, stał cicho i udawał, że nie zna szeregowego Hackiewicza. Giena jednak podszedł do niego blisko i przydepnął swoim żołnierskim butem cywilny pantofel złośliwego chorążego. Stali tak milcząco do samego dworca kolejowego.

### Harakiri na scenie

Giena lubił scenę. Wrodzone zamiłowanie do skandali, naturalna ekscentryczność pomagały mu skupiać na swojej osobie uwagę licznej widowni. W czasach naszych studiów w akademii teatralnej modne było urządzanie wieczorów kabaretowych, zwanych „kapuśnikami"… Nie performance, nie akcje, nie instalacje, nie dość popularne amatorskie turnieje kabaretowe, zwane KWN, a właśnie kabaret – wesoły, zawadiacki, wpadające w pamięć widowisko komponowane ze skeczy. Pamiętam dwa z tych wszystkich, w których brał udział i które organizował. Jeden był ze smokiem, okropnym gadem. Ten gad żywił się studentami pierwszego roku, a wypróżniał się studentami ostatniego roku. Proces pochłaniania-trawienia naznaczony był tupaniem i pękaniem balonów, jakich w smoku było pełno. Sam smok był uszyty z brudnych szmat. Wyczołgał się na scenę, zjadł, puścił bąka, nabrudził i wypełzł ze sceny. Czołganie było utrudnione, bo studenci pierwszego roku, siedzący w środku, nic nie widzieli. Wśród tych studentów byłem również ja. Drugi wieczór kabaretowy zorganizowany przez Hackiewicza mógł się skończyć wyrzuceniem go z uczelni, ale tak się nie stało… Wykładowcy postanowili nie skupiać uwagi społeczności na wybryku Gieny. A wybryk był ewidentny. Giena prosto na scenie przeciął sobie brzuch wielkim nożem, tak że zaczęły wypadać wnętrzności. Z okropnym krzykiem zaczął rzucać wątrobą w widownię. Wykładowcy, którzy siedzieli w pierwszych rzędach, oniemieli z przerażenia oraz obrzydzenia. Studenci, siedzący za wykładowcami, również nie od razu zrozumieli, że Giena rzuca w nich nie swoją wątrobą, a wieprzową, ze sklepu. Gienę przed wyrzuceniem z uczelni uratowało tylko to, że uznano go za kompletnego idiotę. Wielu artystów na tym świecie ratowało się dzięki temu, że uważano ich za radykałów lub niepoczytalnych. Takie podejście w stosunku do artystów nieraz ratowało Gienę.

### Promienistość i Swinarow

Była pewna cecha w wyglądzie Gieny Hackiewicza, którą inaczej niż promienistość nie można określić. Cały promienieje. Czerwony, błękitny, żółty – kolory kumulowały się w jego wyglądzie, żeby zabłysnąć niepowtarzalnie optymistycznym kalejdoskopowym promieniowaniem. Ubierał się Gienka kolorowo: pomarańczowe koszule do zielonych spodni, purpurowe trampki, malinowe skarpety, białe kurtki oraz niebieskie rękawice… Do jego ciągłego uśmiechu, wesołych oczu, zarumienionych policzków i ciemnych włosów pasowało wszystko, jednak Giena wybierał najbardziej kolorowe, najbardziej jaskrawe i najbardziej zbliżone do stroju klauna, żeby to zaznaczyć oraz dodać do swojej radosnej promienistości jeszcze odrobinę święta.

Pewnego razu Giena uszył sobie garnitur z czarnego aksamitu. Ten aksamit był bardzo czarny, taki głęboko czarny, taki czarny-czarny, że trudno sobie wyobrazić coś bardziej czarnego. W tym nowiutkim garniturku wpadł do pracowni swego kumpla – malarza Wołodzi Swinarowa. „I co sądzisz? Prawda, że cudowny strój? Marzyłem o takim!" Swinarow zaproponował herbatę. Giena nie odmówił. Zaczął oglądać obrazy kumpla, gdy tamten szykował herbatę, a następnie usadowił się w fotelu. „A-a-a!!!" To był taki wrzask, że Swinarow mało się nie zsikał. „Ga-a-rnitur!!!" Giena kręcił się pośrodku pracowni, próbując zerknąć na swój tyłek. Na czarnym aksamicie lśniła i mieniła się olejna tęcza. Siadł na paletę, na której malarz Swinarow hojną ręką nawyciskał kolorowych farb. Przed wyjściem po herbatę rzucił paletę na fotel, a Hackiewicz usiadł na nią. Spodnie zostały zniszczone, ponieważ Gienka próbował wyczyścić je terpentyną, tarł mydłem, szorował gąbką, aż w końcu zdenerwował się i podarł na kawałki. Gdy podarł, to i spokój mu wrócił. „Marynarka została! Najważniejsze – marynarka!" – uświadomił sobie Giena, idąc do sklepu po wino. Utratę spodni chłopaki uczcili porządnym piciem, w trakcie którego doszli do wniosku, że Hackiewicz nie powinien nosić radykalnie czarnych ubrań i musi pozostać promienisty.

### Chwyt zakazany

W sztuce są chwyty zakazane. Na przykład na scenie teatru pies nie powinien widzieć psa. Artyści wykonują na scenie role i psów, i kotów, i koni, co jest całkiem oczywiste. Ale pojawienie się na scenie żywego, nawet dobrze wytresowanego pieska to antysztuka, naturalizm i głupota, ponieważ nawet najbardziej nikczemny piesek z łatwością skupi na sobie uwagę widzów, odciągając ją nawet od najbardziej utytułowanego artysty. Z tego powodu profesjonaliści, malarze i artyści, nie pokazują psa psom. Nawet w cyrku piesek wykonuje rolę artysty akrobaty, a nie rolę psa. Jednak Giena mógł „pokazać psa psom" i pozostać w nurcie wysokiego oraz profesjonalnego malarstwa. Jego dzieło nosiło tytuł Przebiśniegi. Giena okleił, oblepił całe płótno zbutwiałymi, na wpół skręconymi zeszłorocznymi liśćmi. I na szarobrunatnym tle namalował temperą liliowe kwiaty przebiśniegów. Z płótna oczywiście wiało wiosną, a dookoła unosiły się zapachy marca. Obraz Przebiśniegi długo wisiał w sali chromatyki. Wisiał, żeby przypominać młodym malarzom, że psa nie wolno pokazywać psom.

### Muszle perłorodne

Giena marzył o Paryżu, o czerwonym, białym, różowym winie, o smażonych kasztanach, o ostrygach… Z jakiego powodu oni, Francuzi, mogą wysysać mięso ze ślimaków, a my – nie? Dlaczego Francuzi jedzą żaby, a my nie możemy się tego nauczyć? Giena zadawał sobie to pytanie w trakcie włóczenia się ze sztalugą w okolicach Jezior Brasławskich. Rewolucję kulinarną na Białorusi Giena postanowił zacząć od małży, od wielkich pochodzących z jeziora muszelek. Postanowił zatem muszelki ugotować, a ugotowany środek zjeść. Żeby dokonywanie rewolucji w miejscowej kuchni nie było smutne, Giena zaprosił kolejnego rewolucjonistę i kolegę z roku – Siarhieja Maliszewskiego. Długo, ponad godzinę, gotowali muszelki we wrzątku. Potem Giena wziął środek jednej muszelki do buzi i przełknął. Tak naprawdę nie przełknął, ale zrobił to Maliszewski, myśląc, że uczynił to Giena. Trzymał jednak mięso muszelki w buzi. Maliszewski połknął, ale jego żołądek zacisnął się w okropnym skurczu i ślimak wrócił na talerz. Tu też pojawił się ślimak Gieny, którego ten wypchnął językiem z ust. Rewolucja kulinarna zakończyła się klęską. Eksperymentować z białoruskimi żabami Giena się nie odważył.

### Martwa natura w ubikacji

Była to mało apetyczna historia z kawałkiem łajna. Tylko wyrzucić jej z twórczości Gieny nie da się. Wydarzyło się to podczas wyjazdu nad Jeziora Brasławskie, gdzie dla studentów pierwszego roku Akademii Sztuk Pięknych organizowano pobyty plenerowe. Tam, w krainie błękitnych jezior, młodzi malarze powinni byli zakochać się w ojczyźnie, dostrzec jej niepowtarzalność, aby w swojej twórczości opiewać Ojczyznę drogą. Giena przyjechał na Brasławszczyznę do wsi Słobodka i namalował „kiełbaskę" łajna. Wyrysował bardzo szczegółowo i starannie dziurkę w zrobionej z desek wiejskiej ubikacji. Ktoś załatwiał dużą potrzebę i nie wcelował, więc łajno leżało na błyszczących obsikanych deskach, wisząc nad śmierdzącym dołem. Śmierdząca martwa natura natchnęła Gienę. Lecz wykładowcę, profesora Baranowskiego, martwa natura z „kiełbasą" ludzkiego łajna oburzyła: „Hackiewicz, myślisz, że po prostu namalowałeś kawałek gówna, tylko obesrałeś swoją ojczyznę!". Wykładowca zrobił się czerwony jak ten rak brasławski rzucony do wrzątku, i próbował chwycić i podrzeć dzieło swego ucznia. Giena nie pozwolił na to. Do bójki wykładowcy i studenta na szczęście nie doszło, nie było więc krwawego dramatu. Wykładowca wydarł się i wyszedł, a Giena zaczął świętować zwycięstwo młodości nad starością. Giena śpiewał!

### Dziadek Mróz

Są ludzie, którzy potrafią najprostszy czyn zamienić w wyczyn bohaterski. Na przykład Giena nawet malowanie Dziadka Mroza realizuje jako ofiarne przedsięwzięcie na rzecz rozkwitu całego człowieczeństwa. Tylko że jego przedsięwzięcia bardziej były wybrykami, akcjami niszczącymi ogólne normy zachowania. Lubił te wybryki, a mianowicie małpowanie innych postaci, gestów i słów. Dlatego też Dziadek Mróz namalowany przez Gienę był bez brody, z ogoloną głową, ubraną w czerwoną czapeczkę w rozmiarze naparstka. Nos tego Mroza był nawet nie siny i nie czerwony, a zielony – jak młody ogórek.

### Kelnerki w restauracji

Tylko Giena mógł namówić mnie na flirtowanie z kelnerkami. I gdzie? W zabitym dechami Mścisławiu. Pracowaliśmy w tym miejscu, odrestaurowując były kościół. Śniadania jedliśmy w stołówce, kolacje w restauracji „Burza". Na poszukiwania kobiet czasu brakowało, dlatego zaczęliśmy zagadywać kelnerki. Zwykła gadka, pusta rozmowa bez tematu. Giena wpadł jednak na pomysł, żeby kupić wino i pójść do dziewczyn. Kupiliśmy i poszliśmy, siedzimy z nimi, pijemy alkohol. Już nawet wydawały mi się piękne i mądre. Aż nagle jak diabeł z piwnicy pojawił się brat jednej z kelnerek, a później na dodatek jego kumpel. Brat ten proponował nam zostawić kościół i wyjechać na Sachalin. Osobiście miał za sobą sporawy wyrok za bójkę. W Mścisławiu pracy nie znalazł, ale dowiedział się, że na Sachalinie sporo chłopaków z Mścisławia zarabia pieniądze. Toteż tam pojechał, zarabia, i mógłby nam pomóc. Zrezygnowaliśmy z wyjazdu na Sachalin. Wtedy kelnerki też przestały się nam podobać. A my to już zupełnie przestaliśmy się podobać bratu najbardziej brzydkiej kelnerki. Rozpocząłby bójkę, gdyby nie kościół. Powiedział, że szanuje ludzi, który pracują w kościele, w tych czasach, gdy wszyscy dookoła nie wierzą w Boga. Z Gienem odeszliśmy cali. Mieliśmy szczęście…

### Magazyn butelek

Giena był ciekawski. Setka osób minie otwory prowadzące do lochów kościelnych, ale tylko on zajrzy do środka. Zajrzał zatem do lochów byłego jezuickiego kościoła. Kościół ten wraz z klasztorem po rewolucji październikowej został zmieniony na internat dla dzieci słabosłyszących. W kościele mieścił się ośrodek kultury. Problemy finansowe zmusiły administrację internatu do zrezygnowania z ośrodka kultury. O magazynie w lochach nikt nie wspomniał. Kościół, były ośrodek kultury, długo stał pusty i był w strasznie zaniedbanym stanie. Konserwatorzy Weramejczyk, Atas i Slunczanka wykonali ogólne pomiary, i na tym pierwsza próba konserwacji się skończyła. To właśnie wtedy Giena znalazł tysiące butelek ze starą zepsutą wodą mineralną o

У той Варакомшчыне й пачыналася маё курэньне. З хлопцамі каля начнога вогнішча я пакурваў. А так як мой дзед Ладзімір моцна курыў, дык ніхто ў нашай хаце ня чуў уласна маёй накуранасьці ды пракуранасьці. Дзед курыў, седзячы каля грубкі. Ён адчыняў маленечкія дзьверцы, глядзеў на танчаньні палымяных языкоў і курыў невялічкую папяросу «Север». Тата мой курыў папяросы «Беломорканал». З-за іх я й распачаў дарослае курэньне. Вёз для таты ў падарунак дзесяць пачкаў найлепшага тады ленінградзкага «Беламору». У хлопцаў, аднакурсьнікаў па мастацкай вучэльні, скончыліся папяросы. Мы выпівалі ў цягніку «Ленінград — Брэст». Разам з хлопцамі я выкурыў у вагонным тамбуры папяросу й ап'янеў так, што ня змог улезьці на верхнюю паліцу ў сваім, добра што ў сваім, купэ.

«Не куры! Кінь! Бо так і пракурыш жыцьцё па завугольлях і прыбіральнях!» — казаў мне выкладчык маляваньня Віктар Нямцоў. А праз дваццаць гадоў я пабачыў яго на ганку саюзу мастакоў. Ён курыў. Я ня стаў нагадваць яму пра нашую даўнюю размову. Тады ён быў маім выкладчыкам, тады ён меў права папракнуць мяне за паленьне ў прыбіральні.

Цяпер курцоў перасьледуюць. У Токіё нават на вуліцы забараняецца курэньне. Трэба залазіць у сьмярдзючыя будачкі, каб курнуць. Жах! Добра, што я своечасова кінуў курыць, як і мае найбліжэйшыя таварышы, дарэчы.

Часам мне бачыцца велічны паўночнаамэрыканскі індзеец, які раскурвае міратворную люльку, і тады мне зноўку моцна-моцна хочацца закурыць.

### Настаўніца

Нехта скажа на яе — вучылка. Хтосьці — тыча ці тычка. Некаторыя… Чорт зь імі. Я тут буду яе паважаць, шанаваць і называць настаўніцай.

У настаўніцы цяжкая дупа. Раней паэты сьпявалі пра цяжкую жаночую долю, цяпер лірыкі пішуць раманы пра цяжкую жаночую дупу. Жывапісцы са скульптарамі заўжды ўхвалялі гэты важкі элемэнт жаночай паставы, нарэшце й кінэматографісты, а за імі й празаікі ўбачылі важнасьць жаночай дупы. Усе бачаць і ўслаўляюць, а настаўніца перажывае. Яна сядзіць на дыеце й нэрвуецца. Тры дні пасядзіць, а потым зноў накідваецца на выпечку. Булачкі салодкія, з разынкамі, пасыпаныя цукровай пудрай — шчасьце настаўніцы.

На перапынку настаўніца зачыняецца ў сваёй лябаранцкай, грэе гарбату й салодзіць яе. Лыжка цукру. Паўза. Яшчэ лыжка. Настаўніца ведае, што салодкая гарбата шкодная, а яшчэ больш шкодная салодкая гарбата ды зь белай булкаю, поўнай салодкіх разынак. Ну і хай! Ну й нехай расьце дупа! Але шчасьця ў настаўніцы нямашака, калі бяз гэтай праклятай набытай у школьным буфэце булкі жыць, зусім няма шчасьця бяз булачкі.

А як бяз шчасьця? Раней быў муж. Слабенькі мужчынка, п'янтосік, інжынэр-будаўнік. Ты бачыш нашы мікрараёны? Шэрасьценныя, бязтварыя, з крывымі сьцежкамі й злым насельніцтвам на крывых сьцежках? Бачыш? Гэта такія інжынэры-будаўнікі напраектавалі й панабудоўвалі. Панарабілі, жахнуліся, пабачыўшы сваё крывапанаробленае, запілі й пасьпіваліся. Жонкі іх павыганялі. Так і наша настаўніца выгнала свайго кволацелага перагарнадухага бесталаннага інжынэра. Ён вярнуўся да сваёй старэнькай маці й тамака хутка сьпіўся да сьмерці. Ад інжынэра ў настаўніцы застаўся хлопчык. Сьціплы, спакойны й такі ж нікчэмны, як бацька. Настаўніца, няма сумневаў, любіць свайго сына, але шчасьця ў ім ня бачыць. Яна ж не дурніца, яна ж разумее, што хлопец вырасьце й стане такім жа ж пустым месцам, як і ягоныя бацькі. З-за гэтага прадбачаньня настаўніца плача. Калі раптам прачнецца пасярод ночы й падумае пра сваю долю горкую, як непасалоджаная моцная зялёная гарбата, так і зарыдае ў падушку.

З каханкамі ў настаўніцы нічога не атрымалася. Пра каханкаў — гэта вельмі гучна сказана. Насамрэч гэта былі стасункі з адным малапрыгожым вучнем, падобным да заапаркнай жырафы. Настаўніца задумала параспусьнічаць, і аднаго разу яна нават дала сябе паспытаць п'яному вучню. Той сэкс не спадабаўся ні ёй, ні вучню-выпускніку, падобнаму да паўгалоднай жырафы. Яны абое пашкадавалі пра зроблены похапкам, зладжаны стоячы ў лябаранцкай, мітусьлівы да таргатлівы сэкс. Няўдачу настаўніца запісала выключна на свой рахунак. У кепскім сэксе яна абвінавацілa ўласную дупу. Вялікая! Раскормленая! Вісіць! З такой дупай нязручна займацца сэксам. Глупства несусьветнае. Але настаўніца пераканала сама сябе ў слушнасьці свайго глупства.

Як і кожная школьная настаўніца, нашая настаўніца мае артыстычныя здольнасьці. У яе мяккі голас, але яго добра чуваць нават у вялікай аўдыторыі. Апранаецца настаўніца ярка. Любіць чырвонае. Яна любіць чырвонае амаль так, як і салодкае, але салодкае настаўніца любіць больш. У сваіх чырвоных сукенках і пінжаках са спадніцамі яна глядзіцца і выразна, і запамінальна. Вучні яе крыху пабойваюцца. Можа ўдарыць кнігай па галаве. Такое здаралася толькі два разы ў першы год яе працы, але паданьне пра гэтыя ўдары прыжылося ў школьных калідорах і пераказваецца старэйшымі школьнікамі сваім малодшым братам і сёстрам. Б'е! Ды ня можа такога быць! Лупіць падручнікам па башке, чэслова! Так гучыць пераказ пра подзьвіг чырвонапінжачнай настаўніцы. Яна сапраўды ў сваім незабывальным пінжаку падобная да артысткі з тэлесэрыялу. І, як сапраўдная тэатральная артыстка, яна шмат гадоў выконвае адну й тую ж ролю. Гаворыць адны й тыя ж словы пра адны й тыя ж рэчы. Гэтыя словы прыдумала не яна, яна толькі старанна вывучыла свой колішні ўрок і паўтарае й паўтарае яго. Нават усе думкі нашай любімай настаўніцы падумалі, перадумалі й прыдумалі безь яе. Яна артыстка адной-адзінай ролі, ролі настаўніцы.

Мы ўсе нібыта любім сваіх настаўніц. Праўда, мы нават верым у тое, што любім іх шчыра, як любім сваю пасаджаную ў клетку вавёрку. У вялікай клетцы ёсьць барабан, у тым барабане вавёрка можа бегаць. Вавёрка бяжыць, а барабан круціцца, вавёрка бяжыць хутчэй і хутчэй, а барабан круціцца шпарчэй, шпарчэй і шпарчэй. Ты глядзіш на вавёрку й любіш яе. Нельга параўноўваць чалавека з жывёлаю. Дык я й не параўноўваю, я параўноўваю адносіны да чалавека й жывёлы, яны падобныя, але ад гэтага нашай настаўніцы не становіцца лягчэй жыць.

### Грантакрад

Грантакрад — гэта вам, малашаноўныя мае назіральнікі ды насіральнікі, не гранталіз і не грантаед, не грантасмок і не грантафоб. Грантакрад — усім грантазалежнікам узор для пераймання. Ён — зорка на полі, высланым выпрашанымі грошыкамі ды атрыманымі траншыкамі.

Толькі пачну я апісаньне зь ніжэйшых чыноў, каб пацыху ўзьняцца й да яго вялікаскоцкасьці грантакрада.

Гранталіз — ён больш за сто баксаў у месяц ніколі не атрымліваў. Кінуць такому сотачку, каб ня ўмёр, а ён і радуецца, і ручку цалуе, якая пакамечаную сотачку падкінула. Правільна робіць, бо не зрабі ён так, не абліжы ручку — і больш не атрымаеш ні сотачкі, ні паўсотачкі й падохнеш разам са сваімі пераканаўньямі пад плотам, што адгароджвае сьвет ад піўзаводу, так і сканаеш, не апахмяліўшыся глытком бурштынавага шумлівага жыцьцесьвяртальнага півасіку. Таму гранталіз і ліжа, і атрымлівае, і апахмяляецца своечасова. А як апахмеліцца, так і пачынае выдаваць сябе за змагара нязломнага, за рэвалюцыянэра непадкупнага, за чалавека-каменя, за байца. Вось такі ён — гранталіз.

Ёсьць сярод гранталізаў і тыя, хто абыходзіцца безь півасіка. Іх ня шмат, і яны хуценька перабіраюцца ў грантаеды.

Грантаед выпрошвае грошы ня толькі на чарку, а й на закуску атрымлівае. Грантаед здатны ўтрымліваць вакол сябе купку гранталізаў. Акром кіраваньня купкаю, ён можа нават імітаваць грамадзкую дзейнасьць: часопіс нейкі выдаваць, сайцік культурапаталагічны абслугоўваць, дакладзікі на канфэрэнцыях пачытваць. Калі гранталізы худыя, зблажэлыя ды зь цёмнымі мяшкамі пад вачыма, то грантаеды зазвычай тоўстыя, пузатыя, з разьдзьмутымі ад усьведамленьня ўласнай важкасьці бліскучымі шчокамі. Грантаед атрымлівае на цэлы нуль больш за гранталіза. Ён штомесяц кладзе сабе ў кішэню штуку баксаў. (Я знарок лічу тут заробкі грантазалежных чалавечкаў у амэрыканскіх далярах, бо ўсе яны атрымліваюць гранты ад вялікага чорнага брата зь белага дому.) Калі ты атрымліваеш у дзесяць разоў болей, не абавязкова разьдзімаць сваю пыхлівасьць, але ж грантаед ня можа стрымацца. Разьдзімаецца й жарэ. Ёсьць і выключэньні. З гэткіх выключэньняў і выходзіць грантасмок.

Асноўная якасьць грантасмока — здатнасьць падпарадкаваць сваёй волі дзясяткі пыхлівых грантаедаў зь іхнімі гістэрычнымі гранталізамі. Грантасмокі кіруюць недзяржаўнымі арганізацыямі, партыйкамі ды таварыствамі. Іх праца зводзіцца да бясконцых размоў і перамоў, цёрак і перацёрак. Грантасмокі лічаць сябе элітаю. Іх, сьвяточна апранутых, з келіхамі шампанскага ў руках, можна пабачыць на амбасадных і гатэльных фуршэтах. З разумным выглядам грантасмокі распавядаюць адзін аднаму пра выхадкі й подзьвігі сваіх васалаў — грантаедаў ды гранталізаў. Але асноўная задача грантасмокаў — знайсьці, сфармаваць, выраздзіць грантакрада. Задача ня зь лёгкіх, бо паміж грантасмокамі й грантакрадам ляжыць прорва. Тут павінен адбывацца якасны скачок — цуд. Грантакрад зацягваецца ў грантасьвет зь іншых асяродкаў, ён зацягваецца да гранталізаў, грантаедаў і грантасмокаў зь дзяржаўных структур. На лобе грантакрада павінна быць таўро дзяржаўнага здрадніка. У недалёкім мінулым ён — дзяржаўны, кар'ерны, пасьпяховы чалавек, які ў нейкі момант парушыў закон і быў злоўлены за парушэньнем. Дробнае парушэньне перарастае, дзякуючы грантасмокам, у вялікую здраду. Грантасмокі падхопліваюць здрадніка й нясуць на руках. Нясуць, каб паказаць на сьвет цэлы. Глядзіце: ён цяпер наш, наш грантазалежны. Грантасмокі пішуць на сьцягах імя грантакрада й абвяшчаюць яго збаўцам ад усіх гаротаў і бядотаў. Структура грантасьвету дафармавалася. Усё выдатна. Усе палічкі запоўнены салдацікамі. Можна пачынаць баявыя дзеяньні з грантафобамі.

Грантакрад абвяшчае вайну грантафобам. Ён крычыць пра вайну да апошняй кроплі крыві. Гарлае пра свабоду й незалежнасьць, пра сьветлае будучае, пра дабрабыт у кожным доме… Ён ілжэ й крадзе грошы. Ён імітуе змаганьне за лепшую долю нашай бацькаўшчыны й крадзе грошы. Ён — фуфло, кардонная дурылка, сцыкун і сярун, які спадзяецца накрасьці грошыкаў ды ўцячы. Ён кажа толькі тое, што яму ўкладаюць у галаў дарадцы, а дарадцы ягоныя — грантасмокі паганыя.

У нейкі момант мне нават робіцца шкада няшчаснага грантакрада. Мне яго шкада, бо дзяржавапысыя грантафобы цкуюць, гоняць і ловяць грантакрада. Яны хапаюць яго й кідаюць за краты. У грантафобаў ёсьць усе падставы, каб трымаць грантакрада за кратамі, але мне яго па-чалавечы шкада.

Adam Globus

# BIAŁO-RUSCY FREAK-MANI

#2



А.Р.Ч. «Злачынства й пакараньне». 2004
A.R.Ch. «Crime and Punishment». 2004

**Palacz**

Miński palacz stoi przy wejściu do sklepu spożywczego niczym Napoleon pod spaloną Moskwą. Wypuszcza dym jako niezwyciężony, bajeczny smok. Jest własnym pomnikiem.

W ogieńku papierosa mruga i ginie wieczność.

Prawdopodobnie w każdym z nas jest taki niewielki palacz, który chciałby na brzegu jeziora Michigan z mądrymi Indianami wypalić fajkę pokoju. Ta fajka zawsze mi się kojarzyła z jeszcze innym symbolem, a mianowicie toporem wojennym. Fajka jest natomiast symbolem pokoju, spokoju, relaksu, przyjaźni. Tak jakby przeciwstawiała siebie rywalizacji, przemocy, walce. Uspokajające działanie tytoniu nie pozostawia żadnych wątpliwości. Lekarze mogą sobie mówić o szkodliwości palenia, ale kojącego działania dymu tytoniowego jeszcze nie odwołali.

Ze wszystkich palaczy w Mińsku najlepiej znam siebie, dlatego więc opowiem o swoim paleniu...

Ponad trzydzieści lat temu byłem zagorzałym palaczem. Doświadczenie mam ogromne. Obecnie minął rok, jak rzuciłem palenie. Kiedyś uwierzyłem teściowi, który powiedział, że przyjdzie czas, kiedy rzucenie palenia będzie łatwe, czekałem więc na ten moment i rzuciłem. Powiedzieć, że było to bardzo proste, nie można, ale poszło znacznie lepiej niż w poprzednich nieudanych próbach pozbycia się nałogu tytoniowego. Zatem nie mogę obecnie powiedzieć, że jestem wzorowym palaczem. Prawdziwy palacz nigdy nie rzuci palenia, będzie palił do ostatnich dni swego życia. Nawet na tamten świat zabierze ze sobą paczkę papierosów i oczywiście zapalniczkę do kieszeni. Jestem nawet skłonny uwierzyć, że ostatnie słowa wypowiedziane przez namiętnego palacza fajek jaśnie natchnionego van Gogha były: „Bracie, nabij mi fajkę, bo ręce mi już zdrętwiały, a zapalić chciałbym jeszcze!".

Gdzieś w oddali jeszcze ciągle słyszę głos swojej babci Broni: „Palisz papierosy? Pal! Oby ci to bokiem wyszło!". Wtedy, gdy byłem dzieckiem, w naszej maleńkiej wsi Varakomshchyna usłyszeć można było i takie powiedzenie: „Palisz papierosy, pal, nie możesz się napalić,

palaczu! Czekaj no, jeszcze na innym świecie, w piekle diabły cię przypalą!". W wyglądzie tutejszych palaczy rzeczywiście jest coś piekielnego, potwornego, diabelskiego.

Na tej wsi Varakomshchynie zaczęło się i moje palenie. Popalałem sobie z chłopakami przy nocnym ognisku. A ponieważ mój dziadek Ladimir dużo palił, nikt w naszym domu nie czuł właśnie ode mnie zapachu tytoniu. Dziadek palił, siedząc przy piecu. Otwierał małe drzwiczki, obserwując taniec płomieni, palił niewielki papieros „Sever" („Północ"). Ojciec mój palił papierosy „Belomor-kanal" („Kanał Białomorski"). To właśnie od nich się zaczęło moje prawdziwe palenie. Wiozłem dla ojca w prezencie dziesięć paczek najlepszych w tym czasie „Belomor-kanalów" z Leningradu. Chłopakom, kolegom z akademii sztuki, skończyły się wtedy papierosy. Piliśmy alkohol w pociągu relacji Leningrad–Brześć. Wypaliłem z chłopakami w przedsionku papierosa i poczułem się tak pijany, że nie dałem rady wspiąć się na swoje górne miejsce w przedziale, dobrze, że w swoim przedziale.

„Przestań palić! Rzuć to! Bo przestoisz całe życie, paląc za rogiem" – tak do mnie mówił mój wykładowca malarstwa Viktor Nemcov. Po dwudziestu latach spotkałem go, stojącego przy wejściu do Związku Malarzy. Palił. Nie przypomniałem mu naszej starej rozmowy. W tamtych czasach był moim wykładowcą, miał prawo robić mi wyrzuty za palenie w toalecie.

W dzisiejszych czasach palacze są prześladowani. W Tokio nawet na ulicy palenie jest zabronione. Musisz wchodzić do śmierdzącej budy, żeby zapalić. Horror! Dobrze, że w dobrym momencie rzuciłem palenie. Moi przyjaciele też.

Czasem widzi mi się majestatyczny Indianin z Ameryki Północnej, palący fajkę pokoju i w tym momencie znów bardzo, tak bardzo chcę zapalić.

**Nauczycielka**

Ktoś pewnie powie o niej – belfer. Ktoś sorka czy tyczka. Inni… Niech ich diabli wezmą. Będę ją szanował, respektował i nazywał nauczycielką.

Nauczycielka ma ciężką dupę. Przedtem poeci śpiewali o ciężkim kobiecym losie, obecnie zaś lirycy tworzą opowieści o ciężkiej kobiecej dupie. Malarze, rzeźbiarze zawsze gloryfikowali ten istotny element kobiecego ciała, później także filmowcy, następnie też pisarze dostrzegli znaczenie kobiecej dupy. Każdy, patrząc, gloryfikuje, a nauczycielka się martwi. Podejmując kolejne wyrzeczenia, diety, denerwuje się. Trzy dni denerwuje się, ale potem znowu rzuca się na ciasto. Drożdżówki z rodzynkami lukrowane są przecież szczęściem nauczycielki.

Na przerwie nauczycielka zamyka się w swojej kanciapie, robi sobie herbatę, słodzi. Łyżeczkę. Moment. Jeszcze jedna. Nauczycielka wie, że słodka herbata jej szkodzi, a jeszcze bardziej szkodzi słodka herbata z drożdżówką obfitą w słodkie rodzynki. Niech! No, niech ta dupa rośnie! A szczęścia w tym życiu nauczycielki nie za wiele, jeśli nie wyobraża sobie życia bez tej przeklętej drożdżówki ze szkolnej stołówki, skoro to jedyne szczęście ta drożdżóweczka.

A jak bez szczęścia? Wcześniej miała męża. Słabiutki facecik, pantoflarz, inżynier budownictwa. Widziałeś pewnie nasze osiedla? Szarawe, niewyraźne, krzywe chodniki i źli ludzie na krzywych chodnikach? Rozumiesz? To właśnie tacy inżynierowie je projektowali i budowali. Wykonali, przerazili się, gdy zobaczyli swoje krzywowykonawstwo, zaczęli pić i wpadli w alkoholizm. Nasza nauczycielka kopnęła zatem swego słabego ciałem, wiecznie skacowanego, nieutalentowanego inżyniera. Powrócił do swej starej matki i pił tam już do śmierci. Z inżynierem miała nauczycielka synka. Skromny, cichy i bezwartościowy jak ojciec. Nauczycielka niewątpliwie kochała swego chłopczyka, dużo szczęścia z tego jednak nie miała. Nie jest przecież głupia, rozumie, że chłopak wyrośnie i zostanie nic nieznaczącym elementem, podobnie jak jego rodzice. Z powodu takiej perspektywy nauczycielka płacze. Gdy nagle budzi się w środku nocy i myśli o swym przykrym losie, jak niesłodzona mocna zielona herbata, zaczyna płakać do poduszki.

Kochanków nauczycielka prawie nie miała. Kochankowie to za dużo powiedziane. Tak naprawdę były to stosunki z mało przystojnym uczniem, podobnym do żyrafy z ogrodu zoologicznego. W pewnym momencie nauczycielka postanowiła się zabawić i zdecydowała się na pijanego ucznia. Seks ten nie smakował ani jej, ani uczniowi, podobnemu do na wpół zagłodzonej żyrafy. Oboje odżałowali ten seks w pośpiechu, na stojąco w kanciapie. Przyczyny niepowodzenia nauczycielka upatrywała wyłącznie po swojej stronie. W słabym seksie obwiniła własną dupę. Ogromna! Przekarmiona! Wisząca! Z taką dupą niezręcznie jest uprawiać seks. Głupota niewypowiedziana. Ale nauczycielka przekonała siebie do słuszności swojej głupoty.

Jak każda nauczycielka, również nasza miała zdolności artystyczne. Jej delikatny głos mógł być wyraźnie słyszalny nawet w dużej sali. Ubierała się jaskrawo. Lubiła kolor czerwony. Uwielbiała czerwień prawie tak samo jak słodycze, jednak słodycze nauczycielka lubiła bardziej. W czerwonych sukienkach i garsonkach jej wizerunek był jaskrawy i niezapomniany. Uczniowie jej się bali. Twierdzono, że może trafić książką w głowę. To się stało tylko ze dwa razy podczas pierwszego roku jej pracy w szkole, ale legenda o tym pozostała i krążyła po korytarzach szkoły opowiadana przez starszych uczniów młodszym. Bije! Nie może to być prawda! Bije podręcznikiem po głowie, naprawdę! Tak brzmi ten przekaz o wyczynach naszej czerwonej pani nauczycielki. W tej swojej czerwieni wygląda jak prawdziwa serialowa aktorka. I jak prawdziwa aktorka teatru przez wiele lat wykonuje swoją tę samą jedyną rolę. Ciągle powtarza te same słowa i wypowiedzi. To nie ona je wymyśliła, tylko kiedyś skrupulatnie nauczyła się swoich konspektów i powtarza, powtarza. Nawet wszystkie myśli naszej kochanej nauczycielki były pomyślane i przemyślane bez jej udziału. Jest aktorką jednej jedynej roli, roli nauczycielki.

Niby wszyscy kochamy naszych nauczycieli. Tak naprawdę wierzymy nawet, że szczerze, tak jak kochamy swoją wiewiórkę trzymaną w klatce. W dużej klatce ma bęben, w tym bębnie wiewiórka może pobiegać. Wiewiórka biegnie, a bęben obraca się coraz szybciej i szybciej. Obserwujesz wiewiórkę i lubisz ją. Nie można porównywać ludzi do zwierząt. Lecz ja nie porównuję, porównuję tylko stosunek do człowieka i do zwierzątka; są podobne, z tego powodu jednak nasza nauczycielka nie ma lżejszego życia.



А.Р.Ч. «Дом імя сабачага вясельля». 2004
A.R.Ch. «A House of Dog's wedding». 2004

Гутарыла Стася Русецкая



# Ільля Чарапко-Самахвалаў: «Мы ня група маніфэстантаў. А гурт «Жывых недарэчнасьцяў»

*Беларускія журналісты называюць Ільлю Чарапко-Самахвалава, лідэра музычных праектаў «Касіяпэя» й «Пятля Прыхільнасьці», «лірычным героем» і «ўнікумам беларускай альтэрнатыўнай музыкі». Але, як зазначаецца ў расейскім часопісе «Rolling Stones», «калі «Касіяпэя» — праект тэатралізаваны, дзе на канцэртах музыкі апранаюцца ў дзіўныя гарнітуры й сьпяваюць сюррэалістычныя тэксты пад сынтыпопавыя падкладкі, то «Пятля», наадварот, грае рок-музыку — нэрвовую, драйвавую й вельмі пэрсанальную… Адчайныя песьні Чарапко-Самахвалава прымушаюць успомніць, хутчэй, пра другую хвалю сыбірскага панку й рускі рок-андэргraўнд 90-х…». Сёлета Ільля ўжо другі раз быў намінаваны на вядомую прэмію ў галіне альтэрнатыўнай музыкі «Стэпавы воўк» — гэта, паводле словаў ейнага заснавальніка Арцемія Троіцкага, «адзіная расейская прэмія, якая арыентаваная найперш на інавацыйнасьць і талент».*

**— Ільля, ты ўжо другі раз намінуесься на «Стэпавага воўка». У 2009-м з «Касіяпэяй» патрапіў у шорт-сьпіс як «Адкрыцьцё году». Сёлета ўжо зь «Пятлёй Прыхільнасьці» апынуўся ў намінацыі «Словы». Наколькі важныя для цябе такія ўзнагароды?**

— Сказаць, што я не надаю гэтаму значэньня, было б няпраўдай. Вядома, мне прыемна. Але я ня думаю, што гэта нейкім чынам штосьці зьменіць у маім жыцьці. Нават калі, не давядзі сьвет, мне гэтую прэмію ўручаць. Хаця шанцы вельмі невялікія, як мне здаецца, калі ты ў кампаніі дзяўчынак зь «Лемандэй», Міхася Фенічава, Яўгена Алехіна, якія цалкам заслугоўваюць такую прэмію. Але трапіць у гэтую кампанію мне прыемна.

**— Чаму «не давядзі сьвет»?**

— Тады давядзецца ехаць, яшчэ й за свой кошт… Ды й наогул, я там быў ужо аднойчы, ня так гэта й весела. Гук быў дрэнны. Але, магчыма, гэта быў першы блін, які камяком. І, папраўдзе, я саромеюся вялікай колькасьці людзей. Ну, выйду — і што скажу?

**— Прасьпяваеш.**

— Паводле рэгляманту магу толькі вершы прачытаць. Давядзецца чытаць, а я ня ўмею.

**— Па прафэсіі ты актор. Тэатар зьявіўся ў тваім жыцьці выпадкова, ці гэта быў сьвядомы выбар?**

— Гэтая «старажытная» гісторыя ўпіраецца каранямі ў мой глыбокі падлеткавы ўзрост. З 11 гадоў я пачаў хадзіць у салігорскую тэатральную студыю «Вітамін Д». Сыграў там шмат галоўных роляў, і ўсе мне прадказвалі вялікую тэатральную будучыню. Сам я сябе ў тэатры ня бачыў. Але, калі прыйшоў момант «зьнікнуць» з гораду, давялося зрабіць выбар менавіта ў гэтым кірунку. Я разумеў, што ў Лінгвістычны інстытут, напрыклад, мяне ня возьмуць, у БДУ таксама. Там трэба ведаць такія дысцыпліны, якія я ня тое што ня ведаю, а для мяне гэта проста гіерогліфы з выспы Пасха. Калі я сьпісваў у школе, напрыклад, альгебру, у мяне нават не было ўпэўненасьці, што сьпісваю дакладна, бо нічога не разумеў. Таму з такім запасам ведаў, натуральна, ні пра якія ўступныя іспыты ў сур'ёзныя навучальныя ўстановы не магло быць і гаворкі. У мяне заставаўся адзін шлях — ісьці ў гуманітарным кірунку. А ў Акадэмію мастацтваў трэба было здаваць толькі спэцыялізацыю й іспыты па беларускай ці расейскай мове й літаратуры на выбар. Але ў Акадэмію я таксама не патрапіў, таму давялося паступаць у Інстытут культуры.

**— Адразу трапіў «на службу» ў Маладзёвы тэатар?**

— У 1998 годзе, калі вучыўся на трэцім курсе, мастацкі кіраўнік нашага курсу Рыгор Баравік павёў нас у Маладзёвы тэатар на прагляд. Чымсьці я там спадабаўся, і мяне ўзялі. Дарэчы, менавіта ў Маладзёвым тэатры я пазнаёміўся з Аляксандрам Лібэрзонам, які да майго прыходу працаваў там гукарэжысэрам. Саша ўжо тады, у 2000 годзе, быў вядомым у Менску музыкам, удзельнікам калісьці нашумелага

калектыву «Расьпілаваў і выкінуў». На той момант у яго быў гурт «Каратэ». «Чуў, ты нядрэнна сьпяваеш. Чаму б табе не дапамагчы мне?» — прапанаваў Лібэрзон. Я дапамог. Пасьля гэтага ў яго зьявілася ідэя запісаць шэраг кампазыцыяў. Мы сумесна склалі некалькі тэкстаў. Я зноў прасьпяваў. Атрымалася добра. Усім спадабалася. Мы вырашылі працягваць. Назьбіралася песень на альбом. Паколькі трэба было гэта падаваць пад нейкім «соўсам», мы назваліся «Касіяпэй» і выпусьцілі дыск.

**— Тэатралізаваны праект «Касіяпэя» запамінаецца найперш ярка выяўленым візуальным стылем. Як паўстала ідэя такіх бясконцых пераапрананьняў-мэтамарфозаў?**

— Складана выконваць усё, што мы прыдумалі, ад уласнага імя. Для гэтага трэба выдумаць нейкіх пэрсанажаў.

**— Але гэта асаблівыя, дзіўныя пэрсанажы…**

— Так, але і музыка ў нас дзіўная. Адбыўся б нейкі візуальны дысананс, калі б мы выходзілі на пляцоўку ў звычайным адзеньні й выконвалі дзіўную музыку.

**— Але чаму менавіта такая «недарэчнасьць»?**

— «Недарэчнасьць» у чым?

**— У вобразах. Першае, што кідаецца ў вочы: сталыя здаровыя звычайныя мужыкі апранаюць на сябе нейкае пярэстае недарэчнае адзеньне… Чаму, напрыклад, ня строгія гарнітуры й размалёваныя твары ці аголеныя тулавы зь якімі-небудзь малюначкамі?**

— Напэўна, ёсьць такая патрэба. Але, вядома, мы не наўмысна гэта робім. Людзі мы недарэчныя, вось і ўсё.

**— Хто зьяўляецца аўтарам дзіўнай музыкі «Касіяпэі»? Ці быў першапачатковы арыентыр на кагосьці?**

— За музыку адказвае Лібэрзон, а ён чалавек мэляманскага складу, і на той момант, ды й цяпер, быў моднікам і вельмі ганарыўся гэтым статусам. Ён вырашыў зрабіць музыку ў духу модных на той момант кірункаў: лоў-фай, электроніка. А потым усё гэта перарадзілася ў напалову гітарную музыку. У мяне ёсьць гітара, ён папрасіў сыграць. Я зайграў, ён сказаў, што гэта добра, і мы гэта так і пакінулі.

**— Гэта значыць, «Касіяпэя» — модны гурт?**

— Тады, на пачатку 2000-х, ён быў вельмі модны, як мне здаецца.

**— А зараз?**

— Зараз гэта гурт, які сам задае стыль.

**— Як падзяляеце абавязкі ў гурце?**

— Тэксты пішам мы з Сашам Лібэрзонам. Ён прыносіць нейкую музычную нарыхтоўку, мы разам «узважваем» на дваіх, потым думаем, як пад гэта можна прасьпяваць, потым — пра што мы будзем сьпяваць. І так — пяцелька-кручочак, пяцелька-кручочак — песьня гатовая.

Ньютон, Ньютон, брось свое яблоко,
Галилей, Галилей, ничего не вертится,
Скажи Циолковскому, что небо квадратное.
А как там Джордано? Все еще теплится?
Один плюс один будет два,
Два плюс один будет три —
Так в арифметике.
Один плюс один в арифметике,
Два плюс один в арифметике,
А в жизни бывает иначе.
Архимед, помолчите без «эврики»,
Ломоносов, поближе к Архангельску,
Менделеев и Фрейд, хватит спать,
Миклухо-Маклай, надо помнить о Куке,
А Куку надо было о доме думать,
Павлов, Павлов, собаки нужны для охоты.
Люди, поближе к природе,
Люди, побольше лирики.
Птицы летают красиво, а не по законам физики.
Один плюс один будет два,
Два плюс один будет три —
Так в арифметике.
Один плюс один в арифметике,
Два плюс один в арифметике,
А в жизни бывает иначе.

(«Касіяпэя» — «Адзін плюс адзін»)

**— Што зьяўляецца імпульсам для тваёй паэзіі?**

— Пары алькагольныя — што ж яшчэ?

**— Гэта значыць, сэнсу няма?**

— Ёсьць. Як жа няма? Досыць багата розных сэнсаў. Мы ж пішам ад імя не аднаго героя, але шматлікіх і розных. Хай яны й недарэчныя, але з глыбокім унутраным жыцьцём.

**— У тэкстах прысутнічае вельмі шмат «космасу», «жывуць іншаплянэцяне»…**

— Ну ня так ужо й шмат, адсоткаў дваццаць. А калі гаварыць пра іншаплянэцянаў, калісьці мы самі былі іншаплянэцянамі. Цяпер у нас досыць вялікі «мадэльны шэраг» уласных гарнітураў рознай тэматыкі: Каток, Козьлік, Пчолка Мая, Азьвярэлае Зло, напрыклад, ці Прынц і Жабракі. Пагадзіцеся, гэта ўсё з космасам ня вельмі зьвязана.

**— Куды ў пэрспэктыве можа рухацца ваш «мадэльны шэраг»?**

— Гэта як паспрабаваць разьлічыць траекторыю вельмі п'янага чалавека: што зь ім адбудзецца ў наступныя пяць хвілін — невядома. Таму, што будзе з намі далей, мы самі ня ведаем.

**— Пакуль вы проста атрымліваеце асалоду?**

— Так, калі можна гэтак выказацца, атрымліваем асалоду… Але зразумела, што мы не праводзім увесь свой час у стане экстазу ад саміх сябе. Часам атрымліваем асалоду, часам палохаемся. Пакуль нам добра.

**— Ці ёсьць тэмы, пра якія вы б ніколі не прасьпявалі?**

— Не, такіх тэмаў няма. Калі на нейкую тэму мы яшчэ ня склалі песьню, значыцца, проста рукі не дайшлі. Калі-небудзь абавязкова дойдуць.

**— «Абмежаваньня» сваёй фантазіі быць ня можа?**

— Напэўна, ёсьць нейкія тэмы, якіх бы мы не жадалі чапаць. Ува ўсякім разе, шчыра. Палітыка, напрыклад. Справа не ў самой палітыцы. Ёсьць тон апавяданьня, які мы ня можам сабе дазволіць. Калі гэта будзе пра палітыку, то, напрыклад, прыдумаем песьню пра Дартэ Вэйдэра, які стаў прэзыдэнтам якой-небудзь заняпалай плянэты… Мы ня група маніфэстантаў, а гурт «жывых недарэчнасьцяў». Таму мы ўхіляемся ад злабадзённых палітычных лёзунгаў.

**— Але ці не ўзьнікае часам жаданьня адрэагаваць менавіта на актуальныя падзеі?**

— Як чалавек я, вядома, магу рэагаваць. Але як аўтар — хутчэй, не. Часта я сам не кірую гэтым працэсам. Гэта імпрэза несьвядомага, а ня нейкі загадзя прадуманы творчы акт.

**— Расейскія музычныя крытыкі высока ацэньваюць творчасьць «Касіяпэі» й «Пятлі Прыхільнасьці». Якую ролю для цябе адыгрываюць такія крытычныя водгукі? Напрыклад, вызначэньне «сыбірскі панк» пра «Пятлю Прыхільнасьці» трапляе ў сутнасьць таго, што ты робіш?**

— Я ня ведаю, і ў прынцыпе гэта наогул не мая справа — разумець, што я раблю. Я не канцэптуаліст і не выконваю нейкіх задачаў плянэтарнага ўзроўню. Я ведаю, што, напрыклад, маскоўскія журналісты Аляксандар Гарбачоў, Ільля Зінін лічаць «Пятлю Прыхільнасьці» расейскім рокам, якім ён павінен быў бы быць насамрэч, каб не насіць на сабе ганебнага таўра музыкі «трэцяга гатунку». Але гэта іхныя меркаваньні. Мы ж проста робім тое, што найперш падабаецца нам.

**— А вызначэньне цябе як «лірычнага героя»?**

— Ну, гэта хтосьці ўжо цераз меру ўзяў. Проста яны мяне асабіста ня ведаюць.

**— Ты ня згодны быць «лірычным героем»?**

— Я пра сябе занадта шмат ведаю, каб пагадзіцца. Можа, і лірычны, але вызначаная дыстанцыя паміж мною й маім лірычным героем ёсьць. Гэта ня выдуманы пэрсанаж, але і не зусім адпаведны сапраўднаму мне.

**— З абодвума гуртамі ты шмат гастралюеш. Адрозьніваецца беларускі глядач, напрыклад, ад расейскага?**

— Беларускі глядач да нас ужо прызвычаіўся. Мы абрасьлі ўласнай суполкай. Таму нас заўсёды вельмі цёпла прымаюць. Ёсьць людзі, якія ходзяць на канцэрты ўвесь час. Яны ведаюць усе песьні, гучна падпяваюць. А часам прыедзеш у горад, дзе цябе толкам ня ведаюць, — там, зразумела, канцэрты больш стрымана адбываюцца. Але бывае й такое: адразу пускаюцца ў скокі. Гэта залежыць не ад мэнтальнасьці, а ад падрыхтаванасьці слухача.

**— Дзе «гатовыя» больш?**

— Вядома, тут. Найперш па колькасьці. Мы часта граем у закусачнай «Графіці». Апошнія тры канцэрты прайшлі проста на аншлягах: клуб ня змог зьмясьціць усіх ахвотнікаў. А бываюць канцэрты, як, напрыклад, нядаўна ў Краснадары, калі прыйшлі толькі 30 чалавек. Але арганізатары мерапрыемства засталіся задаволеныя, таму што для Краснадару, як мы дазналіся, гэта вельмі нават нядрэнна, асабліва для гурта, што прыехаў першы раз. І, верагодна, калі мы прыедзем яшчэ раз, то народу будзе нашмат больш.

**— Ці сумяшчаюцца для цябе «Касіяпэя» й «Пятля Прыхільнасьці»?**

— У «Пятлі» іншая сытуацыя: там у гарнітурчыку не паскачаш. Гэта два розныя гурты, якія, хаця й нарадзіліся прыкладна ў адзін часавы адрэзак, у пачатку 2000-х, але маюць зусім незалежныя адзін ад аднаго фарматы. «Пятля Прыхільнасьці» — не працяг «Касіяпэі», а «Касіяпэя» — не інсайд-праект «Пятлі Прыхільнасьці».

**— Калі «Касіяпэя» — гэта «жывая недарэчнасьць», то «Пятля Прыхільнасьці»…**

— …гэта чалавек — кніга скаргаў.

Так прекрасна жизнь,
Как хочется жить,
Жалко,
Как жаль, что я не Метерлинк,
Как жаль, что я не Спайдермен,
Хочу обратно в ракушку,
Жалко,
Как жаль, что я не Метерлинк,
Как жаль, что я не Спайдермен,
Хочу обратно в ракушку,
Хочу обратно в ракушку,
Хочу обратно в ракушку,

Да.
Здравствуй, болото, здравствуй, болото,
Жирная тина,
Хуй кто спасет нас,
Ни Джонсон, ни Гувер,
Сами виноваты.
Как полезен сон,
Как хочется спать,
Жалко,
Как жаль, что я не Кьеркегор,
Как жаль, что я не Бабочкин,
Хочу обратно в ракушку,
Жалко,
Как жаль, что я не Кьеркегор,
Как жаль, что я не Бабочкин,
Хочу обратно в ракушку,
Хочу обратно в ракушку,
Хочу обратно в ракушку,
Да.
Хуй кто спасет нас,
Ни Джонсон, ни Гувер,
Сами виноваты.

(«Пятля Прыхільнасьці» — «Назад у ракавінку»)

**— Што зьяўляецца крыніцай лірыкі для «Пятлі Прыхільнасьці»? У выпадку з «Касіяпэяй» гэта пары алькаголю…**

— Ну і тут пары алькаголю. Толькі часам ты выпіў — і табе добра. А часам дрэнна. Калі добра — гэта «Касіяпэя», калі дрэнна — «Пятля Прыхільнасьці»…

**— Напэўна, гурт «Касіяпэя» гатовы да неадэкватнай рэакцыі з боку гледачоў. Зразумела, імідж і тэксты могуць справакаваць. Але ці здаралася нешта, што сапраўды было нечаканасьцю нават для вас?**

— Аднойчы такое здарылася ў Маскве, у клюбе «Гогаль». Гэта такая ўстанова, куды, пакуль няма канцэрту, можа зазірнуць кожны ахвотнік. Падчас саўнд-чэку мы сьпявалі песьню пра Мікі Маўса. Ужо заканчвалі, як раптам чую: паралельна са мной хтосьці моцна лаецца такім гучным злым голасам. Мы спыняемся й бачым: на парозе стаіць пажылая жанчына й мацюкаецца, кляне нас за тое, што мы сьпяваем песьню пра Мікі Маўса. «Што вы прагінаецеся? Мікі Маўс гэты ваш! Цьфу! Казлы!» Яна аказалася сапраўднай патрыёткай, таму песьня пра Мікі Маўса для яе была невыносная. Яе, вядома, вывелі, а мы працягнулі сваю песьню пра Мікі Маўса.

**— Як спраўляесься зь «невыноснай лёгкасьцю быцьця»?**

— З дапамогаю сяброў, блізкіх, вядомая рэч. Імкнуся не падпускаць да сябе лішніх людзей, па магчымасьці не ўступаць ні ў якія зносіны зь дзяржавай.

**— Ці лічыш ты, што твая кар'ера музыкі атрымалася?**

— Посьпех — гэта адносны панятак. Многія людзі мяне лаюць за тое, што я мала варушуся. Рабі я больш — больш займайся мэнэджмэнтам, прасоўваньнем свайго «прадукту» на рынак — усе мае справы маглі б складацца больш пасьпяхова. Але мне здаецца, я з такімі рэчамі ня зладжуся, ува ўсякім разе, сам-адзін. Але наогул я цалкам задаволены, таму што гэта значна больш за тое, на што я разьлічваў з самага пачатку.

**— Што сёньня цябе можа зьдзівіць: у музыцы, у чалавеку, на вуліцы?**

— Зьдзівіць? Ня ведаю. Можа замілаваць, уразіць, але гэта не зусім тое зьдзіўленьне. Чалавек можа мне вельмі моцна, амаль да закаханасьці, спадабацца. А зьдзіўленьне… Калі я ўбачу, як чалавек пералятае з дрэва на дрэва на вышыні мэтраў 50, я, напэўна, зьдзіўлюся. Ці калі ўбачу чалавека зь дзьвюма галовамі, таксама зьдзіўлюся — спачатку спалохаюся, а потым зьдзіўлюся… А сур'ёзна — калі аднойчы я сустрэну сапраўднага генія, не лякальнага маштабу, а чалавека, які быў бы ў стане перакуліць існы парадак рэчаў, тады, напэўна, зьдзіўлюся, як гэта я побач апынуўся. Але гэта тое ж самае, што пералятаць з дрэва на дрэва.

**— Ня верыш?**

— У НЛА, у іншапланэцянаў, у сьнежнага чалавека веру…

**— Паспрабуем паставіць патасную кропку. Як ты думаеш, што выратуе гэты сьвет?**

— Тунгускі мэтэарыт… Ну ўсё, так?

Rozmawiała Stasiya Rusieckaya

# Ilya Charapko-Samokhvalov: Nie jesteśmy zespołem demonstrantyw. Raczej zespołem „istniejących absurdyw"

**Ilyę Charapko-Samokhvalova, lidera projektów muzycznych Cassiopeia oraz Petlya Pristrastiya, dziennikarze białoruscy określają „bohaterem lirycznym" i „fenomenem białoruskiej muzyki alternatywnej". Cassiopeia jest projektem teatralnym. Realizując go, muzycy, ubrani w dziwne stroje, śpiewają surrealistyczne teksty z podkładem w stylu synth pop. „Pętla – przeciwnie –prezentuje muzykę rockową – nerwową, rytmiczną i bardzo osobistą... Desperackie utwory Charapko-Samokhvalova przypominają raczej drugą falę punku na Syberii oraz rosyjskiego rock undergroundu z lat 90." (rosyjski magazyn „Rolling Stone"). W tym roku Ilya po raz drugi został nominowany do znanej w Rosji nagrody w dziedzinie muzyki alternatywnej Wilk Stepowy (Steppenwolf). Według jej pomysłodawcy, Artemia Trajeckiego, „jest to jedyna w Rosji nagroda przyznawana głównie za innowacyjność oraz talent".**

***- Ilya, jesteś już po raz drugi nominowany do nagrody Wilka Stepowego. W 2009 roku Cassiopeia została nominowana do short listy w kategorii Odkrycie Roku. W tym roku Pętla Lojalności otrzymała nominację w kategorii Tekst. Jak ważne są dla Ciebie tego typu wyróżnienia?***

**Ilya Charapko-Samokhvalov:** Gdybym powiedział, że nie przywiązuję żadnej wagi do tego, byłoby to nieprawdą. Ale nie sądzę, że to coś zmieni w moim życiu. Oczywiście, że jestem zadowolony. Nawet jeśli, nie daj Boże, otrzymam tę nagrodę. Chociaż, moim zdaniem, szanse są bardzo małe, biorąc pod uwagę to, że jestem w towarzystwie dziewcząt z „Lemandey", Michasia Fenichava, Yaugena Alekhina, którzy naprawdę zasługują na tę nagrodę. Jednak sam fakt, że znalazłem się w takim towarzystwie, jest dla mnie miły.

***- Dlaczego nie daj Boże?***

**I.Ch.-S.:** Ponieważ musiałbym tam pojechać, na dodatek na własny koszt... W ogóle byłem tam już raz, nie jest to takie zabawne. Nagłośnienie było słabe. Może jednak były to pierwsze koty za płoty. Tak naprawdę wstydzę się tak dużej liczby ludzi. Wyjdę i powiem, że niby co...?

***- Zaśpiewasz.***

**I.Ch.-S.:** Według regulaminu mogę tylko recytować wiersze. Będę musiał recytować, a tego nie potrafię.

***- Z zawodu jesteś aktorem. Czy teatr zaistniał w Twoim życiu przypadkowo, czy była to świadoma decyzja?***

**I.Ch.-S.:** Ta „prastara" historia korzeniami sięga czasów, gdy byłem nastolatkiem. Od jedenastego roku życia uczęszczałem do studium teatralnego Vitamin D w Soligorsku. Zagrałem tam wiele pierwszoplanowych ról, wszyscy przepowiadali mi wielką przyszłość teatralną. Sam siebie nigdy nie widziałem w roli aktora. Gdy natomiast przyszedł moment „zniknięcia" z miasta, musiałem dokonać wyboru. Rozumiałem, że na Uniwersytet Lingwistyczny się nie dostanę, także na Uniwersytet Białoruski w Mińsku. Ponieważ wymogiem było opanowanie takich dyscyplin, jakich nie tyle że nie znam, ile są dla mnie czarną magią z Wysp Wielkanocnych. Gdy ściągałem na matmie w szkole, nie miałem pojęcia, czy to, co ściągam, jest dobre, nic nie rozumiałem i mogłem spokojnie ściągać z błędami. Dlatego wiedziałem, że z takim

przygotowaniem nie mogę nawet porywać się na jakiekolwiek egzaminy wstępne na poważne uczelnie. Pozostała mi jedyna droga – podążania w kierunku humanistycznym. Na Akademię Sztuk Pięknych trzeba było zdawać egzaminy z danej specjalizacji oraz język rosyjski lub białoruski, według uznania. Lecz na Akademię również się nie dostałem, musiałem więc zdawać na Akademię Kultury.

S.R.: ***Czy od razu trafiłeś na scenę Teatru Młodzieży?***
**I.Ch.-S.:** W roku 1998, gdy byłem studentem trzeciego roku, opiekun naszego roku, Rygor Baravik, zaprowadził nas na przegląd do Teatru Młodzieży. Jakimś cudem zwróciłem na siebie uwagę i dostałem się tam. Właśnie w Teatrze Młodzieży spotkałem Aleksandra Liberzona, który w tym czasie był reżyserem dźwięku. Sasha już w 2000 roku był znanym w Mińsku muzykiem, członkiem niegdyś głośnego zespołu „Raspilawau i wykinu". W momencie naszego spotkania prowadził zespół Karate. „Słyszałem, że nieźle śpiewasz. Czy nie miałbyś chęci na współpracę?" – zaproponował Liberzon. Zgodziłem się. Miał kilka pomysłów nagrania paru utworów. Razem napisaliśmy kilka tekstów. Znów zaśpiewałem. Wyszło nieźle. Wszystkim się podobało. Postanowiliśmy kontynuować. Nagromadziło się wystarczająco dużo utworów na płytę. Ponieważ wypadało temu nadać jakąś formę, nazwaliśmy się Cassiopeia i wydaliśmy płytę.

***- Projekt teatralny Cassiopeia odznacza się przede wszystkim wyraźnym stylem wizualizacji. Skąd pomysł tych niezliczonych wariacji przeobrażeń?***
**I.Ch.-S.:** Trudno było osobiście realizować wszystko, co wymyśliliśmy. W tym celu należało wymyślić kilka nowych postaci.

***- Są to jednak wyjątkowe, „pokręcone" postacie…***
**I.Ch.-S.:** To prawda, muzykę jednak też wykonujemy pokręconą. Byłby to rodzaj wizualnego rozdźwięku, gdybyśmy wychodzili na scenę w zwykłym stroju i grali pokręconą muzykę.

***- Skąd jednak tego typu „absurd"?***
**I.Ch.-S.**: „Absurd" w czym?

***- W postaciach. Pierwsze, co zwraca uwagę – zrównoważeni, zdrowi, zwykli faceci zakładają jakieś kolorowe absurdalne stroje… Dlaczego na przykład nie eleganckie garnitury i umalowane twarze lub ogolone klaty z tatuażami?***
**I.Ch.-S.:** Myślę, że mamy taką potrzebę. Oczywiście nie robimy tego z wyrachowania. Po prostu jesteśmy pokręceni.

***- Kto jest kompozytorem „pokręconej" muzyki dla Cassiopei? Czy od początku byliście nastawieni na konkretnych odbiorców?***
**I.Ch.-S.:** Za muzykę jest odpowiedzialny Liberzon. To on jest melomanem. W tamtym czasach, obecnie zresztą też, był wytwornisiem, bardzo dumnym z tego faktu. Postanowił więc stworzyć muzykę w modnym w tamtych czasach stylu lo-fi, el-muzyki. Następnie wszystko to przekształciło się w muzykę w połowie gitarową. Mam gitarę, więc poprosił mnie o zagranie. Zagrałem, powiedział, że jest dobrze, więc tak zostało.

***- Czy to oznacza, że Cassiopeia jest zespołem na topie?***
**I.Ch.-S.:** W tamtych czasach, na początku obecnego stulecia, była bardzo na topie, tak mi się wydaje.

***- A obecnie?***
**I.Ch.-S.:** Obecnie to zespół, który sam określa swój kierunek.

***- Jaki jest podział obowiązków w zespole?***
**I.Ch.-S.:** Słowa tworzymy wspólnie z Sashą Liberzonem. Przynosi jakiś wstępny zarys, razem kombinujemy, zastanawiamy się, w jaki sposób da się do tego śpiewać, następnie – o czym będziemy śpiewać. Tym sposobem krok po kroku powstaje utwór.

***- Co jest bodźcem Twojej twórczości?***
**I.Ch.-S.:** Promile alkoholowe, cóż by innego?

***- Czy to oznacza, że nie ma ona żadnego sensu?***
**I.Ch.-S.:** Ma. Jak to nie ma? Ma dość wieloznaczny sens. Wypowiadamy się w imieniu nie jednego bohatera, lecz licznych i różnorodnych. Nawet jeśli są to postaci absurdalne, posiadają głębokie wnętrze.

***- Teksty zawierają ogrom „kosmosu", obecni są też „przybysze z innych planet"…***
**I.Ch.-S.:** No, skądże znowu, nie taki ogrom, może ze dwadzieścia procent. Jeżeli wspomnieliśmy przybyszy, należy zaznaczyć, że kiedyś również byliśmy przybyszami. Obecnie posiadamy dość rozbudowaną kolekcję osobistych strojów odnoszących się do różnych tematów: Lodowisko, Koziołek, Pszczółka Maja, Zezwierzęcone Zło, na przykład, czy Książę i Żebracy. Zgodzi się Pani, że wszystko to z kosmosem nie ma za wiele wspólnego.

***- W jakim kierunku będzie się rozwijać kolekcja Cassiopei?***
**I.Ch.-S.:** To tak jakby próbować określić drogę powrotną do domu człowieka bardzo pijanego – nie wiadomo, w jakim momencie zawróci i dokąd pójdzie. My również nie wiemy, co będzie z nami.

***- Jak dotychczas po prostu jesteście „rozanieleni błogością"?***
**I.Ch.-S.:** To prawda, jeśli to można tak określić: „rozanieleni błogością"… Oczywisty jest jednak fakt, że nie tylko spędzamy czas na wzajemnym ekscytowaniu się. Czasem jesteśmy rozanieleni, czasem wystraszeni. Na razie jest nam dobrze.

***- Czy są tematy, których nigdy byście nie poruszyli w swoich tekstach?***
**I.Ch.-S.:** Nie ma takich tematów. Jeśli nie mamy jeszcze piosenki na ten temat, oznacza to, że jeszcze do niego nie sięgnęliśmy. Kiedyś jednak to zrobimy.

***- Czyli „granice" własnej wyobraźni nie istnieją?***
**I.Ch.-S.:** Z pewnością są pewne tematy, których wolelibyśmy nie poruszać. Zresztą szczerze. Polityka na przykład. I nie chodzi o samą politykę. Istnieje sposób wypowiedzi, na który nie możemy sobie pozwolić. Jeśli będzie to polityka, to na przykład wymyślimy utwór o Darte Vaderze, który został prezydentem jakiejś zapomnianej planety... Nie jesteśmy zespołem demonstrantów, raczej zespołem „istniejących absurdów". Dlatego nie możemy prezentować haseł politycznych dotyczących aktualnych sytuacji.

***- Czy nie macie czasem chęci zareagować właśnie na aktualną sytuację?***
**I.Ch.-S.:** Jako osoba oczywiście że mogę reagować. Jako autor raczej nie. Często to wcale nie ja kieruję tym twórczym procesem. To improwizacja nieświadomości, a nie z góry określony twórczy wyczyn.

***- Rosyjscy krytycy muzyczni wysoko oceniają twórczość zespołów Cassiopeia Petlya Pristrastiya. Jaką rolę według Ciebie odgrywają takie głosy krytyków? Na przykład, czy określenie „sybirski punk" („punk z Syberii"), użyte w stosunku do Petlya Pristrastiya, trafia w sedno tego, co robisz?***
**I.Ch.-S.:** Nie wiem i w zasadzie nie moją sprawą jest zrozumienie tego, co robię. Nie jestem specjalistą od teorii, nie mam globalnych intencji. Wiem, że na przykład dziennikarze w Moskwie, Alexander Gorbaczow, Ilya Zinin, zaliczają grupę Petlya Pristrastiya do rosyjskiego rocka. W zasadzie powinno tak być, gdyby projekt ten nie miał skandalicznego piętna „muzyki trzeciego gatunku". Jest to jednak ich zdanie. Po prostu robimy to, co przede wszystkim lubimy robić.

***- A co sądzisz na temat określenia Ciebie jako „bohatera lirycznego"?***
**I.Ch.-S.:** No, myślę, że ktoś mocno przesadził. Po prostu nie znają mnie osobiście.

***- Nie zgadzasz się na bycie „bohaterem lirycznym"?***
**I.Ch.-S.:** Zbyt dużo wiem na swój temat, żebym mógł się zgodzić. Być może nawet jestem liryczny, jednak między mną i bohaterem lirycznym istnieje dystans. Nie jest to określenie całkiem przesadzone, jednak niezupełnie trafnie mnie charakteryzuje.

***- Zarówno z jednym, jak i z drugim zespołem podróżujesz z licznymi koncertami. Czy białoruski widz różni się od rosyjskiego?***
**I.Ch.-S.:** Widz białoruski już się do nas przyzwyczaił. Doroślismy do posiadania własnej społeczności. Z tego powodu zawsze mamy ciepłe przyjęcie. Są osoby, które bardzo często przychodzą na koncerty. Znają wszystkie teksty, głośno śpiewają z nami. Czasami przyjeżdżasz do miasta, gdzie nie jesteś dobrze znany, więc to oczywiste, że koncerty w takich miejscach są spokojniejsze. Zdarza się jednak, że publiczność od razu żywo reaguje. To zależy nawet nie od mentalności, bardziej od przygotowania słuchacza.

***- Gdzie jest bardziej „przygotowany"?***
**I.Ch.-S.:** Oczywiście że tutaj. Przede wszystkim liczebnie. Często gramy w knajpie Graffiti. Ostatnie trzy koncerty poszły po prostu „śpiewająco": klub nie mógł pomieścić wszystkich chętnych. Zdarzają się jednak koncerty, na przykład niedawno w Krasnodarze, kiedy przychodzi tylko trzydzieści osób. Pomimo to organizatorzy imprezy byli zadowoleni, ponieważ jak na to miasto to całkiem nieźle, szczególnie jeśli chodzi o zespół, który przyjechał tam po raz pierwszy. I prawdopodobnie, gdy przyjedziemy po raz kolejny, osób będzie znacznie więcej.

***- Czy mógłbyś połączyć zespoły Cassiopeia i Petlya Pristrastiya?***
**I.Ch.-S.:** Petlya to inna sprawa – tu nie da się poskakać w dziwnym stroju. Są to zupełnie inne zespoły, które, pomimo że powstały niemalże w tym samym czasie, bo na początku tego wieku, mają całkiem odrębne koncepcje. Petlya Pristrastiya nie jest kontynuacją Cassiopei, a Cassiopeia nie jest częścią tego drugiego.

***- Jeżeli Cassiopeia to „istniejący absurd", to Petlya Pristrastiya to…***
**I.Ch.-S.:** …To człowiek – księga lamentacji.

***- Co jest źródłem natchnienia dla Petlya Pristrastiya? W przypadku Cassiopei są to promile alkoholu…***
**I.Ch.-S.:** Tu też promile. Tylko że czasami wypijesz i jest ci dobrze, a czasami źle. Kiedy jest dobrze, wtedy Cassiopeia, gdy źle – Petlya Pristrastiya…

***- Z pewnością zespół Cassiopeia jest przygotowany na nieadekwatną reakcję widza. To jasne, wizerunek i teksty mogą sprowokować. Czy zdarzyło się coś, co było prawdziwym zaskoczeniem nawet dla Was?***
**I.Ch.-S.:** Pewnego razu zdarzyło się coś takiego w Moskwie, w klubie „Gogal". Jest to miejsce, gdzie zanim rozpocznie się koncert, może zajrzeć tu każdy. W trakcie próby nagłośnienia śpiewaliśmy utwór o Myszce Mickey. Już kończyliśmy, gdy nagle słyszę, że obok mnie ktoś strasznie przeklina, tak głośno, z taką złością. Przerwaliśmy i rozglądamy się – na progu stoi starsza kobieta i przeklina nas, ponieważ śpiewamy piosenkę o Myszce Mickey. „Po co się tak wysilacie? Mickey Mouse, ten wasz! Fuj! K…, kretyni!" To była prawdziwa patriotka, dlatego piosenka o Mickey była dla niej nie do zniesienia. Oczywiście została wyprowadzona i kontynuowaliśmy próbę.

***- Jak sobie radzisz z „nieznośną lekkością bytu"?***
**I.Ch.-S.:** Dzięki przyjaciołom, bliskim – to zrozumiałe. Staram się nie dopuścić do siebie przypadkowych ludzi, jeśli to możliwe, nie wchodzę w żadne relacje z państwem.

***- Czy uważasz, że Twoją karierę muzyczną wieńczy sukces?***
**I.Ch.-S.:** Sukces jest pojęciem względnym. Wiele osób krytykuje mnie za to, że mało się „kręcę". Gdybym bardziej zajął się projektem, sposobem zarządzania, promocją „produktu" na rynku – wszystko mogłoby przynosić jeszcze większy sukces. Myślę jednak, że nie zgrałbym się z tym wszystkim, szczególnie w pojedynkę. Ogólnie jednak jestem zadowolony, ponieważ jest to o wiele więcej, niż spodziewałem się na początku.

***- Co dziś Cię zaskakuje – w muzyce, w człowieku, na ulicy?***
**I.Ch.-S.:** Zaskakuje? Nie wiem. Może rozkochać, zachwycić, lecz jest to niezupełnie zaskoczenie. Człowiek może bardzo mi się spodobać, prawie do stanu zakochania. A zaskoczenie… Gdybym zobaczył człowieka, który przelatuje z drzewa na drzewo na wysokości 50 metrów, na pewno byłbym zaskoczony. Lub gdybym spotkał człowieka o dwóch głowach, też byłbym zaskoczony, najpierw przestraszony, następnie zaskoczony... Ale na poważnie. Gdy pewnego dnia spotkam prawdziwego geniusza, nie na skalę lokalną, lecz człowieka, który będzie w stanie obalić obecny stan rzeczy, z pewnością będę zaskoczony – jakim cudem go spotkałem. Jest to jednak tak samo prawdopodobne, jak latać z drzewa na drzewo.

***- Nie wierzysz?***
**I.Ch.-S.:** W UFO, kosmitów, yeti wierzę…

***- Zakończmy pompatyczną kropką nad „i". Jak sądzisz, ten świat uratuje…***
**I.Ch.-S.:** Meteoryt tunguski… Czy jeszcze coś?

Артур Клінаў

Калі рухацца ад Праспэкту ўбок, на поўнач альбо на поўдзень, да пэўнай мяжы, за якою сканчаецца тое, што мае дачыненьне да Гораду Сонца, тым больш заўважнай робіцца зьмена характару дэкарацыяў. Калідоры багацьця пачынаюць паступова рассыпацца на аскепкі. Плоскія, але ўсё адно цэльныя дэкарацыі фрагмэнтуюцца. Палацы-сьцены паступова ператвараюцца ў Палацы-вокны. Будынкі ўжо не ствараюць ілюзіі Палацаў, а толькі сымбалічна пазначаюць іх. З усяго багацьця на будове застаецца проста адзнака, кляймо, якое павінна маніфэставаць, што перад намі ня звыклы будынак, але менавіта Палац. Такім кляймом могуць быць некалькі багата апраўленых вокнаў, партал альбо проста некалькі пілястраў, што зьмяшчаюцца на неатынкаванай сьцяне, часам у самых неспадзяваных месцах будынку.

Жоўты Горад паступова ператвараецца ў шэры: шэрым робіцца колер цэглы ягоных сьценаў. Узьнікае адчуваньне, што аўтар, які стварыў гэты твор, зрабіў добрую прамалёўку цэнтру кампазыцыі, але ўскрайкі палатна пакінуў у выглядзе эскізу, дзе паклаў экспрэсіўныя мазкі толькі ў тых нечаканых месцах, якія яму падказала стыхія ўласнай падсьвядомасьці.

Пампэзныя калідоры багацьця пачынаюць згасаць, рабіцца ўсё меней аб'ёмнымі, болей пляскімі, меней празьмернымі, болей сьціплымі і, нарэшце, убогімі. Замест цудоўных Палацаў-сьценаў застаюцца пустыя цагляныя скрыні будынкаў з правільнымі геамэтрычнымі шэрагамі аднолькавых цёмных вокнаў, тры альбо два зь якіх, звычайна тых, што выходзяць на вуліцу, захоўваюць багацьце дэкору, што іх абрамляе. Гэтыя дзіўныя Палацы-вокны катэгарычна заяўляюць гледачу пра сваё высокае паходжаньне, патрабуюць піетэту ў дачыненьні да сябе, прытым што праўда ўжо ня тоіцца з таго боку Палацаў, але відавочная адразу тут. Яна глядзіць на вас з суседняга акна, не таго, што хаваецца ў прыпалацавым парку, а таго, што не саромеецца дэманстраваць сваю галізну тут, проста на вуліцы.

Ствараецца адчуваньне нейкай фантасмагорыі, вялізарнай дэкарацыі, зробленай кімсьці да дзіўнага спэктаклю. Рэальнасьць падменьваецца сцэнаграфіяй, але сцэнаграфія-сьценаграфія распускаецца ў рэальнасьці. Горад Палацаў растае на вачах, згасае, заціхае. Чым далей вы адыходзіце ад яго цэнтру, тым больш ён сыходзіць у шэрае цаглянае сутоньне. Часамі яшчэ можна напаткаць невялікія ўсплёскі: самотны Палац-сьцяну, некім забытую вазу, рэшткі скульптуры ў парку ці даўгую ляпную агароджу з качанамі гіпсавай капусты, але рэальнасьць няўмольная. Горад робіцца ўсё больш і больш ілюзорны, ён зьнікае...



Фрагменты з раману Артура Клінава
«Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца»

Artur Klinau, Fragmenty z powieści
«Przewodnik po Mieście Słońca»
Przełożyła Małgorzata Buchalik
WYDAWNICTWO CZARNE. Wołowiec 2008

Артур Клінаў. «Вежы Гораду Сонца». 2003
Artur Klinau. «The Towers of the SunCity of Dreams». 2003

Jeśli skręcimy z Prospektu na północ lub na południe, dojdziemy do granicy Miasta Słońca i zauważymy wyraźną zmianę scenografii. Przepyszne korytarze stopniowo rozsypują się na kawałki. Płaskie, ale dotąd wciąż całe dekoracje pękają. Pałace-ściany powoli ewoluują w Pałace-okna. Budynki nie tworzą już iluzji Pałaców, ale jedynie je symbolizują. Pozostaje na nich tylko pieczęć, detal sygnalizujący, że mamy przed sobą nie zwykły budynek, ale Pałac. Często jest to kilka bogato oprawionych okien, portal albo po prostu parę pilastrów, przylepionych do nieotynkowanej ściany, czasami w najmniej spodziewanych miejscach fasady.

Żółte Miasto stopniowo zmienia się w Miasto szare; szare stają się cegły jego murów. Można odnieść wrażenie, że autor tego dzieła porządnie dopracował środek kompozycji, ale skraj płótna potraktował po macoszemu, zostawiając na nim goły szkic, przecięty tu i owdzie ekspresyjnym maźnięciem, rzuconym beztrosko w miejsce, które akurat wskazał mu kaprys podświadomości.

Pompatyczne korytarze bogactwa gasną, zwężają się, spłaszczają, tracą rozmach i przepych, w końcu zaś całkiem ubożeją. Miejsce pięknych Pałaców-ścian zajmują puste ceglane kubiki bloków z równymi rzędami identycznych ciemnych okien; zaledwie dwa czy trzy rzędy tych, które wychodzą na ulicę, obramowane są jeszcze jakimiś zdobieniami. Ułomne Pałace-okna nachalnie informują widza, że wywodzą się z lepszych sfer; żądają podziwu i szacunku, ale zza topornych ścian wyziera już naga prawda, w centrum ukryta pod tynkami Pałaców. Prawda ta patrzy na widza z sąsiedniego okna, nie z tamtych w podwórkowym parku, ale z tego tutaj, które nie wstydzi się już pokazać nago na środku ulicy.

Mamy więc fantasmagorię, gigantyczną dekorację dziwnego spektaklu. Scenografię zamiast rzeczywistości, ale scenografię powoli zlewającą się z rzeczywistością. Miasto Pałaców topnieje w oczach, gaśnie, wyparowuje. Im dalej od centrum, tym gęstszy szary, ceglany zmierzch. Czasami zdarzają się jeszcze pojedyncze błyski: stojący samotnie Pałac-ściana, zapomniana waza, zniszczona rzeźba w parku albo długi zdobiony mur z główkami gipsowej kapusty, ale rzeczywistość jest nieubłagana. Miasto staje się coraz bardziej iluzoryczne i w końcu znika.



Аляксей Жданаў. «Досьвітак». 1990
Aliaksej Zhdanau. «Early Morning». 1990

# АДВЕЧНАЕ Ў ВОКАМГНЕННЫМ: СТРАТЭГІІ БЕЛАРУСКАГА СТРЫТ-АРТУ



Андрэй Бусел. З праекту «Aeternus et momentum»
Andrew Busel. From the project «Aeternus et momentum»

Сёлета з 23 чэрвеня па 22 ліпеня ў галерэі сучаснага мастацтва «Ў» быў рэалізаваны праект «Aeternus et momentum». У ягоных межах прайшлі выстава беларускага мастака, прадстаўніка стрыт-арту Андрэя Бусла, дыскусія пра гэты кірунак у культуры й экспэрымэнтальны музычны канцэрт.

У аснове канцэпцыі «Aeternus et momentum» палягаюць некалькі ідэяў. Першая — гэта прыўнясеньне новых сэнсаў у сучасную прастору гораду й ягоную паўсядзённасьць шляхам мастацкае практыкі стрыт-арту. Другая ідэя датычыцца стварэньня новых канатацыяў і інтэрпрэтацыяў агульнапрызнаных шэдэўраў эпохі Рэнэсансу, сьціраньня межаў паміж высокім і вулічным мастацтвам. Трэцяя ідэя — прыцягненьне ўвагі да менскага стрыт-арту й уключэньне яго ў гандлёвае абарачэньне айчыннага культурнага рынку.

Спачатку хацелася б распавесьці пра тэхніку, якую скарыстоўваў мастак. Ягоныя працы, выкананыя ў тэхніцы «cut-out», уяўляюць сабою раздрукаваныя на паперы прынты, некаторыя зь якіх прайшлі папярэднюю камп'ютарную апрацоўку. Затым прынт наклейваецца на выбраную мастаком сьцяну й дапрацоўваецца. Андрэй Бусел дадаткова стварае з паперы й даклейвае складкі на адзеньні, выводзячы такім чынам выяву з аднае плоскасьці ў прастору, вонкі. Такім чынам постаць набывае аб'ём і ўспрымаецца трохмерна, як скульптура. Выкарыстаньне балёнаў і фарбы дазваляе мастаку злучыць прасторы сьцяны й непасрэдна самога памяшканьня. Паводле словаў Андрэя Бусла, у кожнай працы даводзілася зьвяртацца да розных сродкаў: дзесьці — балён, дзесьці трэба было «састарыць» прынт і трохі яго абарваць, дзесьці — дамаляваць. У выніку творы Андрэя ўяўляюць сабою ашаламляльныя вобразы клясычных шэдэўраў, якія нібыта выступаюць скрозь сьцены, як здані ці старажытныя фрэскі. На жаль, падобныя прынты недаўгавечныя. Калі праца разьмешчаная ў будынку, яе максымальны «век» — 2 месяцы, а калі звонку — яшчэ меней.

Для мастакоў стрыт-арту характэрныя распрацоўка й выкарыстаньне свайго ўнікальнага «лягатыпу». У інтэрпрэтацыі Андрэя Бусла такім «лягатыпам» высокага й адвечнага мастацтва ў сьвядомасьці чалавека ёсьць Рэнэсанс. Выкананьне твораў у закінутых, напаўразбураных будынках гораду, якія зьяўляюцца месцамі часовага

жыхарства бяздомных людзей, яшчэ болей узмацняе проціпастаўленьне вечнага й вокамгненнага (aeternus et momentum), высокага й вулічнага мастацтва. Злучэньне ўрбаністычных пабудоваў, тыпавых спальных раёнаў узростам трохі болей за 70 гадоў з шэдэўрамі Рэнэсансу прыводзіць да ўзьнікненьня новых канатацыяў твораў агульнапрызнаных майстроў сусьветнага мастацтва й спрыяе альтэрнатыўнаму ўспрыняцьцю гораду Менску.

Рашэньне пра дэманстрацыю працаў у фармаце фатаграфіяў было абумоўленае, па-першае, немагчымасьцю ажыцьцяўленьня легітымнае выставы ў разбураным будынку. Па-другое, экспазыцыя стрыт-арту ў прасторы галерэі за мяжою ўжо даўно ёсьць звыклаю й распаўсюджанаю практыкай. Пераважна выстаўляецца фота- ці відэадакумэнтацыя, альбо мастакі пераносяць свае праекты на сьцены галерэі (у гэтым выпадку прастора для экспазыцыі патрабуецца вельмі вялікая) ці на палатно.

Творы ж мастака стрыт-арту Андрэя Бусла дэманстраваліся ў выглядзе вялікіх фатаграфіяў (зьнятых на прцягу двух гадоў), раздрукаваных на палатне й нацягнутых на падрамнікі. Прастора галерэі, паводле сьведчаньняў ейных супрацоўнікаў, ніколі не зазнавала такіх зьменаў. Выстаўнае поле было падзеленае на дзьве залі й пафарбаванае ў цёмна-шэры й белы колеры. У першай залі выкарыстоўвалася верхняе асьвятленьне, а ў другой — лякальныя падсьветкі для кожнае працы (гэтая заля давала магчымасьць уявіць тыя месцы, дзе выконваліся творы мастака: сутарэньні, закінутыя й напаўразбураныя будынкі й сьцены з падцёкамі й абсыпаным тынкам).

Асобна хацелася б адзначыць сумесны канцэрт, у якім удзельнічалі музыка-электроншчык і выканаўцы клясычных твораў. Пад уражаньнем ад працаў Андрэя яны пайшлі на музычны экспэрымэнт. Па сутнасьці, іхны праект — гэта сынтэз музычнае клясыкі й шумаў гораду, традыцыйных інструмэнтаў і сучасных тэхнічных сродкаў.

Для Менску й для Беларусі наогул праект «Aeternus et momentum» стаўся важнаю падзеяй. На адкрыцьцё выставы прыйшла вялікая колькасьць людзей. Гэта былі ня толькі заўсёднікі галерэі, зьявіліся й «новыя твары» — прадстаўнікі субкультуры стрыт-арту. Апошнія дастаткова актыўна адрэагавалі на выставу. Некаторыя зь іх прысутнічалі на дыскусіі, дзе ўздымаліся пытаньні пра спосабы экспазыцыі стрыт-арту ў галерэі, пра тое, ці варта гэта рабіць увогуле, абмяркоўвалася, што такое стрыт-арт і што ён мае на мэце, як гэты кірунак трансфармаваўся на працягу 20 гадоў і як пашыраюцца ягоныя лексыка й эстэтычная выразнасьць.

У межах круглага стала найбольш цікавым было пытаньне пра ўзаемадзеяньне гледача й мастака стрыт-арту. Выказвалася думка, што глядач стрыт-арту — гэта асаблівы чалавек, якому не патрабуюцца ні прастора галерэі, ні мапа, дзе пазначанае месцазнаходжаньне працаў стрыт-арту (такое практыкуецца ў Лёндане). Паводле гэтага меркаваньня, аматары стрыт-арту ёсьць пэўнаю прывілеяванаю аўдыторыяй, пашыраць якую з дапамогаю галерэйных выставаў ужо ня мае сэнсу. Варта адзначыць, што элемэнт нечаканасьці, які звычайна прысутнічае пры сустрэчы гледача з творам стрыт-арту, страчваецца, калі такая праца перамешчаная ў галерэю. Псыхалягічны настрой чалавека, які ідзе на выставу вулічнага мастацтва ці падарожнічае па горадзе з гідам па стрыт-арце, нівэлюе гэты эфэкт неспадзяванкі. З гэткім пунктам гледжаньня складана не пагадзіцца.

Аднак было выказанае й іншае меркаваньне, згодна зь якім перамяшчэньне твораў стрыт-арту ня толькі пазбаўляе гледача элемэнту нечаканасьці, але і ўносіць дадатковыя нюансы. Азнаямленьне з новымі актуальнымі практыкамі мастацтва, зь іншым спосабам бачаньня гарадзкое прасторы, а таксама пашырэньне аўдыторы вулічнага мастацтва — усё гэта, як лічаць многія ўдзельнікі круглага стала, ёсьць цалкам адэкватнаю й сучаснаю стратэгіяй арт-рынку.

Варта адзначыць яшчэ адну вельмі важную тэму, што абмяркоўвалася падчас дыскусіі. Гэта праблема захаваньня аўтэнтычнасьці аўтара й ягоных працаў у фармаце галерэйных выставаў ці зь іхным зьяўленьнем на арт-рынку. Ці можна лічыць мастака аўтэнтычным, калі ягоныя творы выстаўляюцца ў галерэі й прадаюцца? Ці ня страчвае ён пры гэтым жаданьне выказвацца ў прасторы гораду? Ці магчыма захаваць балянс паміж рыначнымі стратэгіямі, што існуюць у сьвеце мастацтва, і інтэнцыямі творцы?

Безумоўна, стратэгіі рынку ўплываюць на ўсё нашае жыцьцё, уключаючы й артыстычную прастору. І, як паказвае сусьветная гісторыя, практычна ўсе зьявы суб- і контркультуры раней ці пазьней станавіліся мэйнстрымам. Заклапочанасьць гледачоў і крытыкаў у гэтым выпадку апраўданая, бо складана спрагназаваць, якім чынам зьменіцца творчасьць мастака, калі ягоныя працы патрапяць у рыначнае тавараабарачэньне. Таму меркаваньне, што стрыт-арт, безумоўна, загіне, як толькі стане камэрцыйным (з нэгатыўным сэнсавым адценьнем), наўпрост ператворыцца ў «папсу», — гэта ўсяго толькі заканамерная й лягічная асьцярога, якая тычыцца абсалютна ўсіх сфэраў мастацтва. Не «загінуць» і захаваць сябе ў эпоху камэрцыялізацыі ў сучасным сьвеце ёсьць задачаю «нумар адзін». І гэта датычыцца ня толькі стрыт-арту, а ўсіх мастакоў увогуле, якія першапачаткова не імкнуліся быць рынчна пасьпяховымі.

Яшчэ адно пытаньне, закранутае ў межах круглага стала, — гэта супольнасьць мастакоў стрыт-арту. Ці ёсьць яна ў Менску й Беларусі? Ці патрабуецца ейнае існаваньне на айчынным арт-полі? Можна канстатаваць, што заўсёды будуць прыхільнікі «артадаксальнага» стрыт-арту — тыя, хто ня хоча быць бачным, выяўленым, хто засьцерагае традыцыю гэтага кірунку субкультуры ад чужародных уплываў, хто ня згодны адкрыць значэньне сваіх «лягатыпаў» і вобразаў недасьведчаным людзям. Гэта правамоцная пазыцыя, вартая павагі. Але, з другога боку, заўсёды будуць мастакі, якія хочуць пашырыць эстэтычныя сродкі, прастору, аўдыторыю, — тыя, хто жадае выйсьці за межы «традыцыі».

У нашай краіне й канкрэтна ў Менску не існуе цэнтралізаванага аб'яднаньня мастакоў стрыт-арту. Гэта, хутчэй, разасобленыя групы, сувязі паміж якімі дастаткова слабыя. У пэўнай ступені выстава садзейнічала таму, што прадстаўнікі розных групаў «выявілі» адно аднаго, палепшылася іхная камунікацыя. Напрыклад, высьветлілася, што ў некалькіх гарадах Беларусі існуюць самадрукаваныя выданьні стрыт-арту. На працягу экспазыцыі мастакі абменьваліся тэлефонамі, інфармацыяй, размаўлялі пра тое, дзе й якія «сьцены» ёсьць у Менску ці ў іншым горадзе, выказваліся прапановы зрабіць штосьці супольнае й г. д.

Сёньня стрыт-арт у Беларусі — ня надта актыўны субкультурны кірунак, кепска вядомы на арт-сцэне, дагэтуль дастаткова закрыты. Мастакі лічаць за лепшае ня моцна ўмешвацца ў гарадзкую прастору й сьветаўспрыняцьце месьцічаў. Іхныя творы часьцей за ўсё аддаленыя ад публічных месцаў і цэнтральных вуліцаў, выстаўляюцца не ў галерэях, а ў інтэрнэце. І тут хочацца ўзгадаць словы Сяргея Шабохіна, які, разважаючы пра стратэгіі сучаснага беларускага мастака, заклікае да пераходу ад арт-партызаншчыны да арт-актывізму.



Андрэй Бусел. З праекту «Aeternus et momentum»
Andrew Busel. From the project «Aeternus et momentum»

# ODWIECZNE W PRZEMIJAJĄCYM: STRATEGIE BIAŁORUSKIEGO STREET ARTU



OXA COROBOSS

W tym roku w dniach od 23 czerwca do 22 lipca w Galerii Sztuki Współczesnej „Ŭ" realizowany był projekt „Aeternus et momentum". W ramach projektu odbyła się prezentacja białoruskiego artysty, przedstawiciela street artu, Andreya Busla, a także dyskusja na temat tego kierunku oraz eksperymentalny koncert muzyczny.

U podstaw koncepcji „Aeternus et momentum" leży kilka kwestii. Po pierwsze to przeniesienie nowych idei do współczesnej przestrzeni miasta oraz do jego codzienności drogą artystycznej praktyki street artu. Druga kwestia dotyczy stworzenia nowych konotacji i interpretacji powszechnie uznanych arcydzieł epoki renesansu, zacierania granic pomiędzy wybitnymi dziełami a sztuką uliczną. Trzecia kwestia to przyciągnięcie uwagi do mińskiego street artu oraz włączenie go do rodzimego rynku artystycznego jako towaru.

Na początku chciałoby się wspomnieć o technice stosowanej przez artystę. Jego prace, wykonane w technice cut-out, przedstawiają papierowe wydruki komputerowe, niektóre z nich przeszły wstępne opracowanie na komputerze. Następnie wydruk nakleja się na ścianie i ostatecznie wykańcza się prace. Andrey Busel dodatkowo wykonuje z papieru i dokleja skrawki ubrania, nadając w ten sposób swojemu dziełu dodatkowy wymiar. Dzieło tym samym nabiera objętości i jest odbierane trójwymiarowo – jak rzeźba. Wykorzystanie balonów oraz farb pozwala artyście połączyć przestrzeń ściany bezpośrednio z samym wnętrzem. Według samego Busla, w każdej pracy należy korzystać z różnych środków: czasem jest to balon, czasem postarzenie wydruku, a nawet jego zniszczenie, czasem domalowanie. W rezultacie prace Andreya przedstawiają oszałamiające wrażenie obrazów klasycznych mistrzów, które jakby „wychodzą" ze ściany niczym starożytne polichromie. Niestety, tego typu prace nie są długowieczne. Jeżeli dzieło jest wykonane wewnątrz budynku, jego maksymalna żywotność to dwa miesiące, jeśli na zewnątrz – nawet mniej.

Prace artystów street artu charakteryzują się swoistą metodyką oraz wykorzystaniem unikalnego stylu. Według Andreya Busla takim stylem klasycznej i odwiecznej sztuki w świadomości człowieka jest renesans. Wykonywanie prac w porzuconych, na wpół zniszczonych budynkach, które są tymczasowym miejscem zamieszkania bezdomnych, jeszcze bardziej wzmacnia przekaz konfrontacji odwiecznego i przemijającego (aeternus et momentum), sztuki klasycznej i ulicznej. Połączenie w tym samym miejscu zabudowy urbanistycznej, osiedli typowych budynków mieszkalnych mających już nieco ponad siedemdziesiąt lat z arcydziełami renesansu prowadzi do tworzenia nowych konotacji powszechnie uznanych artystów światowej sztuki. Tworzy alternatywne postrzeganie Mińska.

Decyzja o prezentacji prac w postaci fotografii była spowodowana, po pierwsze, niemożnością zorganizowania oficjalnego zwiedzania w prawie wyburzonym budynku, po drugie, tym że za granicą ekspozycje street artu w galeriach już dawno są rozpowszechnioną praktyką. Przeważnie jest to foto- i wideodokumentacja lub przeniesienie przez artystów własnych dzieł na ściany galerii (w tym przypadku wymagana jest bardzo duża przestrzeń ekspozycyjna), także jako obrazów.

Dzieła artysty Andreya Busla były prezentowane w postaci dużych zdjęć (robionych w ciągu dwóch lat), wydrukowanych na płótnie i naciągniętych na ramy. Wnętrze galerii, według opinii pracowników, nigdy nie było tak odmienione. Pomieszczenie wystawy zostało podzielone na dwie sale oraz pomalowane na kolory ciemnoszary i biały. W pierwszej sali wykorzystano górne oświetlenie, a w drugiej – miejscowe podświetlenie każdej pracy (sala ta pozwala „przenieść się" do tych miejsc, gdzie były wykonane prace artysty: suteryn, porzuconych i na wpół zniszczonych budynków z zagrzybionymi ścianami z obsypującym się tynkiem).

Osobno należałoby wspomnieć o wspólnym koncercie, w którym udział wzięli el-muzyk i wykonawca utworów klasycznych. Będąc pod wrażeniem prac Andreya, odważyli się na muzyczny eksperyment. Właściwie ich projekt to synteza muzycznej klasyki oraz dźwięków miasta, instrumentów tradycyjnych i współczesnych instrumentów elektronicznych.

Dla Mińska oraz dla Białorusi, ogólnie rzecz biorąc, projekt „Aeternus et momentum" był ważnym wydarzeniem. Po pierwsze, na otwarcie wystawy przybyło sporo ludzi. Byli to nie tylko stali bywalcy galerii, ale i nowe twarze, przedstawiciele subkultury street artu. Projekt przyciągnął również uwagę ministra kultury Białorusi Pawła Łatuszki, który osobiście zwiedził wystawę.

Przedstawiciele kultury street artu z zainteresowaniem przyjęli wystawę. Niektórzy brali udział w dyskusji, gdzie podnoszone były kwestie sposobów prezentacji sztuki street artu w galerii, zastanawiano się, czy ma ona w ogóle jakąś wartość, co to jest street art oraz jakie są jego cele, jak ten kierunek transformował się w ciągu dwudziestu lat i jak wzbogaca się jego wymowa oraz estetyka.

Podczas obrad okrągłego stołu najbardziej ciekawe było pytanie o wzajemne oddziaływanie widza i artysty street artu na siebie. Ujawniła się kwestia, że odbiorca street artu to osoba szczególna, która nie potrzebuje przestrzeni galerii ani zaznaczonych punktów na mapie z dziełami street artu (jest to praktykowane w Londynie). Zgodnie z tą tezą zwolennicy street artu stanowią już pewną wyodrębnioną grupę, której powiększać przez wystawy w galerii nie ma sensu. Warto zaznaczyć, iż element zaskoczenia, jaki zwykle towarzyszy przy spotkaniu widza z dziełem street artu, zatraci się, jeżeli dzieło to będzie prezentowane w galerii. Psychologiczne nastawienie człowieka, który idzie na wystawę dzieł ulicznych czy podróżuje po mieście z przewodnikiem po sztuce street artu, zaciera element zaskoczenia. Z tym stwierdzeniem trudno się nie zgodzić.

Zostało również przytoczone inne spojrzenie, zgodnie z którym przeniesienie dzieł street artu, owszem, eliminuje moment zaskoczenia widza, ale i wnosi dodatkowe elementy. Mianowicie prezentuje nowe współczesne praktyki twórcze, inne sposoby postrzegania miejskiej przestrzeni, jak również zwiększa liczbę widzów sztuki ulicznej. To wszystko, z czym się zgadzała większość uczestników obrad okrągłego stołu, jest całkiem trafną, współczesną strategią rynku sztuki.



Warto zaznaczyć jeszcze jeden temat, który był poruszany podczas dyskusji. To problem zachowania autentyczności autora i jego prac w warunkach wystawy w galerii lub w momencie ich pojawienia się na rynku sztuki. Czy można artystę uważać za autentycznego, jeśli jego sztuka jest prezentowana w galeriach lub jest sprzedawana? Czy nie traci się w ten sposób dążenia artysty do wykazania się w przestrzeni miasta? Czy jest możliwość zachowania równowagi pomiędzy strategiami rynku istniejącymi w świecie sztuki a intencjami twórcy?

Oczywiście, rynek ma wpływ na całe nasze życie, również na przestrzeń artystyczną. A jak pokazuje historia świata, praktycznie wszystkie przejawy sub- i kontrkultury wcześniej czy później stawały się głównym nurtem. Obawy odbiorców, krytyków w tym przypadku są uzasadnione, ponieważ trudno prognozować, jaki kształt będzie miała twórczość artysty, gdy jego prace trafią w towarowy obrót rynkowy. Z tego powodu przypuszczenie, że sztuka street artu po prostu zaginie, jeśli tylko zostanie urynkowiona (w negatywnym znaczeniu tego słowa), zamieni się w część popkultury, to jest tylko konsekwentne i logiczne ostrzeżenie, które dotyczy absolutnie wszystkich obszarów artystycznych. Nie „zginąć" i zachować autentyczność na rynku współczesnego świata – to zadanie numer jeden. Dotyczy to nie tylko twórców street artu, ale również innych artystów, którzy na początku nie chcieli dostosować się do rynku.

I jeszcze jedna kwestia poruszona przy okrągłym stole – społeczność artystów street artu. Czy jest ona obecna w Mińsku i na Białorusi? Czy jest dla niej miejsce w przestrzeni białoruskiej sztuki? Można wnioskować, że zawsze znajdą się zwolennicy „konserwatywnego" street artu, ci którzy nie chcą być widoczni, rozpoznani, którzy nie chcą uchylić tajemnicy stylu swoich obrazów ani swojego punktu widzenia nieodpowiednim ludziom. Jest to ich prawo godne uszanowania. Ale z drugiej strony zawsze znajdą się artyści, którzy chcą wzbogacić estetyczne środki przekazu, przestrzeń, poszerzyć widownię, ci którzy chcą wyjść poza obręb „tradycji".

W naszym państwie, a szczególnie w Mińsku, nie istnieje scentralizowane stowarzyszenie artystów street artu. To są raczej osobne grupy dość luźno ze sobą powiązane. W pewnym stopniu ekspozycja pomogła odkryć przedstawicielom różnych grup siebie nawzajem, sprzyjała nawiązaniu komunikacji między nimi. Na przykład okazało się, że w kilku miastach na Białorusi istnieją wydrukowane na własną rękę „albumy" street artu. Podczas trwania wystawy artyści wymieniali się numerami telefonów, informacjami, omawiali, gdzie i jakie możliwe do wykorzystania ściany są w Mińsku lub w innych miastach, deklarowali wykonanie czegoś wspólnie itd.

Obecnie street art na Białorusi to niespecjalnie aktywny kierunek subkultury, źle rozpoznawalny na scenie artystycznej, jak dotąd – dość zamknięty. Artyści uważają, iż lepiej nie ingerować za bardzo w przestrzeń miasta i światopogląd mieszkańców. Dzieła ich najczęściej są oddalone od miejsc publicznych i śródmiejskich ulic, eksponuje się je nie w galeriach, a w Internecie. W tym miejscu chcę przytoczyć słowa Sergeya Shabohina, który po analizie dzieł współczesnego artysty białoruskiego zachęca go do przejścia z „art-partyzantki" do „art-aktywności".

Андрэй Бусел. З праекту «Aeternus et momentum»
Andrew Busel. From the project «Aeternus et momentum»

Артур Клінаў

Горад Сонца быў Горадам мастакоў і паэтаў. Для стварэньня шыкоўнай дэкарацыі багацьця Краіна Шчасьця мела патрэбу ў людзях, якія маглі таленавіта гэта зрабіць. У Горадзе было некалькі Акадэміяў Музаў, дзе навучалі таямніцам Богаваяньня, майстэрству высокага слова, умельству складаць песьні ды маршы Краіны Шчасьця. Ня ўсе, хто выходзіў з Акадэміяў, займаліся тым, чаго ад іх бы жадалі. Камусьці было агідна ваяць Багоў, а хацелася стаць вольным майстрам ды ствараць чыстае мастацтва. Нехта, наадварот, жадаў бы займацца гэтым, але ня мог, як мой бацька, арганізаваць працэс, у якім важная здольнасьць — знаходзіць агульную мову зь людзьмі з апарату Мэтафізыка ці хаця б са старшынямі калгасаў. Хтосьці сьпіўся, так і не пасьпеўшы нічога стварыць. Але ў любым выпадку мастакоў ды паэтаў было ў Горадзе непрапарцыйна шмат, больш чым на такую ж колькасьць пралетарыяў альбо інжынэраў у іншай краіне, у іншым горадзе.

Горад Сонца не любіў сваіх геніяў. Ён сам быў геніяльны й патрабаваў людзей, якія працавалі б толькі на ягоную геніяльнасьць. Іншых ён зьнішчаў, раздушваў, падаўляў, выкідаў зь сябе. Уратавацца геній мог толькі адным спосабам — зьехаць з гэтага Гораду. Гэта была старая традыцыя ня толькі гэтага месца, але і ўсёй тутэйшай зямлі. Ратаваліся, гэта значыць спраўджвалі сваю геніяльнасьць, толькі тыя, хто зьяжджаў адсюль, як зрабілі гэта Марк Шагал, Хаім Суцін ці Ўладзіслаў Стрэмінскі. Тыя, хто не зьяжджаў, — зьнікалі, так і застаючыся невядомымі геніямі, паміраючы на балеі з квашанай капустай, як Аляксей Жданаў, ці зь цяжкога пахмельля, як Анатоль Сыс. Кагосьці проста, як Міхоэлса, зьбівала машына на вуліцы.

Горадам загубленых геніяў называў яго Кім — геніяльны стары, гуру й настаўнік многіх паэтаў гэтага Гораду. Кім Хадзееў, хоць яго рэвалюцыйнае імя й азначала скарочанае Камуністычны Інтэрнацыянал Моладзі, быў з тых людзей, якія ніколі ў Краіне Шчасьця не жылі й ня верылі ў яе плоскае багацьце...

Фрагменты з раману Артура Клінава
«Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца»

Artur Klinau, Fragmenty z powieści
«Przewodnik po Mieście Słońca»
Przełożyła Małgorzata Buchalik
WYDAWNICTWO CZARNE. Wołowiec 2008



Артур Клінаў. «Дахі пад дажджом». 2004
Artur Klinau. «Roofs in the Rain». 2004

Miasto Słońca było miastem artystow i poetow. Żeby zbudować tak wspaniałą dekorację, Kraina Szczęścia potrzebowała utalentowanych tworcow. W Mieście działało kilka Akademii Muz, wprowadzających w arkana rzeźbienia bogow, wysokiego stylu literackiego oraz komponowania marszow i pieśni Krainy Szczęścia. Nie wszyscy opuszczający Akademie zajmowali się tym, czego od nich oczekiwano. Niektorzy brzydzili się bogow, woleli zostać wolnymi artystami i tworzyć czystą sztukę. Inni, na odwrot, chcieliby tworzyć bogow, ale nie potrafili – jak na przykład moj ojciec – tego zorganizować, znaleźć wspolnego języka z ludźmi z organow Metafizyka, albo choćby z przewodniczącymi kołchozow. Jeszcze inni zapili się na śmierć i w ogole nie zdążyli niczego stworzyć. Tak czy inaczej artystow i poetow było w Mieście nieproporcjonalnie wielu, więcej niż przypadało ich zazwyczaj na robotnikow i inżynierow w innych krajach i innych miastach.

Miasto Słońca nie lubiło swoich geniuszy. Samo było genialne i potrzebowało ludzi, ktorzy pracowaliby wyłącznie na jego genialność. Konkurencję dusiło, rozdeptywało, wypluwało z siebie. Geniusza mogło uratować tylko jedno – wyjazd z Miasta. Była to stara tradycja nie tylko samego Miasta, ale i całej tej ziemi. Ratowali się, to znaczy ocalali swoj geniusz, jedynie ci, ktorzy stąd wyjeżdżali, jak Marc Chagall, Chaim Soutin czy Fiodor Dostojewski. Ci, ktorzy zostawali, ginęli, a świat nigdy nie dowiedział się o ich geniuszu. Umierali na beczce z kiszoną kapustą, jak Aleksiej Żdanow, albo z przepicia, jak Anatol Sys. Albo po prostu pod kołami auta na ulicy, jak Salomon Michoels.

Kim nazywał Miasto miastem zmarnowanych geniuszy. Kim sam był genialnym starcem, guru i nauczycielem wielu poetow Miasta. Kim Chadiejew, choć jego rewolucyjne imię stanowiło skrot od Komunistycznej Internacjonalnej Młodzieży, należał do ludzi, ktorzy nigdy nie żyli w Krainie Szczęścia i nie wierzyli w jej płaski przepych. Przez wiele lat pisał dwie książki, jedną o filozofii, ktorą nazywał Dwojnością, i bajkę, ktora przypominała baśń o Krainie Szczęścia. Wielu swoich gości Kim nazywał geniuszami. Zdarzali się ludzie, ktorzy uważali go za diabła, deprawującego i kuszącego dusze młodych poetow. Sadzę, że raczej ich budził, wspołczuł i starał się pomoc. Pewnie wiedział, że Miasto prędzej czy poźniej ich pożre. Tak jak w pewien wrześniowy dzień pożarło samego Kima.



Аляксей Жданаў. «У начным зьзяньні». 1991
Aliaksej Zhdanau. «In the Glimmering of the Night». 1991

Антон Кулон




# КІМ ХАДЗЕЕЎ

## Легенда Менску

Кім Хадзееў, альбо проста Кім, — легендарны дысыдэнт і ўнікальны менскі інтэлектуал савецкіх часоў. Гэта «жывая энцыкляпэдыя», настаўнік многіх таленавітых юнакоў і дзяўчат, што, бы машкара, раіліся вакол яго на працягу 60-х, 70-х, 80-х, 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Скажу больш: імя «Кім» у тыя гады асацыявалася з цэлай школай, своеасаблівай Акадэміяй вольных мастацтваў. У кватэры, дзе жыў Кім, бесьперапынна таўкліся маладыя людзі абодвух палоў, пераважна 16–25-гадовага ўзросту, і сярод гэтага гармідару й тлуму кожнаму «будучаму генію» заўсёды знаходзіўся час для гутаркі з «Гуру» — Кімам Хадзеевым. Размовы вяліся на самыя розныя тэмы, калі не сказаць — на ўсе: пра старажытную паэзію й сучаснае мастацтва, пра палітычныя рэжымы Афрыкі й філязофскія сыстэмы антычнага сьвету, пра культ асобы Сталіна й Анжэлу Дэвіс... Моладзь цягнулася сюды — на Кісялёва, д. 17, кв. 24, — каб паспрачацца ці проста паслухаць Кіма, які, здавалася, ведаў усё.

Іронія лёсу: заўзятага антысаветчыка Кіма бацькі назвалі ў гонар Камуністычнага Інтэрнацыяналу моладзі (КІМ). У 20–30-я гады ХХ стагодзьдзя было модна даваць дзецям такога кшталту імёны: Ленінід, Ленінір, Рэўміра, Акцябрына, Мэлор (Маркс, Энгельс, Ленін) і нават Чалналдзін (Чалюскін на льдзіне).

Адкуль у звычайнага савецкага вартаўніка (вартаўнік — асноўная афіцыйная «пасада» Кіма) зьявіліся такія неабмежаваныя веды й магутны інтэлект, было ўсім вядома. З турмы! І звычайна «новенькаму» распавядалася наступная легенда ці быль. У 1948 годзе, калі Кім быў студэнтам філфаку БДУ, пачалася знакамітая справа ўрачоў-шкоднікаў. Паўсюдна праводзіліся сходы працоўных калектываў, на якіх аднадушна выкрываліся злачынствы лекараў і прымалася прашэньне самым жорсткім чынам пакараць ворагаў народу.

І вось у той гістэрычнай вакханаліі дружнага ляманту: «Укрыжуй яго!» — знайшоўся чалавек, які меў сваю асабістую думку і, больш за тое, яе выказаў! Гэта быў Кім Хадзееў. На чарговым сходзе «па выкрыцьці ворагаў народу» ён узяў слова й проста з трыбуны заявіў: «Сталін — забойца, і не нявінныя ўрачы

павінны быць пакараныя, а ён — Іосіф Сталін!»

За гэты шчыры заклік Кіму далі, здаецца, дзесяць гадоў сталінскага Гулагу, і з таго гістарычнага моманту пачаліся сапраўдныя «ўнівэрсытэты» будучага настаўніка моладзі. А скончыліся яны толькі з надыходам хрушчоўскай адлігі 1956 году. Праўда, у 1962 годзе Кім зноў патрапіў у турму, у славутыя «Красты», але ўжо ненадоўга — усяго на два з паловай гады.

Пэўны час Кім сядзеў у турме КДБ, якая месьцілася ў скляпеньнях будынку КДБ, што й цяпер добра ведамы менчукам, якія любяць хадзіць на Плошчу. Знаходзіцца гэтая знакамітая ўстанова побач з Цэнтральнай кнігарняй, што на праспэкце Незалежнасьці (у тыя часы — праспэкт Сталіна, потым — Леніна, і, нарэшце, перад апошнім перайменаваньнем — праспэкт Скарыны). Вось там і быў першы Кімаў «ўнівэрсытэт». Ягонай базай зьяўлялася цудоўная бібліятэка, якая налічвала сотні тысячаў тамоў самай рознай літаратуры. Там можна было знайсьці кнігі, якія ў звычайныя бібліятэкі не траплялі ці былі пад забаронай. Доступ у кніжную скарбніцу КДБ быў адкрыты для вязьняў. А ўлічваючы, што часу ў зьняволеных было вельмі шмат, лёгка здагадацца, што кніжны фанат, якім быў Кім, знайшоў для сябе ўсё, што душа пажадае. Былы студэнт Хадзееў з галавой акунуўся ў скарбы бібліятэкі.

Кім згадваў таксама пра яшчэ адну крыніцу памнажэньня ведаў. Гэтай крыніцаю былі многія сукамэрнікі, якія мелі на волі навуковыя ступені кандыдатаў і дактароў навук, знакамітыя навукоўцы, а таксама пісьменьнікі, мастакі й іншая творчая інтэлігенцыя.

Адным словам, Кім выйшаў на свабоду з самымі рознымі глыбокімі ведамі. Верагодна, адсутнасьць магчымасьці весьці больш-менш рэгулярныя запісы, дзёньнікі ва ўмовах турмы, а, магчыма, і прыродныя здольнасьці выпрацавалі ў яго звычку трымаць веды ня ў сшытках, а непасрэдна ў сваёй галаве.

Як бы там ні было, але напрыканцы 50-х гадоў мінулага стагодзьдзя ў Менску зьявіўся чалавек сярэдніх гадоў, які бязьлітасна паліў праз муштук «тэрмаядзерныя» цыгарэты «Памір» і лёгка даваў фору любой менскай багемнай тусоўцы самага высокаінтэлектуальнага кшталту. Гэты чалавек выдатна разьбіраўся ў тэатры (дарэчы, знаны рэжысэр У. Рудаў пачынаў свой творчы шлях у «акадэміі Кіма»), цудоўна ведаў гісторыю паэзіі й саму паэзію, гісторыю Кітая, і гісторыю Тайваня, і, мусіць, гісторыю кожнай краіны. Ён выдатна арыентаваўся ў мадэрным мастацтве й мог прачытаць лекцыю пра творчасьць Поля Сэзана. Ён любіў пагаварыць пра Шапэнгаўэра й ня вельмі паважаў савецкага паэта Твардоўскага...

Гэтым чалавекам быў Кім.

Была адна непрыемная акалічнасьць: інтэлектула Кіма ніхто не хацеў браць на працу, нават простым карэктарам у газэту. Але ж трэба было за нешта жыць, як ні круці, — на хлеб неабходна неяк зарабляць.

І выйсьце знайшлося.

Трэба сказаць, што такім людзям, як Кім, шлях у афіцыйную навуку быў наглуха закрыты. Аднак існаваў усё ж адзін «падпольны калідор». Кім, які сам ня быў «аступененым» навукоўцам, пасьпяхова пісаў дысэртацыі іншым! І за гэтую працу плацілі. Непрызнаны савецкі дысыдэнт Хадзееў пісаў за грошы дыплёмы й дысэртацыі ў самых розных галінах грамадзкіх навук.

Я пазнаёміўся з Кімам Хадзеевым недзе на пачатку 70-х гадоў. Да гэтага часу ён напісаў 11 кандыдацкіх і 2 доктарскія дысэртацыі, а таксама безьліч дыплёмаў, курсавых, рэфэратаў і іншай інтэлектуальнай прадукцыі. Гэта цяпер праз інтэрнэт можна ўсё гэта знайсьці й замовіць навуковую працу самага высокага роўню. У тыя ж часы мала хто мог зраўнавацца з Кімам па напісаньні дысэртацыяў, прынамсі, у Менску — ніхто.

Хоць левыя грошы за дысэртацыі былі не малыя, яны ўсё адно не забясьпечвалі спакойнае жыцьцё ў савецкіх умовах. Справа ў тым, што «самая перадавая ў сьвеце» сыстэма вымагала абавязковага працаўладкаваньня кожнага грамадзяніна СССР. Беспрацоўе прыраўноўвалася да дармаедзтва й каралася турэмным зьняволеньнем прыкладна на два гады.

Таму Кім быў вымушаны мець афіцыйнае месца працы. Трэба было патрапіць у такую ўстанову, дзе заводзіцца працоўная кніжка, куды заносіцца запаветны ратавальны запіс: «Залічаны на працу...» Звычайна для людзей без кваліфікацыі — а менавіта да такіх належаў былы гулагаўскі вязень — стандартны запіс гучаў так: «Залічаны на працу ў якасьці вартаўніка». Такім чынам, «вартаўнік» — гэта й была самая галоўная «спэцыяльнасьць» першага менскага інтэлектуала Кіма Хадзеева.

## Казка й вэрмут

Кім пісаў Казку. Тэкст Казкі зьмяшчаўся ў звычайным вучнёўскім сшытку ў клетачку, пісаўся вельмі сьцісла — здавалася, што аўтар старанна эканоміць паперу. Магчыма, у гэтай «эканоміі» адбіваліся зэкаўскія атавізмы былога вязьня. Казка абмяркоўвалася прысутным колам маладых геніяў, і, магчыма, лепшыя «знаходкі» ў тым тэксьце — на рахунку «маладняка». Сам Кім быў надзіва не завідушчы, не амбіцыйны, сьціпла лічыў сябе чалавекам зусім ня творчым. Ён казаў: «Я гатовы аддаць сваё жыцьцё, каб напісаць хоць радок гэтак, як Мандэльштам ці Пастарнак».

Была ў Хадзееўскай «акадэміі» адна рыса, уласьцівая, відавочна, любой багеме — як у Савецкім Саюзе, так і ў цяперашнім «дэмакратычным» грамадзтве з ілюзорнай свабодай, — у Кіма ўвесь час пілі. Пілі «Вэрмут», «Агдам», «Залатую восень», «Водар садоў», азэрбайджанскі партвэйн... Пілі гарэлку, зуброўку, адэкалён «Тройной» і настойку араліі... Пілі ўсё, што гарыць.

І вынікі такога рэжыму жыцьця былі несуцяшальныя. Многія літаральна сьпіваліся, траплялі ў Навінкі на лячэньне ад алькагалізму, а то й ад іншых псыхічных захворваньняў. Некаторыя, пераадолеўшыя багну Кімаўскага раю, сталі вядомымі ў наш час літаратарамі й мастакамі. Аднак пераважнай большасьці ўжо даўно няма на гэтым сьвеце: яны сыйшлі, так і не зразумеўшы, што трапілі ў пастку алькагалізму, так прыгожа афарбаваную пад інтэлектуальныя дысыдэнцкія размовы й чытаньні «геніяльных» вершаў чарговай ахвяры зялёнага зьмея.

Цікава, што Кім, пракіраваўшы сваёй «акадэміяй» цягам некалькіх пакаленьняў «хлопчыкаў» і таксама ўжываючы алькагольныя напоі — і ня менш за многіх маладых, — сам ня стаў алькаголікам.

## Працаголік

Кім ня быў алькаголікам. Але ён быў «працаголікам». Працаваў ён кругласутачна, зь перапынкам на сон. А часам, калі ўзьнікала тэрміновая патрэба, — то й безь перапынку: здаралася, ня спаў па некалькі сутак. Кватэра Кіма нагадвала офіс, там увесь час сноўдаліся нейкія людзі, прыходзілі, выходзілі. Але ніхто не заставаўся без увагі: гаспадар знаходзіў хвілінку, каб перамовіцца з кожным.

Аднак гэта толькі на першы погляд быў гармідар, напраўду жыцьцё Кіма й галоўных дзейных асобаў зь ягонага атачэньня было падпарадкавана нейкаму пляну, толькі ім вядомаму. І калі Кім браўся абмяркоўваць зь якім-небудзь паэтам — на той момант галоўным «мальчыкам» — новы верш генія, то яны гэта рабілі адасобіўшыся, у адзіным жылым вялікім пакоі кімаўскай кватэры, а астатнія пераходзілі на кухню, дзе звычайна расьпівалі віно альбо гарбату. Бывала й наадварот: колькасьць гасьцей была досыць вялікая, і тады ім пакідалі «залю» — г. зн. той вялікі пакой, — а Кім і «дзяжурныя» хлапцы замыкаліся на кухні.

Звычайна такі парадак вытрымліваўся ўвесь дзень і вечар. Потым, калі надыходзіла ноч, людзі, хто мог, разыходзіліся, але заўсёды нехта адзін або й не адзін заставаўся й начаваў — альбо на падлозе, альбо ў ложку, прычым немагчыма было зразумець, дзе сьпіць гаспадар, а дзе госьці. Я наогул ня памятаю, каб Кім спаў, хоць я бываў у ягонай кватэры не адзін год. Здаралася, таксама заставаўся на ноч, але й скрозь сон чуліся інтэлектуальныя размовы пра літаратурныя навінкі альбо пра крызыс у Карыбскім моры.

Могуць запытацца: чым, акрамя расьпіцьця сьпіртавых напояў, займаўся я ў Кіма? Я ж быў чалавекам дакладных навук, а «Кімаўская акадэмія» была ўсё ж гуманітарнай. Мяркую, што адказ ня просты. Але падаецца, што цягнула мяне туды нікому, нават мне, няведамае другое «Я», у якім жылі музыка, паэзія, беларуская старасьвеччына й любоў.

Сустрэчы з Кімам і іншымі людзьмі ягонага асяродзьдзя фактычна далі мне другую, гуманітарную, адукацыю. Неяк я запытаў у чалавека ўнівэрсальных ведаў Кіма Хадзеева: «Што трэба прачытаць з сусьветнай літаратуры, каб быць усебакова развітай асобай?» Ён мне склаў адмысловую праграму, ажыцьцявіць якую можна было гады за два. І я яе выканаў! Там, у гэтым літаратурным сьпісе былі адзначаныя творы сусьветнай літаратуры, клясычныя шэдэўры, бязь веданьня якіх немагчыма ўявіць сабе адукаванага чалавека, прынамсі, на мой погляд. Панарама літаратурных геніяў была досыць шырокая: ад антычных паэтаў Вэргілія й Авідыя да сучасных рускіх пісьменьнікаў Бялова й Распуціна ды нашага беларускага клясыка Васіля Быкава.

Бывала, што ведаў Кіма ўсё ж не хапала, каб напісаць нейкую чарговую дысэртацыю ці артыкул. Тады ён ішоў у бібліятэку Акадэміі навук. Я, як асьпірант, там таксама часта бываў. І калі мы выпадкова сустракаліся, то распачыналі гутарку, а акадэмічны народ у гальштуках і акулярах дзівіўся такому знаёмству. Дзіва было сапраўды незвычайнае: ня часта ўбачыш у бібліятэцы сапраўднага бамжа — немаладога чалавека ў падзёртым швэдары, калматага й прапахлага самымі таннымі цыгарэтамі «Памір».

Гэтым бамжом быў Кім.

## «Ні дня бяз дрочкі»

У 1979 годзе Кіму Хадзееву споўнілася 50 гадоў. Шматлікія прыхільнікі й сябры непрызнанага генія кінуліся хто як мог віншаваць свайго куміра. Быў стол, былі тасты, піліся віно й гарэлка. Сьпявалі песьні непрызнаныя савецкія барды. Былі падарункі: прынесьлі новую патэльню, нехта купіў кашулю (Кім не любіў абновак і гадамі цягаў задрыпаны швэдар).

Аднак самым цэнтральным падарункам быў вучнёўскі сшытак з красамоўным надпісам-загалоўкам: «Ні дня бяз дрочкі!» Гэтае выслоўе, як лёгка здагадацца, ёсьць перафразаванаю назвай знакамітай кнігі Юрыя Алешы «Ни дня без строчки», якая была вельмі папулярная ў тыя савецкія часы. Здаецца, паэт Грыша Трэстман, вялікі майстра розных кпінаў, прынёс той жартаўлівы сшытак.

Загаловак сшытку вельмі ўдала адлюстроўваў фэнамэнальную працаздольнасьць Кіма й разам з тым марнасьць усяго ім зробленага.

## Табурэт як халодная зброя ў руках Кіма

Табурэт у жыцьці чалавека адыгрывае вялікую ролю, калі не найбольшую. Зь ім можа супернічаць хіба толькі ложак, які бярэ на сябе другую з асноўных чалавечых позаў — стан «лёжачы». Першая ж з «асан» працоўнага грамадзяніна — гэта стан «седзячы». І тут на дапамогу вам прыйдзе старэйшы сябра чалавека — табурэт.

Кім Хадзееў адкрыў яшчэ адзін функцыянальны бок табурэта, а менавіта выкарыстаў яго як халодную зброю.

А было так.

